*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
**14**
МАЯ
1993 г.

№ 19 (3689)

КОШТ
3 рублі




Напрыканцы красавіка Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы перажываў амаль прэм'еру. Амаль — таму што спектакль «Гаральд і Мод» К.Хігінса і Ж.-К.Кар'ера, перш як «адпрэм'ерыцца» на вялікай акадэмічнай сцэне, колькі гадоў паспяхова, аншлагава збіраў публіку на малой. Ігар Дзянісаў ды Віктар Манаеў падтрымлівалі поспех гераіні на працягу часу; Ігар Дзянісаў, выводзячы гэтым разам на паклон сваю Мод, не стрымаўся, папрасіў публіку разам з акцёрамі павіншаваць партнёрку... гераіню... актрысу з днём нараджэння, які вось-вось яна мае святкаваць. Стэфанія Станюта яшчэ раз блаславіла залу сваёю ўсмешкаю...

Увесь сцэнічны час Гаральд і Мод гаварылі пра тое, што трэба жыць і быць шчаслівымі, не грэбуючы ніякім жыццёвым імгненнем, ніякай жыццёвай праявай, не прапускаючы ні радаснага, ні балючага, не папускаючы ні сабе, ні свайму шчасцю... Гаральд і Мод. Юнак і кабета найсталага веку...

Ігар Дзянісаў і Стэфанія Станюта гаварылі перадусім пра сябе. Стэфанія Міхайлаўна сказанае ўжо ажыццявіла...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Уладзіміра АНДРОНАВА*

## ЗАСТАЎСЯ -- ТЫДЗЕНЬ!!!

**Яшчэ раз нагадваем, шаноўныя спадарыні і спадары: у гэтыя апошнія дні -- падпіска канчаецца 20 мая -- пастарайцеся зазірнуць на пошту і, калі яшчэ не зрабілі гэтага, прадоўжыце нашу сувязь і сяброўства.**

**Кошт падпіскі на «ЛіМ» -- 240 рублёў на паўгода. Мо і няёмка казаць, але ж гэта -- кошт 1 кг цукру, паўтара бохана «Нарачанскага» хлеба, паўпляшкі гарэлкі ці 200 грамаў больш-менш прыстойнай кілбасы.**

**Адным словам:**

***«Каб год для вас быў неблагім -- падпішыцеся на «ЛіМ»!***

# КОЛА ДЗЁН

*На палітычнай карце свету Беларусь пакуль пафарбавана ў самы сціплы і непрыкметны колер. Хоць з кожным месяцам і расце колькасць краін, якія прызналі нашую дзяржаву, найрад ці ведаў ў іх пра Беларусь сягаюць далей за тое, што гэта адна з рэспублік былога СССР. На мінулым тыдні нашыя дзяржаўныя дзеячы і палітыкі імкнуліся хоць нейкім чынам дапамагчы гімнасту, шасціразоваму алімпійскаму чэмпіёну Віталю Шчэрбу ў справе прапаганды нашай маладой дзяржавы. С. Шушкевіч пабываў з візітам у Румыніі, гутарыў з дзяржаўным сакратаром МЗС Венгрыі А.Келеменам, прыняў даверчыя лісты ад пасланніка Папы рымскага архіепіскапа Г.Мантальво, а В.Кебіч накіраваўся з афіцыйным візітам у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты і ў Індыю. Аднак навіной тыдня стала сціплае паведамленне С.Шушкевіча пра тое, што ён мае запрашэнне на візіт ад прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі і, магчыма, у хуткім часе ім скарыстаецца.*

### ФАКТ ТЫДНЯ

Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД, якая планавалася на 26 траўня, перанесена на 14 траўня. Галоўныя пытанні, якія будуць разгледжаны падчас сустрэчы, традыцыйна датычаць эканомікі і фінансаў. Афіцыйнай версіі — чым выклікана набліжэнне тэрміну «саміту» — пакуль няма. Хутчэй за ўсё Расію і Казахстан трывожыць курс некаторых краін Садружнасці на стварэнне ўласнай валюты і выхад з рублёвай зоны.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

У адзін і той жа час — 29-30 траўня — у Менску пройдзе трэці з'езд БНФ і з'езд аб'яднаных ПКБ і КПБ. І там і там будуць разгледжаны пытанні аб статуце і праграме. Такое «адзінства» наводзіць на думку: ці не кіраваліся лідэры, прызначаючы дату з'ездаў, парадамі аднаго і таго ж астролага, які прадказваў партыям, створаным менавіта ў гэтыя дні, вялікую будучыню?

### СВЯТА ТЫДНЯ

Праваслаўная царква адзначыла 11 траўня дзень Свяціцеля Кірылы, епіскапа Тураўскага. У старажытным беларускім месце Тураве вялікаму залатаслову, філосафу і грамадскаму дзеячу XII стагоддзя быў адкрыты помнік. «Забітаму і цёмнаму» народу ёсць каго прыгадаць, ёсць кім ганарыцца.

### ПАРАЗУМЕННЕ ТЫДНЯ

Белдзяржфілармонія і кіраўніцтва рымска-каталіцкай парафіі падпісалі, нарэшце, пагадненне, пасля чаго каталікі прыпынілі акцыю па захопу касцёла на Залатой Горцы ў Менску. Каталікі-беларусы будуць правіць тут імшу не толькі раніцамі, але і ў іншыя часы. Ёсць дамова таксама пра будаўніцтва новай канцэртнай камернай залы для філармоніі і парафіяльнага дома.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Мы не падобныя ні на адну з рэспублік былога Саюза ў станаўленні нацыянальнай сістэмы адукацыі, навукі, культуры, сістэмы сацыяльнай абароненасці насельніцтва. Трэба ўлічваць, што гэтае станаўленне адбываецца ў надзвычай складаных умовах. Беларусь — бадай, адзіная рэспубліка ў былым Савецкім Саюзе, у якой так моцна атрафіраваны стрыжань менавіта нацыянальнага развіцця... Думаю, што гвалтоўнае, фарсіраванае адраджэнне беларускай мовы ў нас не пройдзе. Тут патрэбна вялікая памяркоўнасць. Як гавораць не без гумару многія цвярозыя галовы, такі ўжо народ нам дастаўся».

**/З інтэрв'ю намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.Дземчука карэспандэнту «Звязды»./**

На гэты раз адыдзем ад сваёй традыцыі і зробім да цытаты кароценькі каментарый: як сцвярджае штодзень газета «Рэспубліка» ў сваім дэвізе — «Не народ для ўрада, а ўрад для народа»...

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

Сусветна вядомы беларускі мастак з Беласточчыны, што зараз знаходзіцца ў Польшчы, Лёнік Тарасэвіч зноў прывёз у Менск свае творы. Яго персанальная выстава адкрылася 12 траўня ў Палацы мастацтваў. Скарыстайце свой шанц пазнаёміцца з творамі беларуса, які пакарыў свет.

### ПЛЮРАЛІЗМ ТЫДНЯ

Газета «Звязда», працягваючы падпісную кампанію, імкнецца аб'яднаць вакол сябе ўсіх беларусаў незалежна ад іх палітычных поглядаў і арыентацый. Інакш цяжка растлумачыць з'яўленне ў ёй 11 траўня артыкула прафесара Івана Антановіча «Мне здаецца, Пазняку падабаецца быць у апазіцыі», а 12 траўня — артыкула Зянона Пазняка «Д'яблы». Пра першы артыкул і ягонага аўтара можна было б гаварыць доўга, аднак пасля з'яўлення другога — гэтая патрэба адпала. Усё стала зразумела і найперш — пазіцыя рэдакцыі...

### ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

11 траўня раніцай у двары свайго офіса быў забіты кіраўнік канцэрна «Белкамінвест», старшыня савета Белбізнесбанка А.ЛісніЧук. Што паслужыла прычынай забойства і хто быў выканаўцам — пакажа следства. Дагэтуль пра падобныя выпадкі мы давядваліся толькі з замежнай, найперш расійскай прэсы. І вось дакацілася гэтая хваля і да нас.



*Урачыста адзначана сорак восьмая гадавіна Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Святочнае шэсце ветэранаў вайны прайшло па традыцыі па праспекце Францішка Скарыны ў Мінску. Да помніка на плошчы Перамогі былі ўскладзены кветкі.*

*Фота БЕЛІНФАРМ*

### З ПОШТЫ ТЫДНЯ

## ЧЫЕ Ж ЯНЫ ГРАМАДЗЯНЕ?

**Напрыканцы красавіка ў ранішнім сямігадзінным выпуску расійскіх «Вестей» дыктарка расказала пра тое, як змогуць ажыццявіць свае правы голасу на расійскім рэферэндуме грамадзяне РФ, што жывуць на Беларусі. Аказваецца, трэба будзе прад'явіць дакумент, што пацвярджае грамадзянства РФ. Далей было сказана літаральна наступнае: «Свое отношение к референдуму могут выразить и полтора миллиона русских, не являющихся гражданами России».**

**У мяне ўзнікла адразу некалькі пытанняў:**

**1. Навошта ў такім разе патрабаваць паперу, што пацвярджае грамадзянства РФ?**

**2. Калі гэтыя паўтара мільёна людзей не грамадзяне Расіі, то чые яны грамадзяне?**

**3. Калі яны ўсё ж грамадзяне Рэспублікі Беларусь, то як можна і трэба расцаніць такую заяву-запрашэнне грамадзянам нашае краіны браць удзел ва ўнутрыпалітычным жыцці чужой дзяржавы? Нават жыхары двух суседніх сельсаветаў не могуць браць удзел у выбарах чужых дэпутатаў, а тут такая шчодрасць!**

**4. Ці не перададзены мы ўсе ўрадам і Вярхоўным Саветам ва ўладанне Расіі, апе пра гэта не ведаем яшчэ?**

**5. Ці не ёсць гэта грубым умяшаннем у нашы ўнутраныя справы? Я вельмі схіляюся да такой думкі.**

**І апошняе. Чаму не ўзнімаецца пытанне пра дэлімітацыю і дэмаркацыю беларуска-расійскае мяжы?**

**М. БУСЕЛ, настаўнік**

*в. Дуброва Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.*

### ПА СЛЯДАХ ВЫСТУПЛЕННЯ «ЛіМа»

## «УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА БЕЛАРУШЧЫНЫ»

— такую назву меў ліст чытача з г. Н. Вільня Валдаса Банайціса, змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 29.01.1993 г. Ліст разгледжаны ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Першы намеснік міністра С. Нічыпаровіч даслаў адказ, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Лічым, што прапанова аўтара ліста аб неабходнасці арганізацыі на дзяржаўным узроўні распаўсюджвання беларускай літаратуры ў Літве заслугоўвае ўвагі і ўсебаковай падтрымкі.

Міністэрства інфармацыі даручыла рэспубліканскай фірме «Белкніга» ў бліжэйшы час заключыць дагаворы аб супрацоўніцтве з арганізацыямі кніжнага гандлю Літвы, аказваць дапамогу ў набыцці і прапагандзе нацыянальнай літаратуры мясцоваму Таварыству беларускай культуры. Гэтае пытанне ўзята міністэрствам на кантроль.

Выдавецтвам даручана ў поўную меру задавальняць заказы кнігагандлёвых арганізацый «Белкнігі» і Белспажывсаюза на нацыянальную літаратуру з улікам заказаў і патрэб беларусаў, якія жывуць у Літве.

Намеснік старшыні праўлення Белспажывсаюза М. Капчан паведаміў, што праўленню Гродзенскага аблспажывсаюза прапанавана палепшыць работу кнігарань па забеспячэнні іх беларускамоўнымі выданнямі, з тым, каб задаволіць попыт жыхароў сваіх раёнаў, а таксама беларусаў, якія жывуць на тэрыторыі суседняй краіны».

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі**

### ЛІСТ З БЕЛАСТОКА

## «РАШУЧА ПРАТЭСТУЕМ!»

Рэдакцыя атрымала копію ліста беларускіх пісьменнікаў з Польшчы на імя старшыні Вярхоўнага суда Беларусі. Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, Віктар Швед і Надзея Артымовіч пішуць:

**«Мы, беларускія пісьменнікі Польшчы, рашуча пратэстуем супроць судовага расследавання ў Беларусі пісьменніцы Святланы Алексіевіч.**

**Судовы працэс над пісьменніцай — гэта ганьба на ўсю цывілізаваную Еўропу!»**

### ПАДПІСКА

## ЧЫТАЙЦЕ «ПАГОНЮ»

З красавіка ў сталічных кіёсках пачала прадавацца газета «Пагоня». Выходзіць яна штотыдзень на васьмі старонках у Гародні. Заснаваў выданне культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына». «Пагоня» з'яўляецца рэгіянальным аглядам, асвятляе беларускае жыццё таксама на Беласточчыне і Віленшчыне, мае ў Вільні свайго ўласнага карэспандэнта.

Газета асвятляе палітычнае і культурнае жыццё вобласці, канфесійныя пытанне, піша пра нацыянальныя меншасці, змяшчае перадрукі з польскай прэсы, архіўныя матэрыялы, творы літаратуры. Рэдакцыя імкнецца пашырыць кола сваіх чытачоў у вобласці, друкуючы звесткі, цікавыя любому чалавеку: рыначныя цэны, валютныя курсы, крымінальную хроніку, судовыя матэрыялы, тэлепраграмы. Такім чынам, журналісты маюць стварыць як бы паралельную абласной газету, каб чым болей людзей чыталі па-беларуску.

Дарэчы, «Пагоня» ўключана ў каталог «Белсаюздруку» і яе можна выпісаць на наступнае паўгодзе. Індэкс газеты 63124, паўгадавая цана 333 рублі.

**П.ГРЭЦКІ**

ЧУЦЕН ГОЛАС НАШ ДАЛЁКА

# 25 САКАВІКА, СІДНЕЙ...

***Беларуская грамада г.Сідней, Аўстралія, урачыста адзначала 75-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.***

У нядзелю з самай раніцы прыгожага, восеньскага ў Аўстраліі дня, беларусы з усіх куткоў вялікага горада і ваколіцаў пачалі з'язджацца ў праваслаўную царкву амерыканскай юрысдыкцыі ў прыгарадзе — Гомбуш, дзе святар-беларус, айцец Ігар /Хлябіч/ адслужыў асобную божую службу за Беларусь і беларускі народ, падчас якой царкоўны хор пад кіраўніцтвам беларускага рэжысёра сп.Аўгена Падгайскага адспяваў прыгожую і сэрцачулую малітву, напісаную нашай вялікай пісьменніцай і паэтэсай Наталляй Арсенневай — «Магутны Божа». Падчас божай службы ў царкве красаваўся бел-чырвона-белы сцяг, з гонарам трыманы сп.Міхасём Ціханам.

Урачыстая акадэмія, прысвечаная гэтай вялікай падзеі ў жыцці і гісторыі беларускага народа, пачалася ў зале беларускага клуба ў прыгарадзе — Файрфільдзе, які быў яшчэ перадчасова перапоўнены беларусамі і іхнімі сябрамі; было вельмі прыемна бачыць некалькі сем'яў нядаўна *прыехаўшых у Аўстралію новых* беларускіх эмігрантаў: сямейку К.Рыдэнкі, спадарства Фрыдман, Ельканові і інш., якія па прыездзе ў Аўстралію адшукалі і далучыліся да беларускай грамады.

Старая беларуская эміграцыя ці, лепей сказаць, аўстралійцы беларускага паходжання з вялікай радасцю іх віталі і прынялі ўсіх да сваёй беларускай сямейкі.

Урачыстую акадэмію адкрыў сп.Міхась Лужынскі, які ў сваёй уступнай прамове падсумаваў галоўныя прабегі гісторыі беларускага народа за апошнія 75 гадоў ад часу абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

З прывітальнымі прамовамі і гутаркамі выступалі сп. М.Зуй, І.Лакцееў і В.Ельканові. Апошні надоечы *стаў кіраўніком Беларускай* праграмы па радыё СБС, 2ЕА ў Сіднеі, і таму звярнуўся да прысутных-слухачоў дапамагаць у яго радыёвай працы...

Бурнымі воплескамі сустракалі прысутныя дасланыя прывітанні, асабліва ад кіраўніка Беларускага Народнага Фронту і ад старшыні Рады БНР, але найбольшымі апладысментамі абдарылі прысутныя 8-гадовую Вольгу Рыдэнка, якая прадэкламавала верш Алеся Гаруна «Ты мой брат, каго зваць Беларусам...»

Афіцыйная частка святкавання скончылася супольным спяваннем беларускага нацыянальнага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», пасля чаго пачаўся супольны абед, прыгатаваны жаночым камітэтам на чале з сп.Вольгай Тамашэўскай, і які, благаслаўлёны айцом Ігарам, зацягнуўся да позняга вечара.

Разыходзіліся прысутныя з перакананнем, што Рэспубліка Беларусь пераможа ўсе цяжкасці і наўмысна робленыя перашкоды і ў параўнальна хуткім часе стане адной з перадавых незалежных краін Еўропы...

**Алесь АЛЕХНІК,**
**генеральны сакратар**
**Згуртавання беларусаў Аўстраліі**

БРЫФІНГ

## З'ЕЗД, ШТО МАЕ СТАЦЬ СУСВЕТНЫМ

ІІ траўня сродкі масавай інфармацыі атрымалі першую афіцыйную інфармацыю наконт правядзення ўлетку г.г. І-га з'езда беларусаў свету /афіцыйная назва мерапрыемства/. На брыфінгу, што быў наладжаны рабочай групай ЗБС «Бацькаўшчына» і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь у Доме літаратара, журналісты і ўсе іншыя цікаўныя асобы маглі даведацца пра прыблізны план з'езда і змест яго праграмы. Пройдзе з'езд 8—10 ліпеня ў асноўным у Мінску, асобныя мерапрыемствы яго праграмы — па рэспубліцы; афіцыйныя пасяджэнні будуць праходзіць у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Апроч таго, надоечы адбудзецца святкаванне Купалля ўдзельнікамі з'езда — на радзіме Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне, а таксама Нарачанскі фестываль. Скарынаўскі цэнтр апякуецца навукова-асветніцкімі мерапрыемствамі, што маюцца адбыцца падчас з'езда ў Нясвіжы й Полацку.

# ПРЭМ'ЕР ПРЫЙШОЎ ДА МАСТАКА

7 мая Старшыня Савета Міністраў РБ Вячаслаў Кебіч наведаў майстэрню вядомага жывапісца, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Міхаіла Савіцкага. Кіраўнік урада павіншаваў мастака з надыходзячым святам. Адбылася гаворка. Субяседнікі згадзіліся, што пераадолець крызіс, у якім апынуліся беларуская дзяржава і грамадства, толькі эканамічнымі сродкамі немагчыма. Неабходна, каб дзяржава надавала болей увагі пытанням культуры.

Мастак пазнаёміў госця са сваімі новымі творамі. Сёння, у адпаведнасці з агульнагарадскімі настроямі, М. Савіцкі бярэ новы тэматычны кірунак. Большасць сюжэтаў пачэрпнуты з Бібліі. У сувязі з гэтым прэм'ер-міністр прыгадаў сваю вандроўку ў Ізраіль, падзяліўся ўражаннямі ад наведання мясцін, дзе нарадзілася Хрысціянства.



Вячаслаў Кебіч, аднак, не быў бы самім сабою, каб, карыстаючыся нагодай і прысутнасцю прэсы, не зрабіць палітычных заяў. Так, ён з задавальненнем адзначыў, што 14 мая на чарговай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці будзе рубам пастаўлена пытанне аб калектыўнай бяспецы. «Кто за коллективную безопасность — налево, остальные — направо», — вызначыў сэнс маючай быць сустрэчы В. Кебіч. Потым з засмучэннем дадаў, што гэта наўрад ці ўзрадуе апазіцыю ў Вярхоўным Савеце, а значыць — чакай новага вітка канфрантацыі. «В то время, как нам очень нужно согласие».

Развітаўшыся з Міхаілам Савіцкім, Вячаслаў Кебіч меў кароткую гутарку з маладым скульптарам Алесем Дранцом /яго майстэрня побач/, аўтарам праекта помніка Першадрукару для Мінска. Прэм'ер-міністр паабяцаў у бліжэйшы час спецыяльна наведаць майстэрню скульптара.

**П. В.**

ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС

# У ВОЛЬНЫ ВЫРАЙ

***8 траўня г.г. у Наваполацку адбыўся ўстаноўчы сход маладых літаратараў Беларусі па стварэнні новай літаратурнай суполкі — Таварыства Вольных Літаратараў. Ініцыятарам і практычным арганізатарам збору выступіў наваполацкі літаратар і выдавец Алесь Аркуш /усяго прысутнічала на ўстаноўчым сходзе каля 20 літаратараў з усяе рэспублікі/.***

Сход абмеркаваў літаратурны працэс у рэспубліцы, у чым бралі ўдзел як самі ўдзельнікі сходу, так і журналісты, госці, запрошаныя з вобласці, і прыняў «Заяву сяброў Таварыства Вольных Літаратараў», якую, як кожную афіцыйную дэкларацыю, тым больш са сферы мастацкага жыцця, ёсць сэнс працытаваць больш шырока. «Вольналітаратарцы» між іншым адзначаюць:

**«Мы вольныя ад догмаў, якімі кіравалася ўсё літаратурнае жыццё ў савецкай Беларусі, мы вольныя ад манапольнай літаратуры, мы вольныя ад чыёйсьці літасці ў вырашэнні нашых літаратурных лёсаў; мы лічым, што гэтага дастаткова, каб называцца вольнымі.**

**Мы не вынаходзім веласіпеда і не лічым сябе калумбамі. Васіль Быкаў у студзені 1989 года, адказваючы на пытанне, ці патрэбен адзіны Саюз пісьменнікаў, сказаў: «Калі мы сапраўды імкнёмся пакончыць з тым, што перажылі, і стаць дэмакратычным грамадствам, то СП у тым выглядзе, у якім ён знаходзіцца сёння, пісьменнікам не патрэбны. І я лічу, што ў будучым на змену яму, відаць, прыйдуць добраахвотныя аб'яднанні пісьменнікаў на аснове агульнасці мастацкіх поглядаў, этнічнай агульнасці або проста па чалавечых схільнасцях. Як гэта было часткова ў 20-ыя гады ў нас або як гэта мае месца зараз у заходняй літаратуры...»**

**Камуністычная дэспатыя на Беларусі зліквідавана, а ў літаратурным жыцці рэспублікі нічога не змянілася. Прыйшоў час на практыцы ажыццяўляць змены. Мы не збіраемся ні з кім варагаваць. Мы хочам быць самастойнымі. Мы не кажам, што мы лепшыя. Як усе літаратары Беларусі, мы марым пра росквіт беларускай літаратуры. Але мы супраць манаполіі ў літаратуры. Мы супраць пратэкцыянізму і карупцыі ў мастацтве. Наш сцяг — бел-чырвона-белы, але мы супраць псеўдафальклорных нацыяналістычных межаў у мастацтве. Наша бацькаўшчына — Беларусь, а радзіма — планета Зямля. І мы пачынаем».**

Подпісы пад заявай паставілі:

**Алесь Аркуш, Павал Бурдыка, Славамір Адамовіч, Юрась Пацюпа, Юры Гумянюк, Анжаліна Дабравольская, Ігар Сідарук, Лера Сом, Мікола Касцюкевіч, Юрась Лаўрык, Лявон Вольскі, Юрас Карпаў, Вінцэсь Мудроў, Алесь Касцень, Алесь Туровіч, Сяржук Мінскевіч.**

Абмеркаваны таксама і статут суполкі, якая мае на мэце зарэгістравацца, як гэта і належыць, у Міністэрстве юстыцыі як юрыдычна паўнацэнная арганізацыя рэспубліканскага маштабу. Як звычайна, выбрана кіраўніцтва суполкі: два каардынатары — А.Аркуш /Наваполацк/ і Ю.Гумянюк /Гародня/, і рада — сябры рады С.Адамовіч /Мінск/, І.Сідарук /Кобрын/, Ю.Пацюпа /Гародня/. У бліжэйшых планах новага таварыства таксама *і стварэнне часопіса* «Калоссе»...

●

Што ж можна дадаць у якасці каментарыя да падзеі і да заявы? У 1932 годзе вядомай пастановай ЦК КПБ «Аб рэарганізацыі творчых суполак» была перапынена традыцыя, так бы мовіць, гуртавога плюралізму ў краіне СССР. І вось ажно ў 1993 годзе маладыя беларускія літаратары, пасля няўдалага эксперыменту з «Тутэйшымі», пасля дарэмных спроб неяк упісацца ў літаратурны працэс праз рарытэтныя структуры — СП, дзяржвыдавецтвы, што сваю ўвагу засяродзілі /у цяперашні момант/ на здабыванні звышпрыбыткаў, — наважыліся, урэшце, на такі мужны крок як стварэнне незалежнай /ад дзяржавы/ суполкі вольных літаратараў. Па сутнасці, хоць бы намінальна — для пачатку — адноўлена колішняя літаратурная традыцыя /успомнім «Маладняк», «Узвышша», віцебскае таварыства Сцвярджальнікаў Новага Мастацтва *20-ых гг.; «Бабілён», «Тутэйшыя» ў* 80-ыя гады/. Што будзе атрымлівацца надалей у Таварыства Вольных Літаратараў — залежыць, перш за ўсё, ад іхняе волі, настойлівасці і ўвогуле кемлівасці. Дай Бог ім таго!

А ў культуралагічным сэнсе мы ўвогуле бачым далейшае пашырэнне натуральнага працэсу дыферэнцыяцыі культуры і мастацтва: дзяржаўна-патрыятычны афіцыёз і «чыстае» мастацтва ўвачавідкі разыходзяцца па яскрава асобных полюсах. І, відаць, наперадзе мы пабачым і пачуем у гэтым плане яшчэ шмат чаго.

**Юрась ЗАЛОСКА**

# АДУМАЙЦЕСЯ!

## *Адкрыты ліст да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

Сябры менскага клуба «Спадчына» выказваюць свой рашучы *пратэст супраць жадання дэпу*тацкай большасці ўнесці на разгляд чарговай сесіі ВС Беларусі ў спіс, які будзе выносіцца на рэферэндум, пытанне «Аб наданні расійскай мове статуса дзяржаўнай». Мы лічым, што вынясенне гэтай праблемы на рэферэндум з'яўляецца ганебным для нацыі. Гэта зневажае гонар і годнасць нацыі, выклікае абурэнне кожнага свядомага беларуса. Міжволі думаеш: дзе ж мы жывём, у якой паднявольнай калоніі, у які імперскі час, пад чыім ярмом і панаваннем знаходзімся, каму пакланяемся і прыслугоўваем? Былыя партапаратчыкі і іх дэпутацкая большасць у Вярхоўным Савеце заклікаюць нас да памяркоўнасці, да талерантнасці, да рахманасці, а самі абражаюць нашую мову, *нашыя нацыянальныя сімвалы*, ідуць на адкрытую канфрантацыю, процістаянне, барацьбу, на раскол грамадства. Няўжо яны лічаць нас за дурняў, а наш народ за быдла, якое ўсё сцерпіць? Няўжо яны разлічваюць, што іхнія хітрыкі застануцца незаўважанымі, без усенароднага асуджэння?

Хочам звярнуць увагу, што чарговае мусіраванне праблемы двухмоўя пачынаецца дэпутацкай большасцю менавіта ў такія моманты, калі яна пачынае адчуваць сябе няўтульна, калі яна пачынае несці нейкую паразу. Зведала паражэнне партбюракратыя ў Расіі на рэферэндуме — і адразу ў Менску зноў падымаецца каланіяльная ідэя двухмоўя і вынясення гэтага пытання на рэферэндум. І робіцца гэта дзеля *калатнечы ў грамадстве, распаль*вання варожасці, давядзення яго да грамадзянскай вайны. А грамадзянскую вайну бальшавікі могуць весці і нават перамагаць у ёй. Гэта адзінае, што яны асвоілі тэарэтычна і практычна, дзе за цаной чалавечых жыццяў яны ніколі не пастаяць. Але сёння адкрыта заяўляць аб гэтым пакуль не хапае мужнасці. Не тыя ўмовы, не тая ўжо краіна, не той ужо народ, у якім цалкам адсутнічае ваяўнічасць і жаданне перамогі ў грамадзянскай бойцы. А калі так, то яго трэба падштурхнуць, а дзеля гэтага яго трэба справакаваць, абразіць, выклікаць штучнае супрацьстаянне. Вось і пачынаюць расшукваць розныя зачэпкі, раздзьмухваюць да неверагодных памераў праблемы мовы ці то ваенных саюзаў.

А ў гэты час краіна коціцца да краху, рушыцца эканоміка, развальваецца сельская гаспадарка і прамысловасць, ідзе адкрытае рабаванне багацця дзяржавы, рабаванне народа, чыніцца над ім гвалт. Складваецца ўражанне, што дэпутацкая большасць свядома ідзе на развал дзяржавы, абяднение народа.

Мы заклікаем дэпутатаў: хопіць выпрабоўваць цярпенне нашага народа! Спыніцеся ў сваёй антынацыянальнай, антыбеларускай накіраванасці, спыніце сваю беларусафобію! У рэшце рэшт, пачніце прафесійна займацца праблемамі дзяржаўнага будаўніцтва, вытворчасцю, сельскай гаспадаркай, эканомікай, сацыяльнымі праблемамі, дабрабытам народа.

**Сябры клуба «Спадчына»**

## З ПОШТЫ ЛіМа

# СПЕКУЛЯЦЫЯ ВАКОЛ АДНОЙ АКЦЫІ

Пытанне аб статусе беларускай мовы ў сучасны момант набыло востры палітычны характар. Прыхільнікі так званага двухмоўя дамагаюцца адмены шэрагу палажэнняў Закона аб мовах, імкнуцца надаць рускай мове статус дзяржаўнай. Пры гэтым для дасягнення сваіх мэт робяцца не зусім тактоўныя крокі і маніпуляцыі з грамадскай думкай.

Увагу чытачоў хачу засяродзіць на адным сацыялагічным даследаванні -- «Аб прыхільнасці насельніцтва Беларусі да ўвядзення другой дзяржаўнай мовы», — якое, як сведчыць газета «Мы и время» /N 1, 1993/, было праведзена ў снежні 1992 г. Інстытутам сацыялогіі АНБ.

Напачатку крыху тэорыі. Сацыялагічнае даследаванне навукоўцы вызначаюць як сістэму лагічна паслядоўных метадалагічных, метадычных і арганізацыйна-тэхнічных працэдур, звязаных паміж сабой адзінай мэтай: атрымаць дакладныя дадзеныя аб вывучаемай з'яве або працэсе для іх наступнага выкарыстання ў практыцы. Сацыялагічнае даследаванне ўключае ў сябе чатыры этапы: падрыхтоўку даследавання; збор першаснай сацыялагічнай інфармацыі; апрацоўку сабранай інфармацыі на ЭВМ; аналіз апрацаванай інфармацыі, падрыхтоўку справаздачы або аналітычнай даведкі па выніках даследавання, фармуляванне вывадаў і прапаноў. У залежнасці ад глыбіні, маштабу і складанасці вырашаемых задач вылучаюць тры асноўныя віды сацыялагічных даследаванняў: разведвальнае /зандажнае/, апісальнае і аналітычнае.

Праблемы, звязаныя з функцыянаваннем дзяржаўнай або дзяржаўных моў, могуць вывучацца, на наш погляд, толькі шляхам правядзення аналітычнага даследавання, у ходзе якога будзе пастаўлена мэта не толькі апісання структурных элементаў вывучаемай праблемы, але і выяўлены прычыны, якія ляжаць у яе аснове і абумоўліваюць характар, распаўсюджанасць, вастрыню і іншыя ўласцівыя ёй рысы. Замест гэтага сацыёлагі з Акадэміі навук Беларусі праз друк і радыё распаўсюдзілі першасную сацыялагічную інфармацыю, атрыманую шляхам масавага апытання насельніцтва, дзе 3/4 апытаных не выказалі пярэчання аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай, і на яе падставе зрабілі кан'юнктурныя вывады. Калі ж быць аб'ектыўным, то гэтыя дадзеныя сведчаць аб талерантнасці беларусаў, іх павазе да культуры іншага народа, чаго гэтак не стае многім рускамоўным таварышам.

Зыходзячы з мэты даследавання і яго важкасці для лёсу ўсяго беларускага народа, напэўна, крыніцай сацыялагічнай інфармацыі павінна было б быць спецыялізаванае апытанне кампетэнтных асоб, чыя прафесійная дзейнасць трывала звязана з прадметам даследавання і чые грунтоўныя веды, жыццёвы вопыт дазваляюць рабіць аўтарытэтныя заключэнні. Правёўшы даследаванне на падставе такога апытання, можна было б зрабіць правільныя і кампетэнтныя вывады, даць па-сапраўднаму навукова абгрунтаваныя прапановы па развіцці моў у Беларусі.

Выклікае сумненне і тое, што даследаванне праблемы аб дзяржаўнасці моў магло быць праведзена за месяц /снежань 1992 г./. Навукоўцам вядома, што толькі для распрацоўкі праграмы і плана даследавання такога маштабу патрабуецца не менш трох месяцаў, а на ўсё даследаванне — звыш дзесяці. Пад выглядам сацыялагічнага даследавання нам прадставілі вынікі рэйтынгавага апытання насельніцтва Беларусі, з мэтай атрымаць прагнозныя вынікі магчымага рэферэндуму аб дзяржаўных мовах, які імкнецца правесці былая партнаменклатура.

Сацыялагічныя даследаванні адрозніваюцца ад іншых навуковых даследаванняў і тым, што тут аналізуецца не сама з'ява, а толькі яе адлюстраванне ў выглядзе паняццяў і тэрмінаў. Таму напачатку сацыёлагі фармулююць гіпотэзу даследавання, якая затым пацвярджаецца або абвяргаецца. З публікацый нам невядома, якая гіпотэза даследуемай праблемы было вылучана навукоўцамі і ці была яна абвергнута або пацверджана.

З усяго гэтага вынікае, што ніякага дакладнага сацыялагічнага даследавання праблем, звязаных з магчымым увядзеннем другой дзяржаўнай мовы ў Рэспубліцы Беларусь, не праводзілася. Тут мы бачым больш палітыканства, чым навукі. Сапраўды, калі супрацоўнікі Інстытута сацыялогіі прыхільна ставяцца да надання рускай мове статуса дзяржаўнай, то гонарам для іх з'явіліся б даследаванні такіх пытанняў, як неабходнасць беларусам другой дзяржаўнай мовы, гістарычныя і сацыяльна-эканамічныя прычыны функцыянавання двухмоўя ў Беларусі і гэтак далей. Пазнаёміцца са справаздачамі такіх даследаванняў было б цікава і карысна ўсім грамадзянам рэспублікі.

Адначасова трэба правесці сацыялагічныя даследаванні і праблем, звязаных з развіццём беларускай мовы. Высветліць усе прычыны яе выцяснення з дзяржаўных і навучальных устаноў, з дзіцячых садкоў і школ, з кватэр гараджан і хат вяскоўцаў, з радыё, тэлебачання і друку; прычыны змены моўнай палітыкі КПСС- КПБ у Беларусі ў 1932 годзе на супрацьлеглую і чаму беларусам недастаткова мець адну дзяржаўную мову, а патрабуецца дзве ці нават тры, хто зацікаўлены ў тым, каб руская мова стала дзяржаўнай у Беларусі, і гэтак далей.

Вось пытанні, якія патрабуюць клапатлівага і ўдумлівага даследчыка-сацыёлага. А рабіць вывады па моўнай праблеме, грунтуючыся толькі на падставе аднаго апытання насельніцтва, прабачце мне, шаноўныя сацыёлагі, гэта не навука, а нешта іншае. Тая частка грамадскасці Беларусі, якая была ўведзена ў зман вынікамі «снежаньскага сацыялагічнага даследавання», разбярэцца ў чым справа і адрэагуе адпаведным чынам. Спекуляваць на талерантнасці беларусаў не да твару рускамоўным навукоўцам, яны самі павінны вучыцца цярпімасці і талерантнасці, і ў тым ліку да культуры карэннага народа Беларусі.

У друку час ад часу з'яўляюцца такога ж роду «даследаванні» і па іншых пытаннях грамадска-палітычнага жыцця. Мэта ў іх адна — павярнуць кола гісторыі ў адваротным напрамку, усталяваць у Беларусі таталітарны рэжым, забараніць беларускую мову, ліквідаваць нацыянальную адметнасць беларусаў, ператварыць Беларусь ва ўскраінную правінцыю Расіі, выкарыстоўваючы дзеля гэтых брудных спраў талерантнасць беларусаў. Але лёс тых, хто імкнецца павярнуць гісторыю назад, вядомы. Я ўпэўнены, што недалёкі той час, калі беларуская мова зойме ў грамадскім і культурным жыцці адроджанай Беларусі належнае ёй месца, і для гэтага ўсе неабходныя падставы ёсць.

**Міхась АНТОНЕНКА,**
**загадчык сектара сацыяльнага развіцця АПК Беларускага навукова-даследчага інстытута эканамічных праблем АПК, кандыдат эканамічных навук, член Цэнтральнай рады Беларускай сялянскай партыі**

---

**Васіль ВІТКА**

# ЧАТЫРЫ ВЕРШЫ

## ПЕРАД ТВАІМ ПАРТРЭТАМ

*Памяці Вольгі Рыгораўны*

Найдаражэйшы за ўсе скарбы
Застаўся ён мне, здымак твой,
Аблічча чорна-белай фарбы,
Але ўсіх колераў душой.

Я з ім маўчу і размаўляю,
Да кожнай рыскі пазнаю
Свет нашых снежаняў і маяў
І страту горкую сваю.

Пакорны перад Божым страхам
І сам у тлуме і ў цішы
Ужо нясу, як урну з прахам,
Тло ўласнае свае душы.

*27.04.1993*

## САСНОВЫ САБОР

*Сяргею ГРАХОЎСКАМУ*

На пераклічку! — гучыць ізноў,
Як «на малітву шапкі далоў!» —
Загад па канвойнай камандзе.

Пералічыўся і строем пайшоў
Служыць самаўладнай бандзе.

Пералічыўся?
Пералічыўся.
А памаліўся?
Не памаліўся.

Далёка-далёк мой сасновы сабор.
Хоць бы паспець да світальных зор,
Пабачыць яшчэ незабыты бор,

Як маладзік да вяршэчка сасны
Кранууўся сярэбраным рогам,
Паслухаць, як моляцца Богу яны,
Як сосны гавораць з Богам!

Перагукнуліся тапары,
Звонам азваліся пілы.
Зноў Судны мой дзень
распачаўся ў бары.
Госпадзі, дай мне сілы.

Сыходзяць слязамі ўчарашнія пні.
Канчаю малітву
У цішыні
Зноў перад ёю,
Святою,
Як перад роднай
Сястрою.

Даруй мне, даруй,
Калі можаш, сястра,
Ды сам я сабе не дарую.
Здаецца, даўно і забыцца пара,
Як молішся ты,
Я пілую.

Пілую,
Пілую
Жывую,
Яшчэ ўсё
Жывую,
Жывую.

*15.12.1992*

## БЯССОННІЦА

*Алене ВАСІЛЕВІЧ*

Хто там блукае
Ля падваконня?
Чую спрасоння,
Што падваконніца.

Ні свет, ні зара
Гукае,
Грукае ў шыбу
Бяссонніца.

Здарова была, ахоўніца,
Збавіцелька ў цяжкім жыцці.
Няхай цябе ўсе староняцца
Шчаслівыя ноч прахрапці.

А што без цябе
Я зрабіць бы паспеў,
Пакутамі дня прыкуты

Да болю трывог,
Ад якіх анямеў
У роспачы дзённае смуты?

Цяпер ты адзіная
Штоначы
Ратуеш: — Не спі,
Не маўчы, не маўчы,

Шукай не сабе паратунку,
А для душы абновы... —
І шторaз падкінеш думку,
Напомніш забытыя словы.

Здарова была, неўтаймоўніца,
Памочніца і нястомніца,
Начная мая надомніца,
На старасці год палюбоўніца.

*17.12.1992*

## ПАДКАЛОДНЫМ ДВУХЯЗЫКІМ

Зычліўцы народныя,
Падкалодныя,
Чаму так упарта зычыце
Вы нам сваё «двуязычие»?

Даўно сам народ без прынук
Уцяміў, намер ваш які:
Ні ў кога жывога, толькі ў гадзюк,
Дапраўды, па два языкі.

*16.12.1992*

---

## РЭЗАНАНС

# ЗАРПЛАТА ПАВЯЛІЧАНА

### Аб пераглядзе тарыфных разрадаў работнікаў культуры і мастацтва

На дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання Камісіяй па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, у прыватнасці, у выступленні намесніка старшыні камісіі, народнага дэпутата А. Трусава, уздымаліся пытанні па сацыяльнай абароне і павелічэнні заработнай платы работнікам культуры і мастацтва. У адпаведнасці з даручэннем Савета Міністраў Дзяржкампрацы разгледзеў у межах сваёй кампетэнцыі ўзнятыя пытанні і паведаміў:

«Пытанне павелічэння заработнай платы работнікаў культуры і мастацтва Дзяржкампрацы разглядаліся неаднаразова.

У адпаведнасці з пастановамі Савета Міністраў ад 24.09.92 г. N 587 і ад 30.10.92 г. N 658, Дзяржкампрацы ад 30.09.92 г. N 47 і ад 09.11.92 г. N 56 на 2 разрады павышаны тарыфныя разрады вядучых майстроў сцэны, артыстаў вышэйшай катэгорыі, мастацкага персаналу тэатраў /мастацкі кіраўнік, галоўныя: рэжысёр, дырыжор, балетмайстар/ і на 1 разрад павялічаны тарыфныя разрады і каэфіцыенты артыстычнага персаналу тэатраў і другіх работнікаў культурна-асветных устаноў.

Наступным этапам павелічэння заработнай платы работнікам мастацтва з'яўляецца ўвядзенне ў дзеянне пастановы Дзяржкампрацы ад 21.01.93 г. N 6. Ёю з 1 студзеня 1993 года зацверджана новая рэдакцыя адзінай тарыфнай сеткі работнікаў прадпрыемстваў і ўстаноў, якія фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Пастановай прадугледжаны больш высокі ўзровень тарыфных разрадаў і каэфіцыентаў у спецыялістаў тэатральна-відовішчных устаноў у параўнанні са спецыялістамі адпаведнай кваліфікацыі ў народнай адукацыі, ахове здароўя, навукі. У выніку ўзровень заработнай платы работнікаў тэатральна-відовішчных устаноў са студзеня 1993 г. у параўнанні са снежнем 1992 г. узрос амаль у 1,8 раза. Для параўнання: у педагагічных работнікаў гэтае павелічэнне склала 1,7 раза.

Дзеючыя памеры даплат спецыялістам, якія маюць ганаровыя званні, зацверджаны былымі саюзнымі органамі. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета ад 13 мая 1992 г. зацверджана Палажэнне аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з гэтым Палажэннем ганаровыя званні Рэспублікі Беларусь прысвойваюцца за вялікія заслугі ў развіцці народнай гаспадаркі, за высокае прафесійнае майстэрства і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Разам з тым матэрыяльнае заахвочванне асобам, якім прысвоена ганаровае званне, Палажэннем не прадугледжана. Тым не менш Дзяржкампрацы захаваў устаноўленыя былымі саюзнымі органамі размеры даплат спецыялістам і другім работнікам, якім прысвоены ганаровыя званні.

У цяперашні час аплата працы спецыялістам ажыццяўляецца ў адпаведнасці з размеркаваннем іх па разрадах і каэфіцыентах адзінай тарыфнай сеткі і з улікам іх кваліфікацыйнага ўзроўню.

Кваліфікацыйныя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да настаўніка, артыста, урача і другіх спецыялістаў вышэйшай катэгорыі, прадугледжваюць выдатныя і стабільныя вынікі дзейнасці, высокі рэйтынг, значны ўклад у развіццё асветы, культуры, мастацтва, аховы здароўя, аўтарскі падыход. Таму спецыялісту, які мае ганаровае званне, можа быць прысвоена вышэйшая кваліфікацыйная катэгорыя, устаноўлена надбаўка ў памеры да 50 працэнтаў службовага акладу і больш высокая прэмія».

*5 мая ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Мінску Беларускі ПЭН-цэнтр наладзіў вечар-сустрэчу з Васілём Быкавым. Фактычна, адбылася звыклая сустрэча чытачоў з пісьменнікам, на якой пісьменнік адказваў на пытанні прыхільнікаў сваёй творчасці, што паступалі ў пісьмовай форме і праз мікрафоны з залы /нешта накшталт колішніх Астанкінскіх сустрэч/, разважаў пра жыццё ўвогуле, дзяліўся сваімі поглядамі на стан і лёс літаратуры і мастацтва ў сучасных варунках.*

*«Як на споведзь...», —значылася ў запрашэнні ПЭН-цэнтра на гэты вечар. І сапраўды, Быкаў адказваў на пытанні, гаварыў канкрэтна, сцісла, але ёмка і шчыра. Хоць, падкрэслім, пытанні на асабістую тэму «праходзілі» вельмі цяжка, пакуль зала ўрэшце не зразумела, што сваёй персонай пісьменнік апякуецца найменш. І, дарэчы, ён сам напачатку паўшчуваў вядучага вечара, прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна за празмерную гіпербалізацыю «апостальскай постаці» пісьменніка...*

*Пра што гаварыў Быкаў? Роскід пытанняў да пісьменніка быў самы шырокі /відаць, з-за разнастайнасці аўдыторыі — вучні, студэнты, навукоўцы, пенсіянеры і г. д./: ад «Якія сны вам сняцца найчасцей?» да — «Ці былі калі камуністам і ці захавалі партыйны білет?»... Адступаючы ад канкрэтных пытанняў, у рэмарках, пісьменнік выказаўся, між іншым, у абарону пісьменніцкай свабоды і грамадзянскай годнасці С. Алексіевіч; высока ацаніў чалавечыя якасці З. Пазняка; рэзка негатыўна выказаўся наконт «пэўнай пазіцыі» Беларускага тэлебачання /«пасля выступу па ім з каментарам да падзей 1 мая г. г. у Маскве сп. Чыкіна — маёй нагі на БТ не будзе»/ і г. д.*

*Але ўсё-такі галоўнае, на маю думку, было на сустрэчы іншае: за апошнія колькі гадоў гэта адна з ПІСЬМЕННІЦКІХ сустрэч Быкава з грамадскасцю. Ён і сам гэта адзначыў, падкрэсліўшы, што выказваецца іменна як прыватная асоба, як мастак, літаратар, а не палітычны дзеяч. Чаго-чаго, а палітыкі ў Быкава апошнім часам не бракавала... І вось — як быццам нешта добра знаёмае, прыемнае, але прызабытае... — пісьменнік гаворыць не пра палітыку і «тых з гэтымі», а — пра ЖЫЦЦЁ ЎВОГУЛЕ, пра Яе Вялікасць Літаратуру, пра магчымасць мастацкага ўвасаблення нашага часу. Ды каб звярнуцца з такім словам да людства, пісьменнік зараз мусіць — што нечувана ў гісторыі беларускай літаратуры! — АПЛАЦІЦЬ гэткую магчымасць: дзякуй, дапамагла сродкамі ПЭН-цэнтру вядомая наша фірма «Дайнова»... Але ж ссумаваўся чытач, літаратурна-мастацкая грамадскасць па такіх сустрэчах — гэта відавочна: у зале можна было бачыць скрозь работнікаў Інстытута літаратуры, выдавецтваў, рэдакцый, пісьменнікаў. Усё-такі адной палітыкай не жывы чалавек; мастацтва ў шырокім сэнсе, у тым ліку і самасвядомасць мастацтва і мастака, — застаецца духоўным апірышчам і выратавальнікам любога грамадства — і таталітарнага, і посттаталітарнага, і наогул...*

*Быкаў у заключэнне і выказаў пажаданне чытачам не губляць сувязі з мастацтвам, нягледзячы ні на якія катаклізмы часу, заставацца вернымі высокай літаратуры. «Усё-такі цяперашні крызіс рана ці позна мінецца і з новай сілаю ўзнікне патрэба высокага, духоўнага...» Блаславёныя словы! А мы зазначым, што пакуль у грамадства, у Беларусі ёсць такія мастакі, што дбаюць пра непарыўнасць людской духоўнасці, звязваюць духоўнасць учарашнюю і будучую ў адно, — такое грамадства цалкам яшчэ не безнадзейнае.*

*Для публікацыі я і выбраў, на мой погляд, усё значнае, што найменей тычылася палітыкі.*

*Такім чынам — што гаварыў Васіль БЫКАЎ.*

# ЛІТАРАТУРА НА КРАЁЧКУ ЧАСУ...

## *Пра логіку гісторыі, лёс культуры і долю чалавека*

/З уступнага слова/

У любой сістэме, ці то капіталістычнай, ці то сацыялістычнай, — заўсёды знойдзецца нейкі бок, які не на кшталт гэтай нацыі. Культура ў гэтыя гады перабудовы, у час звароту на натуральны эканамічны і палітычны шлях, якім ідзе ўвесь свет, — наша нацыянальная культура апынулася ў становішчы страшэнна цяжкім. Тут можа суцяшаць хіба той факт, што ў цяжкім становішчы апынулася ўсё грамадства. І ў тым ёсць віна **ўсяго** грамадства. Цяпер ужо абсалютна відавочна, што ў тым, што адбылося, не вінаваты ні Гарбачоў, ні Віскулі, ні сучаснае кіраўніцтва, — вінаваты пэўны выбар, зроблены не намі, зроблены ў 1917 годзе. У 1917 годзе наша грамадства звярнула з магістральнага шляху грамадскага развіцця некуды ўбок, і праз вялікія намаганні, праз кроў і ахвяры ўрэшце ўперлася ў тупік. Цяпер выйсці з гэтага тупіка шчаслівым шляхам, відаць, не ўдасца, гэта пэўна: усім нацыям, якія маюць дачыненне да Вялікага Кастрычніка, трэба прынесці нейкія ахвяры. Што мы і робім.

Мы можам выказаць прэтэнзіі да сучаснага кіраўніцтва, да тых, хто цяпер жыве, — але з тых, хто цяпер жыве, не вінаваты ніхто. Важна зразумець, што шлях быў памылковы, што ішлі мы не туды, што развіццё ішло абсалютна антычалавечым чынам, і трэба выбірацца... Як выбірацца — гэта ўжо іншая справа. Хочацца, канешне, выбірацца, не вяртаючыся назад, нейкім чынам пераскочыць у іншы цягнік. Але, відаць, гэта не выйдзе.

Мы бачым разбурэнне культуры, духоўнасці, не кажучы ўжо пра эканоміку, якая не можа існаваць і не будзе існаваць — і наўрад ці яе можна паправіць нейкімі папраўкамі, кампрэсамі, доларавымі ін'екцыямі. Відаць, нічога не выйдзе. Тая эканоміка, што паказала сваю непаўнавартаснасць, павінна разбурыцца, і яна бурыцца, нягледзячы ні на якія захады. І толькі пасля яе разбурэння пачне прарастаць новая... Тая эканоміка, што існуе на Захадзе, можа даць чалавеку шмат што, калі не ўсё... Ну, усё, відаць, ні адно грамадства і ні адзін лад ніколі чалавеку не дадуць. Так ужо заведзена: чалавек застаецца нейкім чынам адзін на адзін з жыццём і — будзе цярпець...



А што культура? Мы стаім на тым, што культура павінна мець нацыянальную форму. Але ў сучасных варунках нацыянальная самабытнасць культуры з'яўляецца і яе моцным, і слабым месцам. Моцным у тым сэнсе, што гэта спрадвечнае; нацыянальнае, між іншым, гэта не тое, што дазволена, або ўведзена дэкрэтам. Гэта, па-першае, біялагічнае, унаследаванае ад прыроды, дадзенае Богам... Тут не трэба, як гэта часам бывае, папракаць, што ў адных яно ў большай меры праяўляецца, у іншых — у меншай. Гэта ўжо як каму дадзена. Але гэта натуральнае пачуццё, такое самае, як пачуццё мацярынства, іншыя сакрамэнтальныя пачуцці, закладзеныя ў чалавеку генетычным шляхам.

Адзіны спадзяванак цяпер — на тое, што нацыянальная культура неяк вытрымае, дзякуючы перш за ўсё свайму нацыянальнаму менталітэту. У беларусаў ёсць вопыт. Усё-такі, не маючы сваёй дзяржаўнасці на працягу стагоддзяў, намаганнямі мноства пакаленняў, і перш за ўсё апосталаў сваіх, беларусы захавалі сваю нацыянальную культуру. Былі перыяды, калі яна амаль зусім знікала. І тым не менш яна засталася. І таму, нават у сучасных умовах, у канцы XX стагоддзя, мы ўсё-такі думаем, што яна яшчэ затрымаецца на нейкім краёчку і адновіць свой натуральны працэс адраджэння і росквіту...

## *Пра літаратуру і палітыку*

/Пытанне: «О чем болит душа?»/

— Душа ў пісьменніка баліць тым, чым і ў кожнага чалавека. Іншая справа, як літаратуры **адносіцца** да прыроды грамадства.

Цяпер, пасля празмернай ідэалагізацыі мастацтва, і наогул культуры, што адбывалася на працягу многіх гадоў, наступіла іншая пара — дэідэалагізацыі. Мы слухаем па радыё і тэлебачанні, чытаем у газетах выступленні даволі разумных людзей, якія ўгаворваюць пісьменнікаў адысці ад палітыкі, перайсці на вечныя тэмы, на харaство прыроды, якая яшчэ захавалася, — на ўсё тое, што не звязана з палітыкай, з жыццём грамадства. Чытаць такія рэчы мне заўсёды сумна. Сумна, бо гэта — не для нашай літаратуры. Можа быць, на Захадзе, дзе сацыяльныя канфлікты невялікія, дзе чалавек дасягнуў многага — ну, калі не цалкам шчаслівага, дык хоць бы забяспечанага жыцця, — там палітызаваная літаратура патрэбна, можа быць, у меншай меры. Там літаратура можа дазволіць сабе захапляцца нейкімі драбніцамі жыцця, але каб у нас... Літаратура народа, які на працягу стагоддзяў вымушаны весці вось такое трагічнае жыццё, — як можа наша літаратура, мастацтва, культура — абстрагавацца ад гэтага пакутнага, трагічнага жыцця? Нават каб яна таго хацела, каб ставіла перад сабой такія мэты, — яны былі б немагчымымі для ажыццяўлення. ЖЫЦЦЁ БУДЗЕ ЎМЕШВАЦЦА, будзе ўладарна патрабаваць удзелу пісьменніка, мастака наогул — у грамадскім жыцці. Вядомыя радкі Някрасава з'яўляюцца ў гэтым сэнсе запаветам для пісьменніка. А ў выяўленчым мастацтве — як бы ні квітнела яно, выбраўшыся на свабоду, — усё-такі рэалістычнае мастацтва, перадзвіжнікі, для свайго часу і для гісторыі значыць куды як многа. І нашаму мастацтву самавыражэння, я думаю, далёка да гэтага...

А болі ўсё тыя ж, тыя самыя. І калі ўсё адбаліць — цяжка сказаць.

## *Пра талент і грамадзянскую пазіцыю*

— Апроч таленту ёсць яшчэ і маё грамадзянскае сэрца. Калі я бачу, што ў жыцці адбываецца несправядлівасць, ці магу я абысціся толькі літаратурнымі здольнасцямі, без палітычных памкненняў?

Талент — вельмі важна для гісторыі мастацтва, але для мяне суб'ектыўна грамадзянская каштоўнасць чалавека пераўзыходзіць яго мастацкую каштоўнасць. Я гатовы дараваць пэўныя слабіны мастацка-літаратурнага сэнсу пісьменніку, калі ён праяўляецца як грамадзянін, як асоба, якая патрэбна нацыі ў грамадзянскім сэнсе. І наадварот, я не магу дараваць таленту, калі яго грамадзянская пазіцыя служыць рэакцыі, і калі яна накіравана супраць грамадства, супраць нацыі.

## *Пра мастацтва як выказнік часу*

/Пытанне: «Чаму сённяшняе мастацтва, літаратура як бы адстаюць ад жыцця?»/

У савецкім мастацтве мастацкае слова значыла вельмі шмат, не таму, што было настолькі самацэнным для грамадства, а таму, што іншага маральнага выразніка ў нашым грамадстве не было. Літаратура і іншыя віды мастацтва былі — адзіным, рэгламентаваным, няўдалым у многіх сэнсах — маральным выразнікам. Гэтаму мастацтву не ўдалося зрабіць усё так, як хацелася. Але цяпер, калі вярнуцца назад і ацаніць тое мастацтва, то мы павінны проста зняць шапку перад гэтым мастацтвам, перад яго лепшымі творамі... Цяпер часы змяніліся. Рэнамэ мастацтва апускаецца ўсё ніжэй. Я баюся, калі зірнуць на заходняе грамадства, добраўпарадкаванае, дзе мастацтву такая роля, як у нас, ніколі не належала, то ўсё-такі хацелася б, каб наша мастацтва, наша літаратура нейкім чынам прадаўжалі свае традыцыі і ў новых умовах.

— Вы бачыце, што цяпер мастацтва і літаратура быццам спыніліся на нейкім раздарожжы. Гэта адносіцца не толькі да нашай беларускай літаратуры. Гэта адносіцца да ўсёй літаратуры посткамуністычнага грамадства. Чаму так адбылося — я не магу вам адказаць. Прычыны тут, відаць, вельмі складаныя, унутраныя, тым не менш гэта так. Гэта мы бачым на прыкладзе самай актыўнай расійскай літаратуры, нават на прыкладзе прыбалтыйскіх літаратур.

Відаць, тое, што адбылося, адбылося надта нечакана... Усё-такі мастацтва ў пэўнай ступені тугадум, і яно нешта зразумее толькі праз пэўны час. А тое, што яно зразумее і асэнсуе, і што паявяцца вельмі значныя, шэкспіраўскага маштабу творы пра наш час — гэта безумоўна, таму што такія страсці для мастацтва не могуць быць згубленыя, яны будуць рэалізаваныя; яны абавязкова будуць у нейкай форме сублімiраваныя.

## *Пра беларускую літаратуру*

/Пытанне: «Як бы вы ацанілі сучасны стан беларускай літаратуры; ці не зніжае крытыка — сваёй завышанай, неадэкватнай ацэнкай — узровень беларускай літаратуры?»/

— Літаратура і мастацтва наогул — такая справа, дзе нейкай адэкватнасці альбо нават аб'ектыўнасці дасягнуць вельмі цяжка. Гэта, можа быць, немагчыма, бо ўсё-такі ацэнкай твора займаецца пэўная асоба — крытык.

Калі мець на ўвазе той гістарычны перыяд, які прайшло грамадства, дык уся культура таго грамадства падлягае пераацэнцы. І гэта цяпер робіцца. Таму што, сапраўды, толькі цяпер, можа, з'явілася магчымасць да нейкага новага прачытання. Гэта не значыць, што ўсе ацэнкі ранейшых крытыкаў былі несправядлівыя. Многа было справядлівага. Але былі і нейкія аднабаковасці; я думаю, што час усё ацэніць як трэба і расставіць усе кропкі...

У беларускай літаратуры ёсць вельмі здольныя, таленавітыя аўтары, можа, толькі не ўсе ацэнены так, як гэта належыць.

*(Працяг на стар. 12)*

ны, бо ён «ні рыба, ні мяса» /у кнізе ён гэтымі словамі ахарактарызаваны/. А трэба, каб ён быў або 100 % класавы вораг, або 100 % рэвалюцыянер» /Літаратурны архіў. Фонд 290. воп. 1. Адз. зах. 64/. Былі яшчэ іншыя «крымінальныя» папрокі ў адрас Маўра: недастатковае раскрыццё ролі камуністычнай партыі ў каланіяльных рэвалюцыях, адмаўленне нацыянальнай буржуазіі, інакш кажучы — недастатковасць «рэвалюцыйнасці», «ідэйнай вытрыманасці» ў рамане «Амок».

Насцярожаныя адносіны да прыгодніцтва, у якім бачылася імкненне адцягнуць чытача ад ідэалогіі часу, для аўтара «Палескіх рабінзонаў» абярнуліся ўжо закідамі ва «ўцяканні ад сацыялістычнага будаўніцтва», ад канкрэтных пытанняў рэканструкцыі Палесся і школьных праблем. Атрымлівалася, што і на гэты раз Я. Маўр ідзе «не ў ногу»: у час, калі бурна адбываліся пераўтварэнні ў прыродзе, якія абяцалі прамяністае будучае і ўспрымаліся як сведчанне сілы чалавекатворцы /трагедыя татальнага наступу на прыроду тады яшчэ не праглядвалася/, пісьменнік, выкарыстоўваючы матыў рабінзанады, зводзіў надзённыя праблемы твора да аднаго: чалавек і прырода, іх узаемадзеянне. Так, Я. Маўр глядзеў глыбей, для яго важны ў дадзеным выпадку не столькі пераўтваральны пафас, якім жыло грамадства, колькі тое нязменнае, устойлівае, чым павінны вызначацца ўнутраныя, роднасныя повязі чалавека і прыроды, логіка яго ахоўных, беражлівых і любоўных адносін да яе. Ключавая для твора сцэна забойства зубра, якую нашы падарожнікі ўспрымаюць «як забойства чалавека», нясе ў сабе празорлівую для свайго часу думку пісьменніка: зніштажаючы прыроду, чалавек забівае самога сябе.

Калі звярнуцца да аповесці «ТВТ», то наватарскую схільнасць Я. Маўра можна выявіць найбольш наглядна, параўнаўшы аповесць з тагачаснымі творамі аб працоўным выхаванні, такімі, як «Асінстан» І. Барашкі, «Ударныя брыгады», «Ударнікі» І. Кагаsucceedскай, у рускай літаратуры — «Шукальнікі мазалёў» І. Гразнова, «Рабінзоны» Дз. Чацверыкова. Як нагадвалі яны ў мініяцюры — па духу, па пафасу, па паэтыцы нават — кнігі пра будаўніцтва М. Шагінян /«Гідрацэнтраль»/, І. Эрэнбурга /«Дзень другі»/, Л. Ляонава /«Соць»/: тая ж безаглядная захопленасць планамі і нястрымная лозунгавасць — «Давай пяцігодку ў чатыры гады!»

Шлях, якім ідзе тут Я. Маўр, вызначаны законамі самога дзяцінства, яго прагай самасцвярджэння, яго імкненнем тварыць дабро, прыносіць карысць, рабіць жыццё гарманічным. Стыхія гульні, якую аўтар унёс у будзённыя справы вучняў, прымусіла панавому зайграць і саму тэму, і жанр «школьнай аповесці». Але... зноў не абышлося без крытычных папіканняў, без падазронасці, на гэты раз — з боку педагагічнага начальства. Бо «Таварыства ваяўнічых тэхнікаў» — арганізацыя не статутная, і ініцыятыва гульні, якая ідзе знізу, ад саміх дзяцей, спалохала выхавацеляў. Навошта «арганізацыя ў арганізацыі?» — абураліся адказныя міністэрскія работнікі. Ці ёсць патрэба ў стварэнні нейкіх розных таварыстваў і каманд, калі дзейнасць школьнікаў павінна рэгламентавацца «Правіламі паводзін вучняў?»

Сапраўды, у «ТВТ» была закладзена «міна замаруджанага дзеяння» пад нарматыўную педагогіку, бо барацьба за незалежнасць ад хатніх рэчаў, якую абвясцілі тэвэтэтаўцы, — гэта шлях да здабывання ўнутранай свабоды, да гарманізацыі ўзаемаадносін са светам, гэта сцверджанне юнымі сваёй самастойнасці і чалавечай годнасці. Бо пакорлівасць рэчам можа мець і свой невясёлы працяг — пакорлівасць лёсу, злу, несправядлівасці, ілжы. Напэўна, вынашаная аўтарам ідэя патрабавала больш глыбокага пранікнення ў псіхалогію паводзін герояў, у працэс іх унутранага, духоўнага росту /што, між іншым, разумеў і сам аўтар, шмат працуючы над удасканаленнем аповесці пры падрыхтоўцы новых яе выданняў/, але бясспрэчна: кніга давала ўрок нестандартнага, нестэрэатыпнага падыходу да фармавання, самавызначэння і самасцвярджэння юнай асобы ў паўсядзённай плыні жыцця.

Калі «ТВТ» было, можна сказаць, адкрытым выклікам афіцыйнай педагогіцы, то ў маленькім апавяданні-эцюдзе «Шчасце» палемічнасць, супрацьстаянне схаваны ўнутры. І гэта, відаць, зразумелі тыя, ад каго залежала — друкаваць твор ці пакласці яго «ў стол». Апавяданне, напісанае ў 1937 г. /гэтая дата стаіць у машынапісе/, упершыню з'явілася ў «ЛіМе» пасля вайны, у 1945 годзе, прычым, пад загалоўкам «Шапка», бо першапачатковая назва — «Шчасце» — некаторым уплывовым таварышам падалася «ідэйна не вытрыманай», крамольнай. Як? Савецкія дзеці бачаць сваё шчасце ў новай шапцы? Шчасце ж, вядома, у пабудове светлага царства сацыялізму! Так з горкай іроніяй растлумачыў Я. Маўр з'яўленне новага загалоўка ў першадруку аўтару гэтых радкоў у гутарцы 6 красавіка далёкага ўжо цяпер, 1968 года.

Але справа была не толькі ў шапцы. Сэнс псіхалагічнага маўраўскага эцюда хаваўся значна глыбей. Ва ўмовах татальнай падазронасці ў краіне, якую трэсла ад барацьбы з «ворагамі народа», аўтар — насуперак усяму, што адбывалася ў грамадстве, — сцвярджаў, што ў свеце існуюць іншыя, важныя і непераходныя каштоўнасці — дабрыня, давер, узаемаразуменне паміж людзьмі /і як паказчык грамадскага стану — паміж дарослымі і дзецьмі/, прыгажосць прыроды, і ўсё гэта непадуладна палітычным гульням, зменлівым павевам часу. Твор трымаецца выключна на эмацыянальным напружанні, на ўнутраным руху пачуцця і перажыванняў, абумоўленых канфліктам паміж светам дзяцінства і светам дарослых, які ў фінале завяршаецца поўным узаемаразуменнем, пераадоленнем адчужэння.

Дарэчы, аналагічны сэнс неслі ў сабе і «Міхасёвы прыгоды» Я. Коласа, і «Блакітны кубак» А. Гайдара, і «Летнія дні» К. Паустоўскага, і апавяданні пра прыроду М. Прышвіна... Для Гайдара, мабыць, «Блакітны кубак» меў яшчэ і асаблівы, асабісты сэнс — як адыход ад цяжкага мінулага, як адмыванне ад крыві, пралітай у гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, якую ён прайшоў, не прывядзі Божа, пятнаццацігадовым падлеткам. Такімі творамі літаратура для дзяцей у падтэксце імкнулася выказаць тое, што не ўдавалася сказаць літаратуры для «дарослых».

Разбурэнне стэрэатыпаў, рух мастацкай думкі, адчуванне новага было ўнутраным стымулам лепшых твораў пісьменніка. Разам з тым яго творчасць акумулявала ў сабе жыватворную энергію традыцый — заходняй прыгодніцкай класікі, у адным выпадку, рускай аўтабіяграфічнай і навукова-фантастычнай аповесці, у другіх. Дастаткова перагарнуць старонкі аповесці «Шлях з цемры», каб убачыць тут здзіўляючую шырыню літаратурных дачыненняў: Л. Талстой і А. Талстой, М. Гарын-Міхайлоўскі і С. Аксакаў, К. Паустоўскі і М. Горкі...

Увабраўшы ў сябе літаратурны вопыт, назапашаны нацыянальнай і сусветнай літаратурамі, аўтар здолеў адкрыць новую старонку ў сваёй роднай літаратуры, адрасаванай юнаму чытачу, стаць стваральнікам новых яе формаў.

Заўважым, што жанры навуковай фантастыкі і аўтабіяграфічнай аповесці, аблюбаваныя Я. Маўрам, самой прыродай сваёй прызначаны і дарослым, і дзецям. І ўжо гэтым пісьменнік нібы зрушваў бар'ер, узведзены строгімі прыхільнікамі «дзіцячай спецыфікі», паміж «вялікай» і «малой» літаратурамі. Адстойваючы дзіцячую літаратуру як з'яву эстэтычна самастойную, ён сцвярджаў агульнасць іх ідэйна-эстэтычных асноў, абумоўленую самім жыццём і няўхільнымі законамі мастацтва. Менавіта дзякуючы Маўру беларуская літаратура для дзяцей не замкнулася ў вузкім коле спецыфічна дзіцячых тэм і праблем, падключылася да агульнага літаратурнага працэсу. Больш таго, ён вывеў яе на шырокія літаратурныя кантакты, а гэта азначала, што, застаючыся сама па сабе, яна ўсведамляла ўжо сваю роўнасць з іншымі, больш развітымі літаратурамі, свае ўнутраныя магчымасці.

Між тым, крыўдную нераўнапраўнасць нацыянальнай літаратуры ў рэспубліцы Я. Маўр адчуваў яшчэ даўно.

Яго хвалявала і абурала такое ненармальнае становішча, калі тыражы беларускіх кніжак ўстанаўліваліся зыходзячы не з нацыянальных патрэб і інтарэсаў, а па волі кнігагандлёвых устаноў, не зацікаўленых ў прапагандзе беларускага мастацкага слова. Дарэчы, гэтую пазіцыю ён адчуў на сабе самім.

У лісце да перакладчыка А. Тонкеля пісьменнік з горыччу пісаў 21 кастрычніка 1960 г., у час, калі на 77 годзе /!/ жыцця выходзіў у свет першы двухтомны збор яго твораў: «Скандальная рэч атрымліваецца з тыражом. У нас 12 тысяч школ і 20 тысяч бібліятэк, а мне даюць толькі 6 тысяч экземпляраў. Ідзе ўпартая барацьба за павелічэнне хоць бы да 15 тысяч. Пры гэтым высветлілася, што нацыянальнае пытанне ў нас цяпер вырашаецца... кнігаторгам! Ні больш, ні менш! Толькі ён адзін вырашае, колькі і якія кнігі можна выдаваць на беларускай мове».

Як сказаныя быццам бы нядаўна або нават сёння ўспрымаюцца гэтыя словы Я. Маўра. Хоць так многа, здаецца, змянілася з тых часоў...

**Эсфір ГУРЭВІЧ**

*Аўтар пераводзіць ганарар на рахунак 707801 Мінскай гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка /Беларускі дзіцячы фонд/.*

паэзіі — выказваць шчырыя прызнанні зямлі, якая нарадзіла, падкрэсліваць прыналежнасць да яе краявідаў, людзей, традыцый: «Я з Маркавіч, з-пад Гомеля я родам...» Але паэтка не дзеля споўца ці моды сведчыць, адкуль яна, бо яе радзіма — край вялікай чалавечай пакуты.

Асабліва кранальна, з моцнай эмацыянальнай уражлівасцю напісаны Т. Мельчанкай чарнобыльскія радкі. Яны поўныя болю, трывогі, асабіста перажытага горкага вопыту /«Каб бачыць гэта — лепей не радзіцца...»/, той суровай, жахлівай праўды, якая гаворыць пра заложніцкую, ахвярніцкую долю палешука, пра пакутны шлях беларусаў у будучыню. Вершы «Прыпяцкая вясна», «Дрэва славянства» яскрава раскрываюць лірыка-драматычны свет паэткі: «— Прыйдзе, прыйдзе вясна! — зноў лістота шапоча з надзеяй, — Я чарнобыльскі дрот на шматкі, на шматкі разарву». Болем, вераю, святлом душы можна ацаліць свет. На гэта спадзяецца паэтка, і яе шчырая надзея і давер шукаюць паяднанасці ва ўсім вялікім свеце: «...я ж мужна прымаю бяды адгалоссе, Каб верылі мне, што Радзіма адна» /«Слова да эмігрантаў»/. А ці не тая ж духоўная мужнасць і вера на шляху адраджэнскім жыве ў сэрцы лірычнай гераіні Т. Мельчанкі? Прачытаўшы вершы «Урок роднай мовы», «Падзяка» і іншыя, у якіх усхвалявана выказана думка пра тое, што «будзе жыць наша родная мова», можна адчуць, што аптымізм аўтара кніжкі грунтуецца на ўласна асэнсаваным, біяграфіі лёсу /паэтка працуе настаўніцай роднай мовы/. У Т. Мельчанкі сваё высокае маральнае стаўленне да жыцця і свету. І глыбока жаночае, далікатнае, асабліва калі яна гаворыць пра дзяцей. Яна не саромеецца сардэчнасці, пяшчотнасці пачуцця:

**Заходжу ў клас.**
**Стаяць усе, як лозкі.**
**І светла-светла**
**Стане на душы.**
**Мой карагод!**
**Я вашая бярозка.**
**Якое шчасце**
**Сярод вас кружыць.**

Да несумненнай паэтычнай удачы я аднёс бы верш «Жалобны напеў». Здаецца, так узрушана-хвалююча пра гора і боль мацярынскага сэрца, у якога афганская вайна адабрала сына, у нашай паэзіі яшчэ не пісаў ніхто.

І яшчэ адна рыса паэтычнага дару Т. Мельчанкі — у сваіх радках, асабліва пра каханне, яна лірычна-песенная. Не адзін яе верш /некаторыя пры неістотнай дапрацоўцы/ можна пакласці на музыку: «Запознены цягнік», «Сустрэча наша — радасны ўсплёск...», «Дарогі нашы скрыжаваны лёсам...», «— Алё! — Алё!..» Прынамсі, з гэтымі і некаторымі іншымі творамі я ўжо прапанаваў папрацаваць кампазітару. Абсалютна не прымаю сцверджанні нашых кампазітараў, асабліва маладых, якія наракаюць, што ў сучаснай беларускай паэзіі няма добрых тэкстаў для песняў. Як і здзіўляе «зацыкленасць» нашага радыё і тэлебачання на трох аўтарах песенных тэкстаў: Л. Пранчак, А. Бадак, Л. Дранько-Майсюк. Шчыра раю кампазітарам-песеннікам і выканаўцам: не лянуйцеся чытаць паэтаў і паэзію.

Можна было б пажадаць паэтцы больш дбаць пра фармальна-стылёвую шматпланавасць верша. Хаця Т. Мельчанка паказала, што можа быць інтанацыйна зменлівай, напрыклад, у некаторых твораў арганічна гучаць устойлівыя народна-песенныя матывы /«Родныя берагі», «Падзяка» і інш/. Верш Т. Мельчанкі, можа, і не такі эфектны, кідкі, густы, як у паасобных яе паэтаў-равеснікаў, але ён па-беларуску шчыры, сардэчна прачулы і жывапісны. Сапраўды, «у шчырай песні не сарвецца голас...»

**Алесь БЕЛЬСКІ**

**ВІНШУЕМ!**



## Ніне ВАТАЦЫ — 85

Старэйшы беларускі бібліёграф, літаратуразнаўца Ніна Барысаўна Ватацы — чалавек нялёгкага, складанага лёсу. У 1930 годзе скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт, атрымала накіраванне ў тагачасную Дзяржаўную бібліятэку БССР імя У.І.Леніна, але працавала там нядоўга. У 1936 годзе арыштавалі мужа. Вымушана была развітацца з Мінскам. Давялося шмат якія работы змяніць. Працавала ў Архангельску ў краявой бібліятэцы, мастаком у мастацкай майстэрні ў Кіраве, ва Ульянаўскім педагагічным вучылішчы, а ў гады вайны загадвала бібліятэкай эвакуацыйнага шпіталю ва Ульянаўскай вобласці.

У Мінск вярнулася ў 1945 годзе і не адзін дзесятак гадоў была галоўным бібліёграфам аддзела беларускай літаратуры і бібліяграфіі той самай бібліятэкі, адкуль пайшла не па сваёй волі. Пасля вайны шмат рабіла захадаў па ўзнаўленні страчаных фондаў аднаго з буйнейшых кнігасховішчаў рэспублікі. На гэты час прыпадае і актыўная літаратуразнаўчая, даследчыцкая работа Ніны Барысаўны, хоць з першым артыкулам выступіла яшчэ ў 1932 годзе ў часопісе «Кніга — масам». Асабліва плённа вывучала Н.Ватацы творчасць М.Багдановіча, адшукваючы яго невядомыя творы, узнаўляючы паасобныя факты з жыцця.

У 1975 годзе выйшла складзеная ёю кніга «Шлях паэта», у 1981 годзе ў «Бібліятэцы газеты «Голас Радзімы» пабачыў свет зборнік «Песня Максіма». Багдановічаўская тэма гучыць і ў кнізе «Шлях» /1986/. З-пад пяра Н.Ватацы выйшлі шматлікія працы бібліяграфічнага кірунку, у якіх закранаецца творчасць Я.Купалы, Я.Коласа, К.Крапівы, П.Труса, І.Шамякіна, Я.Брыля, П.Панчанкі, П.Глебкі і іншых пісьменнікаў...

З днём нараджэння Вас, дарагая Ніна Барысаўна! Яшчэ доўгіх і доўгіх вёсен Вам!



## Віктару Трыхманенку — 70

На творчасць Віктара Трыхманенкі аказала ўплыў яго першая прафесія. Скончыўшы ў 1944 годзе ваенна-авіяцыйнае вучылішча, ён стаў лётчыкам-знішчальнікам, прымаў удзел у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На жаль, па стане здароўя ў канцы 1946 года вымушаны быў развітацца з небам.

З небам, але не з арміяй. Папрацаваўшы ў 1947 — 1949 гадах у Беларускім тэлеграфным агенцтве, В.Трыхманенка зноў звязаў свой лёс з Узброенымі Сіламі. Скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя У.І.Леніна, стаў ваенным журналістам. Да выхаду на пенсію працаваў адказным рэдактарам газеты Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины».

З першымі апавяданнямі выступіў у 1956 годзе. Пісаў пра людзей, блізкіх яму, найперш пра тых, хто граміў у небе ворага. Паступова ў творчасць В.Трыхманенкі прыйшла і новая тэма — мірныя будні лётчыкаў. Адна за адной выходзілі кнігі «Сложный вариант» /Масква, 1958/, «Звуковой барьер» /1959/, «Наташины зорки» /Хабараўск, 1960/, «Истинная высота» /1965/, раман «Небом крещенные» /Масква, 1969/, «Сестра белой березы» /1979/ і іншыя.

Лётнай тэматыцы прысвечаны і дзве новыя кнігі пісьменніка «Двое и одна» і «На плечах своих», якія значацца ў планах выдавецтваў «Юнацтва» і «Мастацкая літаратура».

З днём нараджэння, Віктар Фёдаравіч! Жадаем і надалей вам вышыні — жыццёвай і творчай!

Алесь РАЗАНАЎ



# ВЕРШАКАЗЫ

## *КОМІН*

Комін кемлівы: ён загадзя ведае,
як складуцца абставіны і куды павядуць наступствы, і, згодна з гэтым,
займае сваё дамінантнае — «каменданцкае» — месца.

Комін — і печ, і нешта акрамя печы; і хоць у той час, калі печы і цёпла, і суха, комін мокне на дажджы і
калее на холадзе, ён ніколі не наракае на сваё «акромнае» становішча.

Нібы кумір, комін узвышаецца над
кожнаю страхою, над кожнаю хатай, і
кожны вараг, перш чым пастукацца ў
хату, нібы на нейкі каментар, пазірае
на комін.

Комін — камель, які валодае каменнай трываласцю, і акалічнасці пераконваюць яго ў тым, што ўсё міне, а ён
застанецца.

## *ВЯСЛО*

Нібы перавяслам, вяслом апяразваецца постаць і Ясельды, і Віслы,
і Свіслачы.

Бясконцае мноства разоў вясло
спрабуе ўсяліцца ў падводную святліцу і гэтулькі ж разоў высяляецца
адтуль: яно — пасол чаўна, і чуйна слухаецца яго загадаў.

Каб слаўна плылося чаўну, мусіць
быць слаўным вясло: не ломкім, нібы
салома, а трывалым і абавязковым, як
дадзенае слова.

У пахмурлівы дзень з-пад вясла
выпырскваецца слата, у ясны — выбліскае вясёлка.

## *ВІР*

Вір ірацыянальны, як Вій.

Таго, хто ў яго трапляе, вір абкручвае па руках і нагах, як вяроўкай.

Віхура — у паветры, вір — у вадзе,
і вядзе ён у падводны палац альбо свіран, дзе жвір усцілае дно і пануе мір.

Вір — вырай: ён уцягвае ў сваю неймаверную свідравіну, у свой бесперастанны віраж усё, што трымаецца паверхні, і толькі пасля праверкі на
бездакорлівую пакору вяртае, што ўзяў,
назад.

Нібы верацяно, вір круціцца наўкола сябе, на нерухомым месцы, але
гэтае месца — прастора іншага вымярэння.

## *ЗІМА*

Беларуская *зіма* — зямля,
усланая небам.

Літоўская *ziema* «жме»:
яе дужасць добра адчувае і аўкштайт,
і жэмайт.

Руская *зима* не толькі з'ява прыроды, але і грамадскае мерапрыемства — вялікі агітацыйны «ізм».

Сербская *зима* непрадказальная, нібы змај /змей/.

Польская *zima* вывярае свой,
знаны адной ёй, азімут.

Сербалужыцкая *zyma* прадзімаецца скразнякамі.

Палабская *zaima* займае сабою ўсю прастору і ўвесь час, становячыся займеннікам-заменнікам таго,
што было калісьці і чаго няма зараз:

Старажытнапруская *semo* самааддана захоўвае семя — для невядомай вясны, для невядомай сяўбы.

Старажытнаіндыйская *hima*
мае сваёю сядзібаю Гімалаі.

## *КЛІН*

Клін вымаецца з дрэва, як рыбіналін з вады, але калі лін, кінуты ў ваду, зноўку прымаецца ёю, то клін прыняцца дрэвам не можа.

Клін — раскольнік, родны дрэву па
плоці і іншародны па духу: ён упарта
вышуквае ў дрэве хоць якое-небудзь
парушэнне, хоць якую-небудзь трэшчыну, каб, няўхільна ўбіваючыся ў яе
і запаўняючы яе сабою, давесці моцнае да распаду, адзінае — да раздваення.

Нібы ключ, клін адмыкае калоду,
ці карчаку, ці бервяно, але зноўку
замкнуць іх не здатны; ён пранікае
ў самыя запаветныя схованкі, але,
сілком адчыняючы іх, ніколі нічога —
нібы здзяйсняецца нейкі, не зразумелы яку заклён — не знаходзіць.

Клін робіцца не з клёну альбо з
каліны, а з «калянага» дрэва і, дастасоўваючыся да дрэва, як усклік да
гаворкі, як клічнік да выказвання,
уяўляе сабой канстанту, дзе тонкае
неўпрыкмет пераходзіць у шырокае,
а паступовае — у пранікліваe.

Воблік у кліна аднастайны, але
ўсе «клінічныя» сітуацыі спадзяюцца на клін.

## *МЯКІНА*

Мякіна мяккая, як мука, але калі
мука дадатны вынік паслядоўнага і мэтанакіраванага высвятлення, што застанецца пасля таго, як усё адымецца,
то мякіна — менавіта тое, што адымаецца, адмоўны вынік гэтага высвятлення.

Мякіна пакінутая; у мяхі і засекі
ссыпаецца зерне, у сцірты складаецца салома, а мякіна, як смецце, змятаецца ўбок: у ёй корпаюцца куры і
яе мкне з сабою імклівы вецер.

На смак мякіна ніякая, але ў часіну нішчымніцы, калі жывёліны мэкаюць, бэкаюць, рыкаюць, а гаспадары
паныла мікіцяць, чым жывіцца-карміцца, мякіна — намёк, што ўсё будзе добра, што яна дапаможа датрываць і да
хлеба, і да малака.

## *АПОЛАК*

Пасля таго, як бервяно распілоўваецца на дошкі, што пойдуць на падлогу, на столь, на паліцы, паабапал
бервяна застаецца па апошняй, па палавіннай дошцы /напалову — дошка, а
напалову — не/ — па аполку.

З аднаго боку аполак гладкі,
з другога — шурпаты, з аднаго — поле,
з другога — пагорак, з аднаго — пляц,
з другога — капец, і таму, што ён гэтакі двухпастаўны, ён, як апокрыф,
і далучаны да кананічнай суполкі,
і адлучаны ад яе.

Аполак пераймае ў дрэва яго наросты і ўгібіны, і калі дошкі мераюцца па пэўным стандарце, на пэўны
капыл, то да аполка з такім капылом
не падыдзеш.

І хай па сваім гатунку, па таўшчыні і па шырыні дошкі, нібы камандзіры ў войску, то палкоўнік, то падпалкоўнік, то капітан, аполак згаджаецца з доляй звычайнага апалчэнца.
Але ў плоце наступу і абароны ім
латаюцца любыя праломы, і ў любым клопатным пераплёце ён аплот перамогі.

---

# ТРАФЕЙНАЕ КІНО

## *Старонкі з кнігі «Стэфанія»*

Аляксандр СТАНЮТА

### 1.

— ... Адна з маіх апошніх роляў у нашым тэатры — Анфіса, бабуля ў «Трох сёстрах» Чэхава. І вось слухай: падчас прэм'еры атрымліваю з Масквы сцэнарый новага фільма па гэтай п'есе. Напісаў папулярны, спрактыкаваны такі сцэнарыст Мярэжка. Прасілі азнаёміцца на выпадак магчымай будучай работы. Ну, чытаю. Глядзі сам, што там ужо засталося ад Чэхава, ягоных «Трох сясцёр», увогуле ад таго жыцця, якое ён пісаў, *Вольга, старэйшая, што працуе ў* гімназіі, тут, у сцэнарыі, цалуецца з гімназісцікамі. Маша закаханая — і не платанічна, не — у Ірыну, ці наадварот. Салёны закаханы ў Тузенбаха — ці зноў-такі наадварот. Усё, значыцца, з найсучаснымі гэткімі, рынычнымі вострымі прыправамі. У рэшце рэшт — хай сабе, але пры чым тут Чэхаў? Маўляў, па ягоных матывах. Ну няма ў яго такіх матываў! Яму яны не былі патрэбны, абыходзіўся неяк. Дык чаго ж вы за яго трымаецеся? Рабіце сваё і пакіньце яго ў спакоі.

— Не — «па матывах». Калі сваё праваліцца, дык разам з Антонам Паўлавічам — і тады, магчыма, хоць паспачуваюць.

— Я табе расказвала пра маё апошняе «сучаснае кіно»? Здымалася ў Ялце, памятаеш? Такі кадр: у шырачэзным капелюшы, высунуўшыся ў акно, страляю з ружжа. Я, Стэфанія Станюта...

— У каго?

— Не ведаю, не сказалі.

— Хто аўтар, рэжысёр? Якая назва?

— Не пытайся ў мяне. Нават не было часу даведацца. Хуткасць. Дынаміка. Камерцыя.

— А стрэліла тваё ружжо?

— Так, два разы.

— Пацэліла?

— Пацэліла. Пацэліла, хоць і не бачыла. Пабачыла ўжо ў касе; шкада, што толькі эпізод. /Смяецца./ Я разумею, разумею — сучаснае кіно не толькі такое, гэта, можа, і сапраўды адно эпізоды ў ім. Але ж, але ж... Як усё змяняецца на свеце! Хіба ж магла я калі думаць, што буду іграць тое, што іграю зараз? А кіно, такія вось кадры — цікава, калі б іх пабачыў тата... І што дзіўна: чым далей ад пачатку жыцця, ад дзяцінства — тым бліжэй, бліжэй такі во «кадр» адтуль — старая фотакартка некалі была: я, малеча, і тата, *нейкі вайсковец, ягоны прыяцель* — грудзі наперад выпнуты, вусы — і іншыя яго сябры, я нават прозвішчы іх памятаю — і муляж сабакі з намі, столік на бярозавых ножках. Так мы сталі, у тым часе, у нейкім «атэлье». І, значыцца, хтосьці, накрыўшыся чорным сукном за трыногай апарата, кажа нам: «Спакойна. Здымаю. Глядзіце сюды!» І вось глядзім дагэтуль. Не, гэта ўсё, жыццё ўвогуле — як сон...

*...Можа, гэта і сапраўды сон.*

Сон, у якім ты — не тое што не малы, а і даўным-даўно не малады — ляжыш на ложку, не хворы і не стомлены, адно супакоены пасля раптоўна адышоўшай трывогі і цяжкага пачуцця безвыходнасці, — ляжыш і нібыта бачыш, хоць бачыць не можаш, як маці, стоячы побач, у галавах, кладзе, супакойваючы цябе, сваю руку — і не на галаву табе, а толькі блізка да яе, на падушку, і рухі ейнай рукі гучаць як голас, словы, інтанацыя — і нават лепш за іх, — і ты ўсё разумееш.

Сон? А гэта наступнае — таксама сон ці ўжо ява? Не так проста дакладна адказаць — і, папраўдзе, не так ужо і хочацца гэта ведаць. Хочацца толькі глядзець і слухаць тое, што нібы *без усялякай сувязі паміж* сабой выплывае з туману дзён і гадоў — даўно бачанае і чутае, але і нейкае новае зараз для цябе.

Напрыклад, тое, як падчас першага пасляваеннага адпачынку з маці ў санаторыі, у Друскеніках, зазірнуўшы ў цесны зальчык санаторнага клуба, пазнаўшы, усё ж не пазнаеш яе на маленькім няўклюдным памосце: светлавалосую, у чорнай аксамітнай сукенцы, з блішчастымі карапямі, завушніцамі і з веерам у руцэ, калі яна, Дыяна, з жаночай уладарнасцю трыумфуе сваю перамогу над Тэадора — Барысам Кудраўцавым, з якім яны іграюць тут, перад адпачываючымі, сцэны з «Сабакі на сене» Лопэ дэ Вегі.

... І як тая самая жанчына, але ўжо іншая, праз шмат, шмат гадоў на сваёй звыклай вялікай сцэне шчымліва камянее ў горы Купалавай Марылі з «Раскіданага гнязда», калі гучаць горкія словы Сымона — Генадзя Гарбука:

Гавораць: «Ноч, — хоць дзень на свеце,
І ты з усімі «Ноч!» — крычы.
Крычаць: «Галей!» — ідзі галеці.
Крычаць: «Маўчы!» — і ты маўчы.

... І тое, як яшчэ праз нейкі час яна выходзіць да краю сцэны са складзенымі перад сабой у малітве рукамі, яна — маці Аўдзея — Генадзя Аўсянікава ў «Страсцях па Аўдзею» Бутрамеева, і ў голасе яе, які ўсё ж з гадамі крыху мяняецца, ты чуеш і тое ж самае, здаўна знаёмае, нязменнае, што пазнаеш і з тысячы нават падобных галасоў як наяве, так і ў сне, — а падобных на свеце няма.

Калі гэта адбываецца?

Калі гэта было?

Не так ужо і важна. Важна, калі яна на сцэне, можна нават і не глядзець усяго ад пачатку да канца, а толькі чуць яе голас, седзячы, да прыкладу, у паўзмроку фае *Малой Купалаўскай сцэны, або ў яе* грыміравальным пакоі, дзе спектакль чуваць з дынаміка. І адчуванне будзе кожны раз адно і тое ж. Гэта адчуванне нечага спакойнага і нават хатняга, і яго ўзнікненне заўсёды падказвае табе, што там, на сцэне, у тым, цяперашнім жыцці ў маці ўсё ідзе як след. І наадварот, калі ты гэта бачыш з крэслаў у зале, прыходзіць пачуццё, што й па-за сцэнай усё ідзе як мае быць.

Так. І думаючы пра гэта, спрабуючы гэта неяк выявіць у спалучэннях слоў і фраз, у пісаніне, міжволі пытаешся ў сябе: а хіба не менавіта гэтае пачуццё і адчуванне яшчэ з малых гадоў і лучыла для цябе, толькі падсвядома, у адно, непадзельнае ўсё тое, што пачынаецца словамі дом і тэатр — тэатр і дом?.. Ну, дык тады ўжо і шырэй, калі не збаяцца гучных выразаў: мастацтва і жыццё — жыццё і мастацтва.

А чаму не, уласна кажучы? Чаму не, калі вось жа яны ўвачавідкі разам перад табою — мастацтва і жыццё, дом і творчасць, тэатр і сям'я. Бо ўвайшоўшы ў драўляны дом з музейнымі пакоямі Змітрака Бядулі, у якім некалі знаходзіў прытулак і Максім Багдановіч і які мы зараз у простай гаворцы завём знаёмым цёплым словам «хатка», — калі прыйшоўшы сюды на вечарыну і распранаючыся каля скрыні з дабрачыннымі, так імкліва губляючымі свой кошт грашыма, ты бачыш праз адчыненыя дзверы знаёмых студэнтаў у невялічкім зальчыку і чуеш адтуль імгненна *пазнавальны, як з фае ці з-за куліс, голас.* А ў перапынку бачыш, як яе, сённяшнюю госцю «хаткі», абступілі, схаваўшы ад цябе, людзі.

Ты ведаеш, што яна там гартае перад імі свой старэнькі, аж з 20-х гадоў, альбомчык, паказваючы, што пісалі там ёй калісьці Якуб Колас, Змітрок Бядуля, што маляваў Міхась Філіповіч... Ты ведаеш, што гаворыцца за-

*Цалкам кніга друкуецца ў часопісе «Полымя».*

## КУПІНА

Купіна выпукваецца з балота, нібы купал патанулай бажніцы.

Сярод аднастайнай застойнай і тупіковай масы, у якой купаецца купіна, яна акупунктурная кропка якасці, і калі на яе наступаюць, калі на яе націскаюць, гэта адчувае і на гэта адгукаецца ўвесь асяродак.

Купіна скупая: яна не дазваляе, каб тая унікальнасць, якую яна назапашвала і накоплівала, размывалася і танула ў ніякай стыхіі.

Купіну акупоўваюць пукі сітніку, пукі асакі.
Купіне адрасуюцца шматлікія кепікі і кпіны, але тым не менш усё, што мае сабе цану, пнецца на адзінае месца, дзе спаўна акупаецца іхняе колішняе паніжэнне, — на купіну.

## БУДЗЕНЬ І СВЯТА

Будзень будзіць людзей, нагадваючы ім пра тое, што пачынаецца дзень і што нікуды не дзенешся ад клопатаў і работы; свята чакае, калі чалавек сам абудзіцца, і калі ён абуджаецца, ветліва вітае яго.

Будзень — удзельнік, свята — сведка, будзень — маладзік, свята — ветах, будзень — дзейнік, свята — выказнік, будзень абяцае: усё, што трэба, збудзецца, свята вясткуе: усё, што трэба, збылося.

Будзень — падзея, свята — з'ява, будзень — агледзіны, свята — сватанне, будзень распачынае, свята вянчае, будзень — жаніх, свята — нявеста, будзень — «нудзень», свята — вяселле.

Будзень — зіма, свята — вясна, будзень — студзень, свята — май, будзень дбае, свята мае, будзень — яда, свята — «яства», будзень рупіцца ў пыле і брудзе, свята аздоблена ў саеты.

Будзень ідзе, свята стаіць, будзень дзеліць, свята яднае, будзень бачыць гадзіны, свята — вечнасць, будзень судзіць, свята апраўдвае, на будзень дзівяцца людзі, на свята — свет.

## САНІ

Прытуліўшыся да сцяны вазоўні, сані спяць і вясною, і летам, і восенню і сняць тую пару, калі ўсё наваколле засцелецца снегам, калі настане «санчас».
Тады ім адчыняюцца дзверы ў шырокі свет, тады яны маюць пашану, тады аднаўляецца іхняе існаванне, тады яны вяртаюцца ў свой «санавіты» стан і пішуць на белай аснове свае няўрымслівыя высновы.

З узнёсла выгнутымі насамі сані нясуцца ў белы абсяг, і хто ведае, ці іх за сабой цягнуць коні, ці яны самі прыспешваюць іх.

Сані наскія, ім знаёмыя ўсе мясціны: і дзе ў лесе стаіць дрыўняк, і дзе на балоце — сена.

Нагружаныя, сані насілу, сантыметр за сантыметрам, сунуцца ў двор, і нішто астатняе ў гэты час іх не займае, але вольныя — імклівa і лёгка ўлятаюць у санет і санату.

## ЛІШТВА

У хаты — акно, у акна — ліштва: лішак, што надае хаце свой адмысловы кшталт, сваё непаўторнае аблічча.

Ліштва — кліша, у якім узоры лістоты і кветак злітаваны з чалавечым векам, і таму калі з лётам і бегам дзён лістота і кветкі ўсё больш ставяцца леташнімі і колішнімі, то ліштва — усё больш векавечнай.

Ліштву шануюць і ў Літве, і ў Падляшшы, і на Палессі, і калі ліхія часы пазбаўляюць */лишают/* хату ліштвы, вытлумачваючы гэта тым, што ліштва толькі */лишь/* штучная і безгустоўная аздоба, то хата як бы перамяшчаецца са свайго лета ў восень, а то і ў зіму.

Ліштва не стандарт, а штандар, ушаляваны ў саму літару рэчаіснасці: яна вабіць вока і лашчыць думку.

## КІЙ

Як рука працяг цела, гэтак і кій працяг рукі. Ён адзін з тых трох «кітоў», на якія абапіраецца чалавек, калі настае вечар яго жыцця.

Кій — кіраўнік, і які б ён ні быў па сваёй «кіякавасці» — цяжкі ці лёгкі, стрункі ці камлюкаваты, ён ідзе наперадзе і паказвае вандроўніку кірунак, як і кудою яму ісці — ці ў абход, ці напрасткі.

Дакладны, нібы «кібер», кій ідзе, ківаючыся, і гэтым самым адлегласць, якая праходзіцца кіем, становіцца ўлічанай: адзінка гэтага ўліку — адзін кій.

Калі кій сустракаецца з упартаю і нерухомаю перашкодай, ён яе абыходзіць, калі з упартаю і жывою — замахваецца ці кідаецца на яе.

Але адхінуўшыся ад крыніцы сваёй рухомасці, сваёй кінетычнасці, кій апынаецца пакінутым, і тады сабакі і гусакі могуць нарэшце паздзекавацца з яго, могуць нарэшце сквітацца з ім.

Як бы павольна кій ні клыпаў, ён усё роўна некалі давядзе — калі не ў скіт, то на кірмаш, калі не да Кіева, то да Кішынёва.

## ГОСЦЬ

Рускі *гость* вядзе з сабой «Ost» і, калі прыводзіць, кажа, што ён тут не госць, а гаспадар.

Украінскі *гість* апавядае прыгоды-гісторыі — то па-блазенску дасціпныя, то па-магістарску грунтоўныя.

Нямецкі *Gast* кіруецца напрасткі — праз гаць і пагост.

Польскі *gość* востры, як восці, але калі ён, запрошаны за стол, есць і п'е — ён ягамосць.

Беларускі *госць* ідзе дарогай — гасцінцам і нясе з сабой падарунак — гасцінец.

## НАРА

У кожнай нары свае жыхары: мышы, краты, барсукі, і, у залежнасці ад таго, хто яны, гэтыя жыхары, кожная нара мае свой асаблівы нораў і свой асаблівы гонар.

Нара вынырвае з долу і па непрыкметных сцежках разбягаецца па паверхні, каб потым, узбагаціўшыся наробкамі, нарыхтоўкамі,назіраннем, зноўку нырнуць у дол.

Няма такога асяродку, які б не меў патрэбы ў нары, і нара нараджаецца як унутраны орган гэтага асяродку: яна ўсё хоча бачыць, ведаць і чуць, але не хоча, каб чулі, бачылі, ведалі яе.

Ці на двары бушуе бура, ці свеціць сонца, у нары адна і тая ж пара, у нары панура і ціха.

Хто ігнаруе нару, хто не бярэ яе пад увагу, незнарок нарываецца на страту і паражэнне, але хто разумее, што кожная з'ява, апроч відавочнай паверхні, мае невідавочную глыбіню, атрымлівае ад нары параду.



*Аляксандр Станюта з маці Стэфаніяй Міхайлаўнай.*

раз ёю, бо чуў ужо гэта дома — але ведаеш і тое, што кожны раз, і зараз таксама, яна прыгадае штосьці інакш, убачыць з вялізнае далечыні нешта новае.

І таму таксама набліжаешся да людзей, што абступілі яе, — як яшчэ адзін з іх ліку.

## 2.

— Ты неяк прыгадвала старое кіно — спярша нямое, у дзяцінстве...

— З тапёрам у зале.

— Заўтра па тэлебачанні будзе «Багдадскі злодзей» — з тваім «ганарыстым, уладарным і каварным» Конрадам Вейдтам.

— З маім?

— З тваім любімым. Хто гэта казаў: «Вытачаны профіль, гіпнатычны позірк халодных шэрых вачэй»?

— Стальных!.. «Індыйская грабніца», — я глядзела.

— Так, і «Багдадскі злодзей» Аляксандра Корды. Каляровы — усё так ярка і стракатa: базар, чалмы, халаты, дыван-самалёт сярод белых воблакаў, чароўнае хрусталёвае «вока», праз якое бачна ўсё, што пажадаеш, на любой адлегласці. А «Індыйскую грабніцу» я некалі таксама глядзеў. Быў такі залаты час: раніцаю мы часта ішлі не ў школу, а на трафейнае кіно.

— А нас, бацькоў, за гэтае ваша кіно — да завуча ў школу.

— Цёмна яшчэ, пуста на вуліцах, усюды драўляныя агароджы, ужо нешта будуюць на месцах развалін, пахне свежым снегам, а мы ідзём на першы ранішні сеанс. «Гэты фільм узяты ў якасці трафея пры перамозе над фашысцкай Германіяй», — з такога цітра пачыналіся тыя карціны. Была нямецкая «Хто вінаваты?» — «прыгожа» гэтак разбітае каханне артысткі вар'етэ. «Тарзан», зразумела ж, з Джоні Вайсмюлерам, семнаццаць серый, пэўна. Разам з імі, раней ці пазней, ішлі англійскія — напрыклад, «Джунглі» — ужо Золтана Корды, па Кіплінгу; потым «Казляня за два грошы»... Ішлі і амерыканскія — усе захапляліся: Дзіна Дурбін!

— Вось дзе хараство было. Як спявала, танцавала! Я запомніла.

— Яшчэ «Гандляры смерцю» — ці «жыццём»? «Ва ўладзе долара», «Восьмы раунд» і «Пазнаёмцеся з Джонам Доу». Але галоўным сярод усяго гэтага — праўда, пазней — стаў «Лёс салдата ў Амерыцы». Джэймс Кегні ў ролі гангстэра Эдзі Бартлета. Там яшчэ была песня з выдатнай мелодыяй. «Засынай, засні, мой слаўны бэбі, адлятай, журботы след...».

— Нешта прыгадваецца — але не глядзела.

— І, ведаеш, яшчэ да гэтай пары засталося адчуванне, што той фільм — менавіта к і н о і ёсць, само яно, як нейкі асаблівы свет, жыццё, са сваёй непаўторнай атмасферай. А ў перадачы «Голасу Амерыкі» я аднойчы пачуў, што ў Нью-Йорку памёр Джэймс Кегні, які праславіўся ў ролях гангстэраў, а пражыў шэсцьдзесят год са сваёй адзінай, неразлучнай жонкай. Сказалі, што ў нас яго добра ведалі па гэтай любімай тагачаснымі падлеткамі карціне і што ў час пахавання ліў дождж, артыста праводзілі ў апошні шлях толькі некалькі чалавек, і сярод іх ішоў Міхаіл Барышнікаў, вядомы танцоўшчык, што пераехаў у Амерыку і добра памятаў старога Кегні па фільмах свайго юнацтва... —я быццам убачыў усё гэта сваімі вачамі.

— А мы з табою калісьці таксама глядзелі нешта трафейнае. Ці не «Марыю Сцюарт», з гісторыі Англіі...

— «Дарога на эшафот» называлася. Вайна Чырвонай і Белай ружаў. Памятаю вельмі добра: чорна-белая стужка, старая, экран рабаціць. Грозная нейкая музыка. Бляск гіней і кінжалаў, некага топяць у бочцы з вінам; здымаюць марлю з твару хворага прыгажуна лорда Ботвела — ён увесь пабіты воспай; узрываюць бочкі з порахам на караблях, і нарэшце — чорны эшафот, на які ўзводзяць каралеву... Калі вярнуліся дадому, цёмным вечарам, трэба было рабіць урокі, а ціхая музыка з рэпрадуктара, па якім я ўчора слухаў тваё чытанне Купалавай «Магілы льва», чулася адно суровай, змрочнай музыкай з таго фільма, урокі ніяк не даваліся.

— Так, жудасна... А хадзілі мы тады ў маленькі кінатэатр, я купляла білеты, амаль нікога, апроч нас; падымаліся на другі паверх. Мы з табою там і «Трансвааль» глядзелі, таксама пра вайну, толькі ўжо англа-бурскую, у мінулым стагоддзі, на поўдні Афрыкі, — быццам нам сваёй, тады яшчэ нядаўняй, не ставала. Божа, усюды і заўсёды адно: вайна, вайна... Як зваўся той кінатэатр — «Радзіма»?

— Не, гэта «Беларусь» была; цесная, затое недалёка ад нас, каля хлебазавода.

— Так-так, і пахла свежым цёплым хлебам на той вуліцы, калі мы выходзілі пасля сеанса. Вось дзіўна. Як тады жылі? Ды як выпадала. Здавалася б, якое там яшчэ кіно пасля вайны? Хлеб, грошы трэба было здабываць, неяк сагрэцца, апрануцца. А мы з табой часта ў кіно хадзілі. І хіба ж толькі мы? Так, усе мы, людзі... трохі ненармальныя, канешне, — і да шчасця... А кіно «Радзіма» — там у маленькую залу таксама падымаліся на другі паверх — дзе ж яно было?

... А «Радзіма» была на вузкай вуліцы, насупраць будынка радыёкамітэта, дзе на балконе, ярка асветленым сонцам, маці стаяла з акцёрамі ў перапынку паміж рэпетыцыямі ці запісамі на плёнку, — і ўсе яны махалі мне рукамі, таму што яна заўважыла мяне ў школьнай калоне, якая марудна, з доўгім таптаннем на месцы, уцягвалася ў кінатэатр на прагляд «Падзення Берліна».

Усё было цудоўна — і смех маці на балконе, і кіно наперадзе, і ранец з падручнікамі на шэсць чалавек за плячыма, і нават чарніліца ў мяшэчку, заціснутая ў руцэ. Але сядзець давялося на спінцы крэсла, каб што-небудзь пабачыць, і ранец спустошылі пасеўшыя ззаду. Гэта стала зразумелым па страшэннай яго лёгкасці на плячах, калі выходзілі, пад вялікай карцінай Левітана «Ля віру» над лесвіцай, а на балконе радыёкамітэта насупраць ужо нікога не было, і сонца больш не свяціла — заставалася толькі чарніліца ў мяшэчку і слёзная ганьба разявы.

«Падзенне Берліна» не ўспаміналася ніколі.

Затое ў той самай «Радзіме» пазней, ужо студэнтам, пашчасціла пабачыць зусім іншае кіно — ніколі і не думалася раней, што яно можа быць такім. Бо ўсё, што адбывалася на экране, адбывалася менавіта ў жыцці, якое ты нейкім чынам бачыў зблізу, быццам знаходзіўся ў ім, застаючыся сам непрыкметным для яго.

Гэта быў «Рым — адкрыты горад» Раберта Раселіні, пачынальніка славутага італьянскага «нэарэалізму», — і гнятлівае, гразкае пачуццё страху валодала табою, калі ты глядзеў, як фашысты палявалі на людзей, як адзін

(Працяг на стар. 10-11)

## МУЗЫКА

# ЛАЎРЭАТЫ...

***Лаўрэатаў без перамог не бывае. А асалода перамогі не толькі ў прыемных адчуваннях, сардэчных віншаваннях, прэміях. Яна загартоўвае пачуццё ўласнай годнасці, павялічвае адданасць сваёй прафесіі і наогул, напаўняе жыццё пэўным сэнсам. Музычныя конкурсы выканаўцаў — гэта «нараджэнне» дыяментаў. Беларуская зямля ўрадлівая на таленты, але не будзем думаць, што адшукаць талент-дыямент проста. Яшчэ цяжэй майстэрства аграншчыка, якіператварае самародак у сапраўдны шэдэўр, удасканальваючы ззянне граняў таленту...***

Рэспубліканскі музычны ліцэй пры Акадэміі музыкі апошнім часам рэгулярна «гучыць» на старонках друку. Ды толькі ў агульным «гучанні» не заўсёды праслухоўваюцца ўсе новыя «галасы». Вось сярод іх — Андрэй Кавалінскі, чыё прозвішча раз-пораз з'яўляецца на канцэртных афішах. Назва ягонага інструмента — труба — сустракаецца ў філарманічнай дзейнасці вельмі рэдка. Але нават меламаны, я ўпэўнены, мала што ведаюць пра гэтага таленавітага падлетка, ды і наогул — пра выканальніцтва на медных духавых інструментах у Беларусі.

Між тым, ва ўсе часы на Беларусі ў аркестрах працавалі таленавітыя выканаўцы-духавікі, працуюць і цяпер. У дыялектычным сэнсе дасягненні Андрэя Кавалінскага можна трактаваць як вынік агульнага развіцця беларускай выканальніцкай школы на медных духавых інструментах і ацэньваць іх можна з пазіцыі гісторыі развіцця беларускага выканальніцтва на гэтых інструментах. Здаецца, адбываюцца, нарэшце, ўваходзіны нашых духавікоў у канцэртна-сольную практыку /пакуль што, ігры на трубе/. Аднак прадузята сфарміраваныя адносіны да медных духавых у нашай краіне, ды яшчэ наша агульная беднасць, беднасць культуры спляжылі цэлы пласт найцікавейшай музыкі, якую вельмі рэдка чуюць беларуская слухачы. Канцэрты, санаты для медных духавых вялікіх кампазітараў — Гайдна, Моцарта, Бетховена, Хіндэміта, Штрауса, — большасць з *іх так і застаецца малавядомымі* нашым суайчыннікам. Пачуўшы сёе-тое ў выкананні А.Кавалінскага, я задумаўся *менавіта пра* гэта і адчуў чамусьці нейкі страх за творчую будучыню таленавітага хлопца...

15-гадовы Андрэй ужо выступіў на трох сур'ёзных конкурсах выканаўцаў-трубачоў і кожны раз атрымліваў І-ю прэмію: на Рэспубліканскім конкурсе ў Віцебску; на Усесаюзным конкурсе Юнацкіх асамблей мастацтваў /Масква/, дзе, акрамя 1-й прэміі, яму была прысуджана стыпендыя знакамітага трубача прафесара Цімафея Дакшыцэра; нарэшце, ён стаў першым у гісторыі беларускага выканальніцтва на медных духавых лаўрэатам МІЖНАРОДНАГА конкурсу трубачоў /1992 г., Масква/. І таксама «чыстая перамога»: 1-е месца і дарагі падарунак — труба. Акрамя ўсяго, Андрэй — стыпендыят міжнароднага фонду «Новыя імёны» /прэзідэнт — А.Карпаў/.

Адразу пасля конкурсу я павіншаваў Андрэя і ягонага прафесара Мікалая Волкава. Пазваніў у Маскву. Вось што мне сказаў старшыня конкурсу прафесар Маскоўскай кансерваторыі доктар мастацтвазнаўства Ю.Усаў:

— Андрэй Кавалінскі, несумненна, вельмі таленавіты музыкант. З 26-ці ўдзельнікаў конкурсу ён адзіны, каму апладзіравала зала падчас выканання праграмы. У членаў *журы не магло ўзнікнуць аніякіх сумненняў*: ён быў лепшы! А яму ж толькі 15 гадоў. Для сталай ігры на трубе — гэта малы ўзрост. Адчуваецца, што з ім працуе вопытны педагог. Тэхніка ігры на трубе — рэч складаная сама па сабе, а ў праграме былі яшчэ творы, якія вымагаюць тонкасцяў трактоўкі, стылю — адной бліскучай тэхнікі без інтэлекту, інтуіцыі тут не хопіць. Па ўсім відаць, што хлапчук мае светлую галаву. Малайчына! Трэба падтрымліваць і берагчы такіх людзей. Вось мы свайго Сярожу Накаракава, здаецца, страцілі /пакінуў Расію/...

Нядобрым «халадком» павеяла ад гэткага наказу, хаця Андрэй сур'ёзна запэўніў мяне, што ён з'язджаць нікуды не збіраецца: трэба шмат чаму навучыцца, ён вельмі хоча займацца ў свайго прафесара. Пасля конкурсу склаўся план канцэртаў на будучыню, атрымана цікавыя запрашэнні... Але ж мы маем сумны вопыт.

Заўважу, што практыка правядзення маштабных конкурсаў сярод духавікоў выявіла нямала таленавітых выканаўцаў на Беларусі. За апошніе дзесяцігоддзе колькасць лаўрэатаў міжрэспубліканскіх і ўсесаюзных /па-цяперашняму міжнародных/ музычных спаборніцтваў значна павялічылася. Ніводны такі конкурс не прайшоў без перамог беларускіх удзельнікаў. Рэспубліка займела свае кадры, на конкурснай аснове пачалі запаўняцца месцы ў аркестрах, якія раней звычайна «належалі» навучэнцам Маскоўскай ці Ленінградскай кансерваторый. Сярод нашых музыкантаў — лаўрэаты конкурсаў А.Акімаў, В.Каўрэцкі, І.Цыцоха, У.Давыдоўскі, Ю.Разінькоў і іншыя. Я добра ведаю іхнія праблемы і разумею, колькі яны аддалі і што цяпер маюць ад сваёй фанатычнай адданасці прафесіі, Музыцы.

Так, яны ні з чым не лічыліся, пакуль жыццё не прыціснула так, што сем'і апынуліся на грані развалу. Займацца на інструменце, г.зн. займацца сваёй справай, духавіку трэба ў дзень не менш як 2-3 гадзіны — калі гэта рабіць? Жыццё ж некаторых музыкантаў — як ланцуг здзекаў лёсу! «ЛіМ» пісаў ужо аб *гэтым, але* НІЧОГА *не змянілася!* *Той самы* В.Каўрэцкі, канцэртмайстар Дзяржаўнага акадэмічнага аркестра /першы трамбон/, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу, як ездзіў штодзённа ў Іванец — з Іванца, так і ездзіць... Яшчэ знайшоў час арганізаваць Квартэт трамбонаў, удзельнічаў у Брас-квінтэце, паступіў у асістэнтуру-стажыроўку! І што? Нехта падумае: робіць кар'еру. Выбачайце... Нават думаць гэтак ніякавата. Тым больш, што, здаўшы выпускныя экзамены /застаецца толькі абараніць рэферат/, В.Каўрэцкі «аўтаматычна» выключаецца з асістэнтуры: супалі тэрміны часовага кантракту ў Польшчы ды абароны рэферата. Перанесці абарону аказалася немагчымым...

А першы трубач ДАВТа Ю.Разінькоў? Пасля пяцігадовых пакут у Мінску так і не ўладкаваўся хаця б у інтэрнаце: «узважваецца» ўсё, акрамя таго, што гэта лепшы трубач, вельмі патрэбны опернаму тэатру... Ён цяпер таксама ў Польшчы: там яму і жытло знайшлі, і трубу новую купілі, і дапамагаюць, як могуць, — проста за тое, што ён Музыкант вышэйшай кваліфікацыі! Неўзабаве вернецца ў Мінск — што яго чакае?

Вядома, шкада, калі гніе пад дажджом кінутая апаратура або трактар «Беларусь»... Але ж хоць «прапішуць» нядбайнага гаспадара! А чаму ж няма адказных, калі гібеюць людзі, прафесіяналы, культура??? Ці ж гэта не яшчэ большая «безгаспадарчасць»?

Вось і з А.Кавалінскім: стыпендыя «ад Дакшыцэра», другая — ад Карпава /ягонага фонду/, труба з Пецярбурга... Наогул, як сказаў прафесар М.Волкаў, Андрэй больш

# ТРАФЕЙНАЕ КІНО

(Пачатак на стар. 8-9)

чалавек прымушаў кагосьці забіваць другога — пажылога, нямоглага, які пакорна чакаў смерці, седзячы на крэсле, спіною да забойц, на нейкім пустыры, — забойца, злуючы на ўсіх і на ахвяру, падбягаў і сам страляў ёй з пісталета ў патыліцу.

Гэта было тое, што ўжо засталося перад вачыма назаўсёды.

Пасля таго я, мусіць, і пачаў усур'ёз думаць пра ўсё, што адбывалася ці магло адбывацца падчас вайны і ў нас у горадзе, калі маці была далёка, — думаць і сёе-тое разумець.

### 3.

— Не-не, мы ў *гэтай краіне*, у яе *гісторыі* пражываем не адно жыццё, а некалькі — я ўжо не раз так думала і казала. Як сабе хочаш, толькі не адно, і ўжо зусім дакладна — не толькі сваё.

— Не заўсёды гэта шчасце, часта пепей адно, але сваё жыццё пражыць.

Многія б дорага за гэта далі. Каб не жыць, не пакутаваць яшчэ і ў турмах, лагерах ці на вайне...

... А нядаўна стала я хроснай маці нашага маладога акцёра... Ну, ты ведаеш. Ён хрысціўся ў трыццаць тры гады. Думаў і раней, але бацькі ў яго камуністы, відаць, перажывалі, і ён доўга не хацеў іх засмучаць... А вось цябе хрысцілі без мяне. Бачыш, як склалася. Таксама дзіўна: снежань сорак першага, мы з тэатрам ужо паўгода ў Сібіры, вы тут, у Мінску, акупацыя... І ацалелі ўсе. А мой тата са сваёй сям'ёй — як іх хата выстаяла насупраць Дома ўрада, зараз якраз пасярэдзіне плошчы Незалежнасці? У гэты ж дом нашы самалёты, кажуць, стараліся пацэліць бомбамі ў кожны свой налёт. І вы там былі недзе недалёка, за Заходнім мостам. Маглі б і на вас...

— Маглі б, а чаму не? Казалі, Грызадубава, знаная лётчыца, гераіня, яе звяно ці эскадрылля бамбілі Дом урада аднойчы на свята 8-га сакавіка, — бомбы ляглі пабліzу, у жылы квартал: вуліца Берсана, Трубны завулак... Пэўна, лічылася — такой бяды. Мы ж тады былі хто? Не «нашы», бо жылі пад немцамі. Колькі гадоў у пашпартах дарослых пра гэта свецчыў спецыяльны штамп, чырвоны. Маглі і высяляць з кватэр, калі б была патрэба. Мы, дзеці, у школьных біяграфіях, уступаючы ў піянеры, пісалі, што былі ў акупацыі, — нам так раілі. А ў Тамары нашай у першы месяц пасля вызвалення «наш» капітан гадзіннік зняў з рукі на вуліцы, памяць пра маці, што памерла ў вайну сваёю смерцю.

— Во як перакруцілася ўсё. Жыццё і лёс... У Шэкспіра недзе так: жыццё — аповесць, у якой шмат гулу і шаленства, але якой бракуе сэнсу, нібы яе пераказаў вар'ят... Неверагодна, колькі несумяшчальнага для чалавека можа адбывацца ў адных і тых жа месцах, дзе ён жыве ў розны час. Ізноў жа, бышчам не адно жыццё жывём, а некалькі. Ты кажаш — Дом урада, гарадскі наш, мінскі цэнтр. А я прыгадваю: зіма сорак чацвёртага на сорак пяты. Тэатр наш ізноў дома. І я вязу цябе ўвечары на санках адзінай тады вуліцаю з ліхтарамі — праз увесь пабіты, у руінах, цэнтр — і я шчаслівая! Іду міма «чырвонага» касцёла. Праз год, здаецца, тут на процілеглым баку галоўнай вуліцы, побач з ці не адзінымі тады ў горадзе гастраномам і кніжнай крамай адчыніцца тытунёвая крамка — бадай, самае шыкоўнае месцейка тагачаснага цэнтра. Утульнае святло, маленькі столік пад аксамітным абрусам, канапка і папяросы ў прыгожых зялёных каробках «Герцагавіна Флор» — потым іх *называлі «папяросамі Сталіна»*. *А тады* яшчэ трошкі курыла, па інерцыі з вайны, толькі больш танныя — ну, «Беламор», напрыклад...

Над кніжнай крамай там, з драўлянага балкончыка знаёмых, разам з цудоўнай сям'ёй Чалікавых — памятаеш іх? — мы глядзелі першамайскія пасляваенныя парады. Быццам бы з ложы ў тэатры. Так усе радаваліся міру і жыццю, што пра вайну амаль не ўспаміналі. А толькі ўсяго гады са тры таму наўсцяж усёй гэтай галоўнай вуліцы ляжалі нашы забітыя палонныя — вы мне расказвалі, калі я прыехала.

— Той зімою сорак другога немцы іх усю ноч гналі з Таварнай станцыі некуды праз горад, і ўсю ноч чулася страляніна. А жанчыны з нашага дома раніцай, калі скончылася каменданцкая гадзіна, дайшлі галоўнай вуліцай да сквера ля цяперашняга тэатра Купалы — і ўсюды ўздоўж тратуараў ляжалі забітыя — ніцма, бо спярша, напэўна, падалі на калені і ўперад да знямогі, — такія схуднелыя былі. І ўсюды была відаць кроў, змерзлая на вытаптаным снезе. Жанчыны нашы запомнілі гэта — і двух мужчын у форме нямецкіх афіцэраў. Тыя ішлі напераддзе, пільна ўглядаючыся ў забітых, быццам вышукваючы некага. Па напружаных тварах было прыкметна, што яны нервуюцца. Прагна курылі, аглядаліся, заўважылі, што звяртаюць на сябе ўвагу. І тады нашы жанчыны павярнулі і пайшлі назад... Вось расказалі мне, даўно — а да гэтай пары стаіць перад вачыма. Хто былі тыя двое? Каго шукалі? Ужо ніколі не дазнаешся. Таямніца, загадкавае, як жыццё наогул.

— ... А потым ужо бачыла я праспект, які забудоўваўся ў цэнтры новымі гмахамі.

— Увесь пасляваенны цэнтр Мінска будавалі, танцуючы як ад печы — ад раскошнай будынiны КДБ з калонамі, — хто бачыць упершыню, дык думае: тэатр, — шыльды ж няма і не было ніколі, як і ў Маскве, дарэчы. Будавалі палонныя, толькі немцы ўжо. Ахоўвалі гмах салдаты ў доўгіх белых кажухах; вінтоўкі са штыкамі. Ахоўвалі гаспадара, другога пасля Берыі Лаўрэнція — Цанаву.

— Што было на гэтым месцы да вайны? Я спрабавала ўспомніць — не магу.

— А гэта ўжо зусім іншая справа, больш людская. Цікава, што амаль ніхто ўжо не ведае. А я ведаю. Тут было самае неабходнае ўсім людзям у горадзе — ГУМ. І ў ім працавала мая цётка Надзея Іванаўна.

### 4.

— Я неадноічы чула — ад масквічоў, напрыклад, — што ў нас, беларускіх акцёраў, прыкмета такая, ведаеш ... нязробленасць, натуральнасць ці што, непасрэднасць, «наіўнасць» у добрым сэнсе...

— І шчырасць, а ўсё гэта разам — арганічнасць, «выяўляючая» якасць.

— Гэта сваё, нацыянальнае ў нашым тэатральным мастацтве доўгі час можна было разгледзець толькі ў самых акцёрах і зрэдку — некаторых спектаклях. Усё астатняе было уніфікавана. Над усім навісла ідэалогія — як і ўсюды, вядома. І нас саміх прымушалі нішчыць уласную адметнасць. Асабліва ў трыццатыя, я помню. Божа, гэта ж было нейкае вар'яцтва! У тэатры пачалі выпускаць розныя «сценгазеты». Па загадах з Масквы шукалі «мясцовых нацыяналістаў». Вось наша Ірына Фларыянаўна Ждановіч — колькі славы тэатру прынесла, а яе ж за прыдуманы некім антысемітызм і да «товарищеского» суда прыцягвалі, і патрабавалі публічна выракацца роднага бацькі Фларыяна Паўлавіча, арыштаванага як «нацдэма» і саспанага некуды ў лагер, — ён там і загінуў, а ён жа з ліку тых, хто ў літаральным сэнсе стварыў, пачынаў беларускі тэатр. Ды што там...

І глядзі, якая добрая глеба была для ўсіх гэтых рэпрэсій, насілля, здзекаў — менавіта наш характар. Падатлівы, мяккі, цярплівы.

Вазьмі мяне. Што, я сябе не ведаю? Ніколі не магла не тое каб цвёрда, рэзка патрабаваць чагосьці, хай сабе і зусім справядліва, — але проста пастаяць за сябе, нечаму ўспраціўіцца адкрыта і рашуча, не пагадзіцца, пратэставаць. А я ж актрыса: мы залежым — ад рэжысёраў, рэпертуару, дырэкцыі — ад усяго! Ёсць, пэўна, моцныя людзі, з вялікай сілай волі, настойлівыя, смелыя. Я — не. Я паслухмяная. І ў рабоце таксама. Я іду за рэжысёрам, ягонай думкаю, задачай. І я ніколі не магла дабівацца, прасіць тую ці іншую ролю, нават заікнуцца пра гэта. Хаця, бывала, выдатна ведала, была перакананая: гэта — маё, і толькі маё. /Пастуквае пальцамі па стале; устае, адыходзіць да кухоннага акна./ Нібы каменным усё рабілася ўнутры. /Адвярнуўшыся да вакна, з крыўдаю ў голасе./ І на цэлыя гады ўсё гэта расцягвалася. А вяваць, біцца за сябе — не, і не магла, і не ўмела. Можа, і за сваіх, сваё... Так, беларусы... /Паўза./

Я ж працую, калі задумацца, з пятнаццаці год. І ўсё ў адным, можна сказаць, «ведамстве». І вось ізноў у нас усё спачатку: хлеб, можа, будзе каштаваць мільён, як у мяне маладосці — фурман. А як я забяспечыла сваю старасць, з чым засталася? Не паверыць. Або вазьмі амерыканскія пасылкі. Я памятаю іх з дваццатых гадоў, ты — з сорак пятага, а цяпер — ізноў тыя пасылкі дапамогі? Не, давай лепш не будзем пра гэта, а то так горка робіцца і сорамна...

Але я заўсёды быццам бы ведала, разумела: маё — тое, што на гэтым свеце сапраўды маё — прыйдзе да мяне, будзе са мною рана ці позна, нават і без высокіх званняў. Прынамсі, жыла, нібыта была ўпэўнена ў гэтым, такое было пачуццё. Ну і вось... Дзякаваць Богу трэба і лёсу за тое, што людзі табе ўдзячныя...

І галоўная загадка для мяне — чаму менавіта моладзь так часта пазнае на вуліцах *і рада гэтаму*. У яе *ж сваё* жыццё, свае захапленні, «куміры». Не разумею. /Смяецца./

— Ну, зорка, зорка...

— Так-так, Мэрылін Манро. Нядаўна, дарэчы, бачыла перадачу пра яе. Там шмат разоў на розны лад: «секс, секс». Ці сённяшнія фільмы ўзяць: такое буйным планам, што... А потым святло ў *зале запальваюць* — і як глядзець адзін аднаму ў вочы? Быццам мы ўсе ў гэтым удзельнічалі. «Секс, секс». Не ведалі мы гэтага нічога. І як жа сталі тымі, хто мы ёсць? /Паўза./ Так, шмат чаго мы не ведалі. /Апусціўшы і закрыўшы галаву рукамі./ Няўжо, усё гэта было і прайшло? Здавалася ж, не будзе канца!.. /Выпрамляючыся, весела./ Але нічога! Жыццё кароткае, мастацтва бясконцае.

Ведаеш, што я марыла б сыграць? Ролю Невядомай. Можна без слоў, адно рухі, пластыка — быў бы водгук таго майго маладога часу. І так выявіць характар і сябе, каб глядач забыўся, хто ён у гэтым сваім жыцці, і адчуў бы сябе ў свеце прыгожага і таямнічага, у свеце мастацтва, значыцца —

***Гэты матэрыял узнік досыць нечакана: адно малое прадпрыемства, якое займаецца выпускам камерцыйнай літаратуры, звярнулася да мяне з прапановай напісаць штосьці падобнае на невялікі каментарый да брашуры Барыса Алейніка «Князь цямрэчы», якую яно запланавала выдаць. Пра гэту брашуру я краем вуха чуў, як пра з'яву сенсацыйную, якая друкавалася і ў маскоўскай, і ў нашай, беларускай, перыёдыцы, выдавалася асобна. Таму прапановай зацікавіўся, брашуру «праглынуў» за паўночы, а потым і напісаў слова пра яе, якое, аднак, набыло форму не бесстаронняга каментарыя, а хутчэй палемікі з аўтарам, ці, дакладней, з яго ярка выяўленай камуністычнай партыйнасцю, якая, дзякаваць Богу, УЖО і ўсё ЯШЧЭ не з'яўляецца чымсьці недатыкальным, бясспрэчным сведчаннем ісціны ў апошняй інстанцыі. Але выдавецтва палічыла суіснаванне дзвюх такіх пазіцый-падыходаў пад адной вокладкай непажаданым і вярнула мне матэрыял, сказаўшы, што я іх пераканаў і яны вырашылі брашуру не выдаваць. Падаю яго тут перастворaным у роднай мове, бо змушаны быў пісаць яго па-расейску, будучы прывязаным да тэксту, напісанага ўкраінскім аўтарам на мове «интернационального общения»...***

# ДЫК ДЗЕ Ж ВЫТОКІ ЦЯМРЭЧЫ?

«Князь цямрэчы. Два гады ў Крамлі» — *твор неардынарны. Як зместам,* што адчыняе нам тайны крамлёўскай кухні, захаванае, а ў асобных выпадках, магчыма, і дадуманае, з жыцця Гарбачова, так і самім пафасам, напорам думак, пачуццяў, майстэрствам публіцыстычнага ўвасаблення.

Нарыс напісаны відным украінскім пісьменнікам Барысам Алейнікам, узрошчаным на хвалі хрушчоўскай адлігі. Ён уваходзіў у чытачову свядомасць разам з шасцідзесятнікамі: Лінай Кастэнка, братамі Цюцюннікамі, Васілём Сіманенкам, Іванам Драчом, Змітром Паўлычкам, якія словам і чынам сцвярджалі нацыянальную самасвядомасць, прынцыпы дэмакратызму, свабоду слова, самабытнасць роднай літаратуры.

Іх лёсы склаліся па-рознаму: Грыгор Цюцюннік і Васіль Сіманенка заўчасна пайшлі з жыцця, Ліна Кастэнка трапіла ў разрад забароненых на Украіне пісьменнікаў, а Барыс Алейнік шчыльна прыбіўся да «руководящей и направляющей силы современности».

Чалавек у меру незалежны і праўдзівы, з аналітычным розумам, ён не мог не бачыць брэжнеўска-чарненкаўскай бутафорыі, таго, што краіна пад «мудрым кіраўніцтвам» падае ў бездань, не перажываць трагедыі Украіны, якая з яе пяццюдзесяццю мільёнамі насельніцтва, выгодным геаграфічным становішчам і шчодрымі прыроднымі багаццямі ўсё больш паслядоўна ператвараецца ў бязлікую і бяспраўную правінцыю на задворках гісторыі, дзе рабілася праблемным існаванне не толькі нацыянальнай культуры, але і самога ўкраінскага этнасу. Як і беларускага...

Выступленні Барыса Алейніка на сесіях Вярхоўнага Савета і на З'ездзе народных дэпутатаў СССР вылучаліся ўсхваляванасцю, адмысловай украінскай мудрасцю-хітрынкай, арганічнасцю народнай стылістыкі.

Ён меў шанц, бадай, больш, чым у каго, увасобіцца ва ўспрыманні мільёнаў тэлегледачоў у сам голас народны — праўдзівы, шчыры і непадкупны. Такімі задаткамі прырода яго абдарыла. Але ж перашкодзіла тое, што туды, на крамлёўскі алімп, дэлегаваны ён быў не самім народам, а ўсё той жа «руководящей и направляющей», якая нябачна стаяла ў яго за спіною, кантралявала думку, паддавала фальшу ў голасе, рабіла *непаслядоўнай пазіцыю.*

Ён — тыповы прадстаўнік свайго часу. Значная, калі не пераважная, частка нашай інтэлігенцыі, часткова запалоханая, часткова аблашчаная, вымушана была прыстасоўвацца да маючых уладу, гаварыць нібыта праўду, ды не ўсю, а толькі выбарачную, самім сабе дазволеную з улікам пільнага праніклівага вока...

Б. Алейнік выступаў прыхільнікам памяркоўных рэформ у партыі і дзяржаве. І хто ведае, калі б своечасова былі зроблены касметычныя аперацыі і кампартыі ўдалося неяк адасобіцца ад папярэднікаў, звысакародзіць сваё аблічча, каб на ім не было слядоў масавых рэпрэсій, штучна створанага голаду на Украіне, што забраў мільёны жыццяў, трагедый Катыні і Курапат, дык, зусім верагодна, сядзеў бы сёння таварыш Алейнік у крэсле сакратара па ідэалогіі ў рэспубліканскім ЦК і чуйна прыслухоўваўся б да *каштоўных указанняў вышэйшых* крамлёўскіх начальнікаў.

Але наканавана было іначай: хвалі жыцця, што ўзнеслі Б. Алейніка на вяршыні партыйна-дзяржаўнай алігархіі, нечакана захлынулі яго разам з КПСС /«ум, честь и совесть нашей эпохи!»/, якая раптам з «руководящей и направляющей» ператварылася ў прыніжаную і зганьбаваную.

Ці трэба казаць, як гэтае нечаканае пераўвасабленне стукнула па свядомасці мільёнаў, сярод якіх большасць толькі лічылася камуністамі па наяўнасці так званай «хлебнай кніжкі», гэта значыць партбілета.

І калі б жыццё ў СССР, як, скажам, у большасці іншых краін былога сацлагера, увайшло ў больш-менш нармальнае рэчышча, дык увесь бы гэты шматмільённы люд, каб не вярэдзіць старыя раны і не залічаць сябе ў саўдзельнікі сапраўды гістарычных злачынстваў, прыстасаваўся б да новых умоў і ціхенька сышоў бы са сцэны. *Але добрага жыцця,* на якое спадзяваліся, не атрымалася. І ўчарашняе жыццё /а салодкім яно ніколі не было/ пачынае высвечваць сёння прывабным, рамантычным святлом. На гэтым і ладзяць сваю палітыку камуністы. А народу быццам і няўцям, што гэтае жыццё з'яўляецца лагічным працягам і завяршэннем дня ўчарашняга, што ніякія дэмакраты цяпер рэй не вядуць, бо на ўсіх ключавых пасадах паўсюль сядзяць усё тыя ж камуністы. Простаму чалавеку такая няўцямнасць даравальная, але не такому вопытнаму, дасведчанаму палітыку, творцу, як Б. Алейнік...

Калі раней ён хітрыў па-малому, дапушчальнаму для чалавека ў такіх умовах, калі, каб нармальна жыць /а пісьменніку найперш друкавацца і выдавацца/, даводзілася свядома прыстасоўвацца, дык тут, у «Князі цямрэчы», ён вытварае папраўдзе віртуозны ход.

І яўна спекулюючы на народным горы, Б. Алейнік паказвае партыю абаронцаю інтарэсаў простага чалавека і таму ўсяляк імкнецца замацаваць у людской свядомасці ілюзію, *што ўсе нашы сённяшнія беды з таго,* што «сатанінскія» сілы вераломна расправіліся з яго роднай, шчыра каханай партыяй, якая, маўляў, з'яўлялася адзіным маральным гарантам развіцця цывілізаванага грамадства. Мяркую, іл жывасць такой высновы асаблівых доказаў не патрабуе — пра высокую «маральнасць» КПСС ад самога яе зародку сведчыць уся яе гісторыя, дзе і рабаванні, і змовы, і забойствы, і масавы тэрор... Ну а тое, што можна зусім добра абыходзіцца без такой «руководящей и направляющей» — гэта пасведчаць мільёны працаўнікоў у тых краінах, дзе сам народ пры дэмакратычных выбарах і блізка не падпускае камуністаў да ўлады. Але ж там іх ніхто і не забараняе, бо вядуць яны сваю дзейнасць у рамках канстытуцыйнага ладу і ў большыні з'яўляюцца патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны...

Калі б Б. Алейнік не быў мастаком слова і не валодаў дарам пераўвасаблення, дык з яго шчырага жадання абяліць і гэтым самым абараніць партыю атрымаўся б, бадай, сумны, наскрозь хлуслівы і бяздоказны опус, які не тое што выдаваць, але і ў рукі не варта было б браць. Але перад намі варты ўвагі, цікавы твор. І не ён першы паказвае прыклад, што таленавіты пісьменнік, нават заняўшы лжывую пазіцыю, стварае штосьці такое, што жыве па ўласных законах і адлюстроўвае *істотныя моманты стану чалавечага* духу, грамадства, паказвае іх супярэчнасці і мятушэнні. Так і «Князь цямрэчы», пры ўсёй супярэчлівасці і прадузятасці, прымушае нас думаць, разважаць, вызначацца ў складаным сучасным свеце. Гэты нарыс, несумненна, увойдзе ў гісторыю палітычнай, грамадска-творчай думкі.

Б. Алейнік узяў сабе на душу цяжкі грэх, заплюшчыўшы вочы на ўсе зладзействы, якія ВКП /б/ — КПСС учыніла супраць чалавецтва, супраць хрысціянства, якое ён рызыкнуў атаясаміць з камунізмам. Дастаткова тут згадаць сапраўды сатанінскія ленінскія дырэктыўныя ўказанні пра масавае знішчэнне святароў, тое, як з падачы «руководящей и направляющей» была атрымана згода на знішчэнне тысяч храмаў — помнікаў дойлідства сусветнага значэння. Адкуль жа такое бяспамяцтва, амаль манкуртызм?..

У сваім імкненні разгадаць «тайну» Гарба*чова на ўзроўні падсвядомага,* з нейкай нават апантанасцю спрабуючы давесці яго сувязь з чорнымі сіламі, Б. Алейнік і сябе міжволі падвёў да гэтай рысы паміж Дабром і Злом, бо калі стаць на яго ж пазіцыю, дык правамерна задаць пытанне аб вытоках ягонага натхнення, пры якім з нейкім ненатуральным звышімпэтам ён адстойвае відавочныя цямрэчу і змрок, здзекліва падаючы іх чытачам у абліччы Боскага святла...

Б. Алейнік імітуе сябе перад чытачом у строях Архангела Міхаіла з вострым мячом у руках і, абуджаючы у сваёй душы «справядлівы» гнеў, наносіць балючыя, нярэдка забароненыя ў цывілізаванай супольнасці ўдары па, як ён сцвярджае, галоўным віноўніку ўсіх нашых бядотаў — першым і апошнім прэзідэнце СССР, апошнім генсеку самай магутнай з існаваўшых калі-небудзь партый — Міхаіле Гарбачове, постаці сапраўды не толькі супярэчлівай і складанай, але і дастаткова загадкавай на палітычным небасхіле XX стагоддзя.

Хто ён — «князь цямрэчы», што свядома абрынуў, як *апантана* даводзіць Б. Алейнік, мільёны людзей у чарнобыльскую, эканамічную, міжнацыянальную катастрофы? Стыхійны бунтар сярод камуністычных валадароў, іх сакрушальнік, ці проста добры чалавек, але недастаткова далёкі і мудры палітык, які не здолеў прадбачыць /а які абсяжны розум трэба было б мець!/ вынікаў нібыта з чыстай душою і добрымі намерамі задуманых перамен у грамадстве і дзяржаве?!.

Такіх пытанняў-сумненняў-разваг можна задаць і паставіць дзесяткі, сотні, ды Б. Алейніку здаецца ўсё ясным і гэта паслядоўна сцвярджаецца і назвай, і ўсім пафасам кнігі — Міхаіл Гарбачоў з'яўляецца «князем цямрэчы», гэта значыць сатаной, д'яблам у чалавечым абліччы. Але калі гэта сапраўды так, дык правамерна паставіць і такое пытанне: а папярэднія генсекі — яны што, былі вылеплены з іншага цеста, ці на іх сумленні менш *людскіх пакут і крыві?! Яны ж таксама не з* космасу да нас з'явіліся, а выйшлі з нетраў усё той жа «руководящей и направляющей», са згоды і ад імя якой яны гаварылі і дзейнічалі...

Наш аўтар, безумоўна, не настолькі аслеплены камуністычнай ідэяй, не настолькі рамантычны і наіўны, каб усё, што навытварала за сваю надзвычай багатую гісторыю партыя, падаваць цалкам у высакародным святле. Так, кажа ён, здаралася на тым шляху і дрэннае, але не гэта галоўнае і вызначальнае, бо нутро ў кампартыі здаровае, трывалае, чыстае і цяпер, вызваліўшыся ад прыстасаванцаў і кар'ерыстаў, ад прыхільнікаў «князя цямрэчы», яна нарэшце набудзе **сваю сапраўдную хрысціянскую сутнасць і будзе несці людзям святло жыцця, справядлівасці, надзеі і праўды...**

Каб жа яно так! Ды на прыкладзе роднай Беларусі мы бачым, у якім «анёльскім» абліччы «ўваскросла» рэабілітаваная Вярхоўным Саветам *партыя камуністаў і якую яшчэ адну* «светлую перспектыву» рыхтуе яна нашаму спакутаванаму народу, якога яна, калі па вялікім рахунку, і за народ не мае, бо што гэта за народ, якому адмаўляецца быць гаспадаром на ўласнай зямлі, у роднай хаце, мець сваю дзяржаўнасць і мову?! Ці мо на Украіне ўсё іначай і там нацыянальнае Адраджэнне напрасткі звязваецца з лёсам КПСС — КПУ?..

Перахрысціцеся, бо ніхто ў гэта не верыць і не паверыць! Нават самыя заядлыя камуністы, якія добра разумеюць, дзеля чаго яны аднаўляюцца і адраджаюцца. Ну а памяркоўныя і чалавечыя, якіх, як на маё меркаванне, было ў партыі большасць, хоць сам я ніколі да гэтай арганізацыі не належаў, даўно ўжо вызначылі сваю пазіцыю і жывуць, як усе нармальныя беспартыйныя людзі, ці далучыліся да партый нармальных, якім зусім не трэба хаваць на людзях свае «саромныя» *месцы, выдаваць чорнае за белае,* цемру *за* святло, бо яны толькі пачынаюць ствараць сваю гісторыю, і прыклад кампартыі ім павінен паслужыць добрым урокам на будучае. І я б вам, шаноўны Барыс Ільіч, на заканчэнне параіў:

Набярыцеся мужнасці, станьце на калені, збаўцеся ад нячыстага, шчыра паспавядайцеся Богу і толькі пасля пакаяння і ачышчэння зноў вазьміцеся за асадку і пакажыце патаемную цямрэчы, пачынаючы ад першага і да апошняга яе «князя»! І вам аддзячыцца з ліхвою!

**Яўген ЛЕЦКА**

# ЛІТАРАТУРА НА КРАЁЧКУ ЧАСУ...

***(Пачатак на стар. 5)***

## *Пра дэтэктывы*

/Пытанне: «Вас не хвалюе, што большасць людзей чытае дэтэктывы і фантастыку?»/

— Большасць чытае дэтэктывы? Я вам скажу, што яшчэ больш людзей есць улетку агуркі ці п'е гарэлку...

Дэтэктываў, фантастыкі, эратычнай і г. д. літаратуры баяцца не трэба. Няхай, калі ёсць пакупнікі, выдаўцы, калі яна дае прыбытак, — няхай. Але паралельна з гэтым будзе існаваць і высокая літаратура. Дэтэктывы і фантастыка — гэта літаратура не тое што другога, а — такая, якая яна ў нас ёсць, — гэта нават не літаратура... А тым не менш харошыя творы ў нас былі, ёсць, іх будуць пісаць. Чатыры сотні пісьменнікаў Беларусі абсалютна не патрэбны. Не патрэбна 400 раманаў за пяцігодку. Для таго, каб нацыя адчувала сябе нармальна, каб яна нармальна развівала сваю духоўнасць, патрэбна зусім не шмат добрых кніжак у год, але гэта сапраўды павінны быць Вялікія Кнігі.

## *Пра маладых*

/Пытанне: «Вашы спадзяванні на моладзь, на яе здольнасць адрадзіць нацыю?»/

— Чалавек сталага ўзросту вельмі рызыкуе, калі выносіць нейкія ацэнкі моладзі: яны заўсёды будуць несправядлівыя. З антычных часоў моладзь прынята было лаяць, што яна «не такая», што яна кепская... Тым не менш чалавецтва развіваецца ў бок прагрэсу, значыць, кожнае новае пакаленне ў чымсьці, відаць, лепшае за папярэднія, хоць тут магчымы розныя зігзагі, розныя пад'ёмы і спады...

Адраджэнне — увогуле справа моладзі, а не пенсіянераў. І ўдзельнічаць у ім, як і *карыстацца* *плёнам* культурнага адраджэння, — найперш моладзі. Пакуль жа яна ўдзельнічае ў гэтай справе, на мой погляд, не з такім вялікім імпэтам, як хацелася б.

Калі параўнаць літаратурны ўзровень сучасных маладых літаратараў з тым, які быў, калі мы ўваходзілі ў літаратуру, то, трэба сказаць, гэта больш здольныя людзі. Іншая справа, як будзе праходзіць далей іх развіццё, але яны падаюць надзеі.

**Аглядаў сустрэчу**
**і падрыхтаваў публікацыю**
**Юрась ЗАЛОСКА**

# ДАГІСТАРЫЧНЫЯ БЛУКАННІ: ЛІТВА І ЖАМОЙЦЬ

**Іван ЛАСКОЎ**

## *Частка другая*

/Заканчэнне. Пачатак у N 18/

**В**ЯДОМА, што да сённяшняга дня летувісы падзяляюцца на *жямайчяй* і *аўкштайчяй*, што ў літаральным перакладзе азначае «жыхары ніжняй мясцовасці» і «жыхары верхняй мясцовасці». Узнікненне гэтых, не геаграфічных /як «менчукі», «віцябляне»/, а **этнаграфічных** груп, як сцвярджаецца ў шматлікіх выданнях, было выклікана нібыта розніцай у рэльефе: мауляў, Жамайція /у летапісах *Жомоить*/ — нізіна, а Аўкштайція — узвышша. Але калі бліжэй пазнаёміцца з геаграфіяй Летувы, то высвятляецца, што яе найвышэйшыя пункты не перавышаюць 300 метраў над узроўнем мора, у той жа час найвышэйшыя пункты Сярэдне-летувіскай нізіны дасягаюць 90 метраў /Литва, с. 12/, так што для звычайнага чалавека — не географа — мясцовыя «верх» і «ніз» нічым асаблівым не адрозніваюцца, — дык што ўжо казаць пра тое, каб такія «верх» і «ніз» спрычыніліся да ўтварэння **этнаграфічных** асаблівасцяў. Да таго ж, **на поўначы Жамайціі маецца Жамайцкае ўзвышша**, якое па вышыні не саступае Аўкштайцкаму, а межы Аўкштайціі ў мінулым мяняліся /Литва, с. 127/. Уся гэтая незразумельшчына можа быць вытлумачана толькі тым, што этнаграфічныя групы жамайтаў і аўкштайтаў сфармаваліся недзе ў іншым месцы і ў сучасную Летуву прыйшлі ў «гатовым выглядзе», і не яны называюцца па тутэйшых мясцовасцях, а наадварот, мясцовасці сталі называцца па гэтых этнаграфічных групах. А паколькі аўкштайты, у адрозненне ад жамайтаў, былі групай невялікай і мянялі сваё месцазнаходжанне, то мяняла сваё месца і Аўкштайція...

Латышы таксама склаліся з двух плямёнаў — земгалаў і латгалаў. Гэтыя назвы таксама не атрымалі належнага тлумачэння. Элемент -*гал*- узводзіцца да латышскага *галс* «канец», у сувязі з чым слова «земгалы» адшыфроўваюць як «ніжні канец», бо па-латышску *зэмс*, як па-летувіску *жямас*, «нізкі». Але чаму людзі назвалі сябе «ніжнім канцом»? І калі земгалы — «ніжні канец», то які канец лат-галы? На гэта адказу не даецца. Сучасная ж назва краіны *Латвія* /так яна гучыць і па-латышску/ і саманазва латышоў *латветіс* звязваюцца з назвай ракі Латэ /гл. Р. А. Агеева. Страны и народы: происхождение названий. М., 1990, сс. 52—53/.

Мабыць, даследчыкам не прыходзіць на памяць, што ў расейскай мове, як і беларускай, польскай слова *край* /а гэта тое сама, што *канец*/ адначасова азначае і «краіна». Гэта невыпадкова, таму што кожная краіна абмяжоўваецца нейкім *краем*. Дык чаму не магло ў старажытнасці і латышскае *галс* адначасова з «канец, край» азначаць «краіна»?

Латгалы, земгалы — гэта словы не латышскія: расейскія, нашы. А латышы кажуць: *латгалетіс*, Латгалія ж для іх — *Латгалэ*: г. зн. *латгал* — «жыхар Латгаліі»; не «Латгалія» ўтворана ад «латгал», а, наадварот, «латгал» ад «Латгалія». І правільней будзе для нас казаць не латгалы, а *латгальцы*, не земгалы, а *земгальцы*. Такім чынам, аналізаваць трэба ў першую чаргу не этнонімы *латгал*, *земгал*, а назвы краёў — *Лат-галэ*, *Зем-галэ*, у якім элементам -*гал*- уваходзіць «край». Якія ж гэта краі? *Зем-галэ*, ясна, «ніжняя краіна»; лагічна падумаць, што *Лат-галэ* — «верхняя»! Толькі вось у латышскай мове слова *лат* у значэнні «верхні» няма. Але па-эстонску *латв* — «вярхушка». А эстонцы — цесныя суседзі латышоў. І прызнаецца, што латышская мова зазнала моцны ўплыў эстонскай.

Што ж атрымліваецца? Летувісы — ніжнія-верхнія, латышы — верхнія-ніжнія... Адкуль гэта? Тым болей, што ў адносінах да Латвіі казаць пра верх-ніз увогуле бяссэнсава. Тым не менш, усходні латышскі дыялект называюць **верхне**-латышскім /ЯН СССР, с. 497/.

Накіруемся зноў у Венгрыю. Магутны Дунай, што цячэ праз яе строга з поўначы на поўдзень, падзяляе гэтую краіну на дзве часткі: усходнюю — *Альфёльд* і заходнюю — *Дунантул*, што літаральна азначае «за Дунаем». Але гэтая назва ўзнікла толькі пасля прыходу венграў, а з антычных часоў Дунантул зваўся *Панонізй* ад племені *панонаў*, што здаўна жылі тут. Племя гэтае па мове, лічыцца, было ілірыйскім. На пачатку нашай эры ў Панонію прыйшлі рымляне і далучылі яе да свае правінцыі, што называлася *Ілірык*. Ілірык з-за гэтага стаў занадта груваcткім, і ў 24 годзе н. э. быў падзелены для зручнасці кіравання на дзве часткі: **Верхні Ілірык** — Далмацыю і **Ніжні Ілірык** — Панонію. Але гэтым не скончылася. Пры імператары Трая̀не, у 107 годзе, ужо Панонія была падзеленая на **Верхнюю і Ніжнюю**. Мяжа між імі ішла з поўначы на поўдзень ад Дуная да Савы паўз возера **Балатан**. Падзел Паноніі на Верхнюю і Ніжнюю захоўваўся вельмі доўга. Так, іх можна ўбачыць на карце «Моравское княжество», змешчанай у 27 томе БСЭ другога выдання на с. 274, а Мараўскае княства існавала ў IX стагоддзі /яго разбурылі венгры/. У параўнанні з рымскімі часамі тут толькі тая розніца, што мяжа між Верхняй Паноніяй і Ніжняй ідзе па рацэ Раба /Раб/.

Адміністратыўны падзел Паноніі на Верхнюю і Ніжнюю, такім чынам, існаваў не менш за 800 год і быў для жыхароў яе чымсьці настолькі звычным, што замяняў этнічныя імёны, якіх тут перабыло за тыя стагоддзі вельмі шмат /мы яшчэ гэта пабачым/: адны жыхары былі «верхнія», другія — «ніжнія», незалежна ад моў і гаворак. Вось чаму і летувісы, і латышы, што, ужо ясна, прыйшлі адсюль у Прыбалтыку, аказваюцца «верхнімі» і «ніжнімі».

Я ўжо казаў, спасылаючыся на ЛЭС, што ў Паноніі маюцца тапонімы, якія адшыфроўваюцца з дапамогай балтыйскіх моў. На жаль, у ЛЭС не прыводзіцца аніякіх прыкладаў, а падрабязных карт Венгрыі адшукаць не ўдалося. Але вось некалькі фактаў. «История Венгрии» /т. 1/ паведамляе: возера *Балатан*, што да прыходу венграў называлася славянамі *Блатна* /«Балотнае»/, у рымскія часы насіла імя *Пельса* /с. 39/, а па-летувіску *пялкэ* — «балота»! Там жа, на с. 72, сказана, што адна з рэк Паноніі ў 454 годзе называлася *Неда* — рака з падобнай назвай /Ніда/ цячэ ў Прыбалтыцы, па зямлі старажытных прусаў. У Балатан з паўднёвага захаду ўпадае рака *Зала* — па-латышску *залэ* «трава»; з Балатана ў Дунай цячэ *Шыо*, а па-летувіску *шуо* — «сабака». /«Сабачыя» рэкі ў тапаніміцы вядомыя: напрыклад, вялікую раку ў Якуціі Індзігірку ў XVII стагоддзі расейскія землепраходцы называлі *Сабачай*/.

А ў той час, як у Паноніі трапляюцца балтыйскія гідронімы, далёка не ўсе аказваюцца балтыйскімі гідронімы Латвіі, Летувы. Так, не вырашаецца з балтыйскага матэрыялу назва *Нёман* /гл. М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка, т. III; В. А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии, 1974/. А ў Комі рэспубліцы маюцца рэкі *Немын* і *Нем* /гл. Географические названия Коми АССР. Словарь-справочник. Сыктывкар, 1990/. Дый не толькі Нёман мае «пару» далёка за межамі Прыбалтыкі. Наша Вілія ў Летуве вядомая як *Няріс*. Рака *Нэрис* маецца і ў Комі /гл. Географические названия Коми АССР/. Прычым, калі з летувіскай мовы Няріс, па сутнасці, не раскрываецца, то па-комі *нэрис* — «узвышша, пагорак» /гл. Краткий этимологический словарь коми языка. М., 1970, Норыс/. У комі мове, як і ў іншых фіна-ўгорскіх, назоўнік у сваёй уласнай форме, без дадатковых суфіксаў і канчаткаў можа выконваць ролю прыметніка. Адсюль ясна, што назва ракі Нэрис — не «Пагорак», а «Пагорачная», «З пагоркамі». А ў Летуве *Няріс* якраз і ідзе між пагоркамі: «прарываючыся праз адгор'е Ашмянскага ўзвышша, робіць вялікую луку» /Литва, с. 440/. У басейне Акі маецца рака *Нериста* /Г. П. Смолицкая. Гидронимия бассейна Оки. М., 1976, с. 137/. Па Беларусі і Летуве цячэ *Мяркіс*; у басейне р. Масквы ёсць рака *Мерка*, у Карэліі возера *Мерк-ярве*. Летувіскай рацэ *Нявежіс* адпавядае *Невежа* ў Тульскай вобласці; у Летуве рака *Шушве* — у Тамбоўскай вобласці *Шушляй* /*ляй*, *лей* па-мардоўску — «рака»/; у Летуве *Дубіса* — у Тульскай вобласці *Дубіча*; у Летуве *Юра* /гэтая рака ўпадае ў Нёман і ейная назва не можа быць супастаўленай з летувіскім jura «мора»/ — ва Улідзімірскай вобласці рака *Юра* і возера *Юра*, у Тамбоўскай — рака *Юр*; у Летуве *Мінія* — ва Уладзімірскай вобласці *Мининка*, *Минька*; у Летуве *Муша* — у Тамбоўскай вобласці *Мушка* і г. д. Шэраг рэк у Прыбалтыцы канчаецца на -*ва*: *Аунува*, *Ашва*, *Бябірва* і інш. А як вядома, гэта — гідранімічны зыход пермскі, бо ў комі-зыранскай і комі-пярмяцкай мовах — *ва* «рака». У летувіскай жа мове, як і латышскай, — *ва* такога значэння не мае, не з'яўляецца -*ва* ў гэтых мовах і канчаткам прыметніка, як у карэльскай. А вось сведчанне чалавека, які ад нараджэння жыве ў Летуве і родная мова якога — летувіская, жыхара Вільні Вацлаваса Валанцеюса, перакладчыка з англійскай мовы: «Подавляющее большинство названий литовских рек ничего для нас не означают. В таком случае они не литовского происхождения» /з прыватнага ліста, В. Валанцеюс сам напісаў да мяне, пазнаёміўшыся з адной маёй публікацыяй/. І далей прыводзіць такія прыкметныя ім факты: у Цвярской вобласці маецца возера *Селігер*, у Летуве — рака *Сілігір*; у той жа час: у Югаславіі *Драва* — у Летуве *Саусдравас*; у Летуве *Купа* — у Югаславіі *Купа*; у Летуве *Алса* — у Чэхаславаччыне *Ольша*; па-летувіску «рака» *упė* — у Чэхаславаччыне рака *Упа* /дадам ад сябе, што ў Летуве таксама ёсць рака *Упэ*, а шэраг рачных назваў канчаецца на -*упэ*, -*упіс*/.

Такім чынам, на карысць паходжання летувісаў /і, зразумела, балтаў увогуле/ з Дунайскага басейна, а канкрэтна — з Паноніі сведчаць: наяўнасць звычайных /а не тэрміналагічных або рэлігійных/ лацінскіх слоў у летувіскай мове; наяўнасць у летувіскай мове ілірыйскіх і фракійскіх слядоў; наяўнасць летувіска і латышска-румынскіх паралеляў; наяўнасць балтыйскай гідранімікі ў Паноніі, Югаславіі і Чэхаславаччыне, у той жа час невырашальнасць з летувіскай мовы пераважнай масы найзначнейшых гідронімаў Летувы; саманазвы летувісаў і латышоў як «верхніх» і «ніжніх», што не магла скласціся ў раўніннай Прыбалтыцы; і, нарэшце, самае галоўнае — вялікі пласт летувіска-венгерскіх моўных паралеляў.

А што могуць супрацьпаставіць усяму гэтаму прыхільнікі погляду, што балты склаліся як этнасы і не выходзячы пяць тысяч год жылі ў Прыбалтыцы? Ды нічога. Гэты погляд нічым не даведзены. Ён — аксіёма, якая быццам бы і не патрабуе аргументаў. Усё, што гэтай аксіёме не адпавядае, «не заўважаецца» або вытлумачваецца самым недарэчным чынам. Так, вышэй ужо гаварылася, што антычныя аўтары не згадваюць у Прыбалтыцы ні літву, ні жамойць, ні латгалаў з земгаламі, ні прусаў, затое пасяляюць у ёй іншыя плямёны: карэотаў, осіяў, галіндаў — гэта значыць, нельга сказаць, што нічога пра гэты край не ведалі. Ужо форма *осіі* нагадвае «эстонцы»; яшчэ бліжэйшае да апошняга *эсціі* або *айсціі*, як называлі жыхароў Прыбалтыкі ў пасляантычны час. Але паколькі эсціі лакалізаваныя старажытнымі аўтарамі ў Летуве, абвяшчаюцца яны... балтамі: «Старажытная назва балтыйскіх плямёнаў — *эсціі* або *айсціі* /*Aesti*/, паходжанне яе не ўстаноўлена». А як жа быць з тым, што сёння *эсціі* /эстонцы/ зусім не балтыйскае племя, а народ фіна-ўгорскай групы? На гэта даследчык этнонімаў піша: «У далейшым гэтае імя перайшло на прыбалтыйскіх фінаў — эстонцаў» /Р. А. Агеева. Страны и народы..., с. 49/. Чаму перайшло? Чаму эстонцы ўзялі чужое імя?..

Гідранімія Летувы, Латвіі і Усходняй Прусіі такімі даследчыкамі, як А. М. Трубачоў, У. М. Тапароў і іх школа, без усякага аналізу абвешчаная скрозь балтыйскай, хоць у большай частцы сваёй з балтыйскіх моў не вырашаецца. І знайшоўшы дзе-небудзь такія ж, як у Прыбалтыцы, тапонімы, балтафілы сцвярджаюць: тут былі балты. Даходзіць да смешнага: балты, на погляд іх, сягалі аж да Уфы — на той падставе, мабыць, што назва *Уфа* нагадвае летувіска-латышскае *упэ* «рака» /гл. Р. А. Агеева. Проблемы межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточно-славянской территории. — Балто-славянские исследования — 1980. М., 1981, с. 144/. Недарэчнасць такога пашырэння балцкага арэалу паказваецца хаця б тым, што даўней рака Уфа называлася *Уфалей*, а *лей* — па-мардоўску «рака».

Такія ж падвышаныя, перабольшаныя ацэнкі даюцца і балтыйскім мовам. Яны «паўней захоўваюць старажытную індаеўрапейскую моўную сістэму, чым іншыя сучасныя групы індаеўрапейскіх моў. Існуе пункт гледжання, згодна з якім балтыйскія мовы ўяўляюць з сябе рэштку старажытнай індаеўрапейскай гаворкі, што захавалася пасля вылучэння з гэтай сям'і іншых індаеўрапейскіх моў» /В. Н. Топоров. Балтийские языки. — ЛЭС, с. 64/. Асабліва ж расхвальваецца летувіская мова: «Летувіская мова — самая архаічная з усіх жывых індаеўрапейскіх моў; яна лепш захавала гукавую сістэму індаеўрапейскай пра-мовы /а хто тую пра-мову чуў? — І. Л./, шмат марфалагічных асаблівасцяў» /Литва, с. 384/. Калі для латышскай мовы яшчэ прызнаецца пэўная колькасць фіна-ўгорскіх запазычанняў, то ў летувіскай іх нібыта лічаныя адзінкі. Ці не таму, што «яны пакуль вельмі мала вывучаныя» /ЯН СССР, с. 520/?

Тэзіс аб выключнай архаічнасці балтыйскіх моў палягае, па сутнасці, на нічым не даведзеным уяўленні, што балты як група этнасаў склаліся ў Прыбалтыцы і спрадвечна месціліся тут. Мауляў, жылі сабе ў закутку, пазбаўленыя моўных уплываў, а тым часам у мовах іх угледжваюцца паралелі з самымі рознымі індаеўрапейскімі мовамі: і з лацінай, і з санскрытам, і з іранскімі, ілірыйскімі, кельцкімі, германскімі... Мауляў, адкуль бы яны ўзяліся, калі б балтыйскія мовы не былі рэшткай старажытнай індаеўрапейскай гаворкі?

Адкуль?.. А вось адкуль. Паглядзіце на фізічную карту Еўропы. Даліна Дуная на ёй — як доўгая зялёная стужка паміж жоўта-карычневымі стужкамі гор. Гэта яна вяла ў сэрца Еўропы чалавечыя орды, служачы ім натуральнай дарогай, па ёй бясконцыя стагоддзі рухаліся яны і з усходу на захад, і з захаду на ўсход. І заўсёды на гэтым шляху аказвалася Панонія, хто б і куды ні ішоў.

Яшчэ ў IV стагоддзі да нашай эры тут з'явіліся кельты. Панавалі яны аж да 88 года да н. э., калі ім учынілі разгром рымляне. Але ілірыйцы Паноніі нядоўга заставаліся вольнымі. Па хуткім часе сваю ўладу тут усталяваў Рым — на 400 год. Уздоўж Дуная рымляне стварылі ланцуг умацаванняў і крэпасцяў. А па другім беразе Дуная сноўдалі самыя розныя варвары: *фракійцы*, *дакі*, потым *германцы* /*маркаманы*, *готы*, *гепіды* і інш./. Прарываючы лімес /умацаваную мяжу імперыі/, варвары ўчынялі набегі аж на Італію, — што ўжо казаць пра Панонію! У трэцім стагоддзі ў Альфёльд прыйшлі *іранамоўныя аланы*, *бараны*, *герулы*, *уругунды*, у сярэдзіне IV стагоддзя — *сарматы*. У 401 годзе на Альфёльд заявіліся *гуны*, каб панаваць 50 год. Гунаў змянілі германцы, тых — *авары* /556 г./. Авары прывялі з сабою *славян*, што складалі важную частку іх узброеных сіл. Гэта дзякуючы славянам Аварскі каганат трымаўся аж да 796 года, пакуль не быў зруйнаваны *франкамі* /германцы/. У Паноніі ўтвараецца славянскае Блаценскае, або Панонскае княства — да прыходу *венграў*.

Людзі з іншых краін, часцяком вельмі далёкіх, прыходзілі сюды не толькі як заваёўнікі і не заўжды па сваёй волі. Асабліва гэта тычыцца рымскіх часоў. Неабдымная імперыя прасціралася ад Атлантычнага акіяна да Персіі — па ўсім бязмежжы гэтым бясконца перакочваліся чалавечыя масы: кудысьці ішлі салдаты, насустрач ім гналі рабоў, цягнуліся караваны з таварам... З канца II стагоддзя ў Паноніі ў вялікай колькасці з'яўляюцца ўраджэнцы Усходу: Сірыі, Віфініі, Іудзеі, Егіпта, Кападокіі. Насельніцтва Паноніі робіцца чымсьці накшталт вавілонскага ў часы «стаўпатварэння».

Аб гэтым сведчыць тагачаснае рэлігійнае жыццё: «Было шырока распаўсюджана шанаванне дзяржаўных багоў Рыма.., шанаваліся грэцкія багі — Геракл, Немезіда, Асклепій; егіпецкія — Ізіда і Серапіс, кельцкая багіня Эпона і інш. Шматлікіх прыхільнікаў, асабліва сярод вайскоўцаў і рабоў, меў Мітра — іранскае боства святла. /.../ Мітра доўга заставаўся адным з найболей нязломных сапернікаў хрысціянства. Шырокае распаўсюджанне, асабліва ў вайсковым асяроддзі, атрымаў культ Юпітэра Даліхена — боства сірыйскага паходжання. Шанаваўся таксама «Дунайскі коннік» — боства, што ўзнікла на Дунаі ўжо ў перыяд імперыі» /ИВ, с. 50/.

Што ж рабілася ў такіх умовах з карэнным насельніцтвам, з ягонай мовай? Зразумела, што калі б гэтая мова захоўвалася некранутай, то гэта азначала б пастаянную канфрантацыю з прыбышамі, імкненне да стварэння і падтрымання ўласнай дзяржавы, як гэта было, да прыкладу, з армянамі. Нічога падобнага ў Паноніі мы не назіраем. Заваёўнікі мянялі адзін аднаго, а мясцовае насельніцтва кожны раз падпарадкоўвалася ім без аніякага супраціву. Анічога не ведае гісторыя і пра ягоныя паўстанні. Значыць, жыхарства Паноніі кожны раз зрасталася з новымі прыбышамі, засвойвала іх звычаі і мову /гэта меней тычыцца такіх качэўнікаў, як гуны і авары, што жылі галоўным чынам у стэпах на Альфёльдзе/. Дык у выніку і іх уласная мова з кожным новым нашэсцем насычалася новым матэрыялам. Тым і можна тлумачыць наяўнасць у балтыйскіх мовах лацінскіх, кельцкіх, германскіх, іранскіх, індыйскіх і іншых слоў. Апошнім з нашэсцяў да прыходу венграў было славянскае — адсюль і безліч славянізмаў у балтыйскіх мовах, якія падаюцца лінгвістамі як вынік «агульнага паходжання» балтыйскіх і славянскіх моў.

Быццам бы бачыўшы перадгісторыю летувісаў, мінуластагодні даследчык пісаў: «Паводле назіранняў... летувісы недаверлівыя, пры першым знаёмстве несумоўныя... з асцярожнасці, якою яны ў найвышэйшай ступені вылучаюцца. Рыса гэтая выпрацавалася ў летувісах гістарычна: вельмі ўжо часта даводзілася ім пераходзіць з аднаго падпарадкавання ў другое, дык яны перасталі нават разумець, каму падначальвацца, каго слухаць, і да ўсіх сталі ставіцца падазрона. /.../ «Флегма» летувісаў... увайшла ў прымаўку; аніякі іншы народ не пакараецца зменлівасцям жыцця з такім непарушным спакоем. /.../ Яшчэ ў 2-й палове XVI ст. летувісы, засуджаныя на смерць, вешалі сябе ўласнымі рукамі» /Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона, т. XVII /34/, с. 828/. І гэты народ, сцвярджаецца, **заваяваў** Беларусь і Украіну, сотні гадоў панаваў у бяскрайняй дзяржаве!

Чаму ж пры такой звычцы падпарадкоўвацца будучыя «балты» ўрэшце пакінулі сваю адвечную радзіму, падаліся на не вельмі ўтульную поўнач?

Аварскі каганат быў фактычна дафеадальнай дзяржавай. Гэта значыць, авары бралі даніну — і не болей. Земляробствам яны не займаліся, праца прыгонных сялян ім не была патрэбнай. Калі ж каганат быў разбураны, на месца яго прыйшлі феадалы, славянскія і франкскія. Пачалося запрыгоньванне мясцовых жыхароў. Адначасова ішла хрысціянізацыя, якая ў Паноніі перапынялася шмат разоў нашэсцямі паганцаў. Пачалася вострая барацьба паміж Канстанцінопалем і Рымам за душы яшчэ нехрышчоных /як вядома, у ёй узялі актыўны

ўдзел веранастаўнікі славян Кірыла і Мяфодзь/. Вось у гэты час, падобна, і пакідаюць Панонію паганцы земгальцы. На сваім новым месцы, у Прыбалтыцы, яны адлюстроўваюцца ў пісьмовых крыніцах пад 870 годам /Литва, с. 261/.

Продкі ж летувісаў яўна затрымаліся ў Паноніі, прычым надоўга, інакш не склаўся б адчувальны летувіска-венгерскі лексічны пласт /у латышскай мове мадзьярызмы, здаецца, толькі тыя, што трапілі праз летувіскую/. Характэрнае такое супадзенне: па-венгерску «прыгонны» — *йоббадь*, па-летувіску — *бауджявос*. Венгерскае слова ўтворанае ад *бадяд* — «стамляць» з папярэднім *йог* «права» /пры змычцы г + б утварылася бб/: прыгонны — гэта той, якога стамляюць па праву. Летувісы ўзялі з *йоббадь* толькі другую частку і ўтварылі сваё бауджявос. Такім чынам, у той час, калі венгры ўводзілі прыгон /напачатку, зразумела, не для венграў/, продкі летувісаў былі яшчэ ў Паноніі.

Адначасова з прыгонам венгерская дзяржава, якая вельмі хутка асвойталася ў Еўропе, стала насаджаць і хрысціянства. Вось тут паганскае жыхарства і не вытрымала. У 1046 годзе грымнула магутнае антырэлігійнае паўстанне. Паўстанцы знішчылі ледзь не ўсіх святароў і манахаў /ИВ, с. 118/. Паўстанне было задушана.

Зрэшты, продкі летувісаў, можа, пакінулі Панонію яшчэ раней, на пачатку рэлігійнага ўціску. Мы ж ведаем, як жамойць супраціўлялася хросту. Нават крыжакі, што спецыяльна заявіліся ў Прыбалтыку, каб «хрысціць паганцаў», за доўгі час панавання над жамойцю дапучыць яе да царквы не змаглі. Жамойты прынялі хрост толькі пасля Грунвальда, калі Ордэн вымушаны быў саступіць іх Вітаўту — у 1413 годзе, мабыць, апошнімі ў Еўропе.

Пераход «балтаў» у Прыбалтыку ва ўжо пісьмовую для Еўропы эпоху застаўся незаўважаным хранiстамі, і гэта павінна сведчыць, што перасяленцаў было зусім няшмат. Але яны прыйшлі не на пустое месца. Тут здаўна жылі іншыя плямёны. Прыбыўшы ўступілі з імі ў трывалы кантакт, змяшаліся з імі і асімілявалі, дзякуючы чаму носьбітаў «балцкіх» моў стала значна больш. Пераходу мясцовага, прыбалтыйскага насельніцтва на мову прыбышоў паспрыяла дзейнасць лютэранскіх місіянераў, з дапамогай якіх узнікла летувіская, а адначасова і латышская пісьмовасць, быў наладжаны выпуск рэлігійнай літаратуры для летувісаў і латышоў на іх мовах. Але яшчэ ў XIX стагоддзі захоўваліся рэшткі нейкіх ранейшых дыялектаў, якія для нашчадкаў панонцаў былі незразумелымі, з-за чаго няраз успыхвала палеміка. М. Біржышка, гісторык летувіскай літаратуры, пісаў: «Прачынаецца і паэзія /у сярэдзіне XIX ст. — **І. Л.**/, прычым вылучаюцца пераважна ўраджэнцы ўсходняй Летувы, якія выйшлі з народа і пісалі на сваёй усходнелетувіскай гаворцы, што выклікала нават пратэсты з боку пэўных жамойцкіх пурыстаў» /Энциклопедический словарь бр. Гранат, т. 27. 1913, стлб. 251/.

З боку жамойцкіх пурыстаў! Чаму менавіта жамойцкіх? Ды таму, што сённяшняя летувіская мова, з яе выразным венгерскім следам ідзе ад мовы летапіснай жамойці, а не летапіснай літвы.

Што вядома нам з гісторыі летувіскай мовы? Першая кніга на ёй /рэлігійная/ была выдадзеная ў 1547 годзе. Выйшла ж яна ў Кёнігсбергу, а прызначалася для самых заходніх *жамойтаў*, што трапілі ў склад Усходняй Прусіі ў выніку перадзелаў. Менавіта гэтай кнігай і быў закладзены падмурак летувіскай літаратурнай мовы, якую з выданнем 1547 года звязвае прамая традыцыя, што амаль не мела адхіленняў. Характэрны такі факт: «У 1605 годзе друкарня акадэміі /у Вільні. — **І. Л.**/ другі раз выдае пераклад на летувіскую мову «Катэхізіса Ледэсмы». /.../ Але гэта ўжо пераклад не Даўкшы, а іншай асобы, якая не ўказала свайго прозвішча. У прадмове, напісанай па-летувіску, ананімны аўтар тлумачыць прычыны, што прымусілі яго зрабіць новы пераклад. Ён гаворыць, што пераклад Даўкшы зроблены **па-жамойцку** і для пэўных летувісаў — не жамойтаў — незразумелы, таму і прыйшлося яго рабіць зноў. З далейшага, аднак, відаць, што ананімны перакладчык **карыстаўся перакладам Даўкшы**, перапрацаваўшы яго ў шэрагу месцаў» /А. Анушкин. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970, с. 48. Падкрэслена мной/.

Ці была мова летапіснай літвы хаця б падобнай да жамойцкай, не тое каб такой жа? Цвёрда можна адказаць: не. Бо летувіскія даследчыкі не могуць зразумець імёны літоўскіх князёў. Няўдача гэтая імі тлумачыцца так: «З цягам часу сістэма двухасноўных асабовых імёнаў страціла сувязь з агульнымі словамі. Асабовыя імёны пачалі ўтварацца з механічна складзеных элементаў, таму сэнс двухасноўных імёнаў стаў цяжка вытлумачальным» /Литва, с. 121/.

«Цяжка вытлумачальным» — не тыя словы: правільней было б сказаць «зусім невытлумачальным». І не дзіва: носьбіты княскіх імёнаў паходзілі з зусім іншага месца, чым жамойты.

Ніхто ў старажытнасці не пазбег блуканняў — тое тычыцца і літвы. І літва не вечна жыла на Нёмане. І прыйшла сюды, каб спрычыніцца да стварэння вялізнай дзяржавы, з Дуная. Але не з Паноніі, як продкі летувісаў.

«Нямецкі гісторык XVIII ст. Л. А. Гебгардзі... — паведамляе М. І. Ермаловіч, — прыводзіў пісьмовыя дакументы, з якіх відаць, што яшчэ ў XII ст. н. э. на левым беразе Дуная і ўздоўж ракі Ольты існавала мясцовасць Літва. Тут жа мы знаходзім і раку Літаву» /М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь. Мн., 1990, с. 87/.

Ці выпадковае гэта супадзенне? Ёсць у Маларыцкім раёне возера *Олтуш*. Пра гэтую назву В. Жучкевіч піша: «Назва-этнонім: олтушы — жыхары гістарычнай вобласці Закарпацця Алтэніі» /В. А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии, *Олтуш*/. Менавіта Алтэніяй завецца і сёння румынская вобласць у міжрэччы *Олта* /так называецца сёння *Ольта*/ і Дуная.

Насупраць Олта, з балгарскага боку, у Дунай упадае *Віт*. А ў Калінкавіцкім і Хойніцкім раёнах цячэ левы доплыў Прыпяці *Віць*. Дунайскай *Літаве* адпавядае рака *Літкава*, што ў Кобрынскім раёне. У Чырвонае возера, што ў Жыткавіцкім раёне, упадае рачулка *Цесна*. Гэта вельмі блізка да *Тэзлуй* — назвы ракі, што ўпадае ў Олт.

Гідронімы *Олтуш, Віць, Літкава, Цесна* быццам бы паказваюць шлях, якім літва ішла на Беларусь /цікава, што вярхоўі Нёмана, дзе М. І. Ермаловіч размяшчае летапісную літву, знаходзяцца строга на поўнач ад басейна Олта — па 25-м мерыдыяне/. На гэтых азёрах і рэчках частка яе заставалася на жыхарства, асноўная ж маса рухалася далей, аб чым сведчаць такія назвы, як *Дунай* — рэчка ў Іўеўскім раёне, *Волта* і *Авута* — рэкі ў Мёрскім: Волта — Олт з прыстаўным «в», як у слове «вока» /В. Жучкевіч: «*Волта*, варыянт Олта. Назва паўтарае імя ракі *Олт*... у Румыніі». Гл. ягоны «Краткий топонимический..», *Волта*/, *Авута* — супадае са старажытнай назвай Олта *Алута* /ИВ, с. 57/.

Аж да сёння не высветлена паходжанне назвы Балтыйскага мора. «Корань *balt* — у назве Балтыйскага мора тлумачылі па-рознаму: і як «балота», і як «белы» /летув. *baltas*/, і як «пояс». Імя Балтыйскага мора тлумачылі як балтыйскую, ілірыйскую або венецка-ілірыйскую назву» /Р. А. Агеева. Страны и народы: происхождение названий, с. 49/. Мабыць, усім, хто спрачаўся вакол гэтага імя, ці невядома, ці не прыгадвалася такое геаграфічнае паняцце: «*Балта* — пойма Дуная ў межах Ніжнедунайскай нізіны... з лабірынтам рукавоў, шматлікімі азёрамі і ліманамі. /.../ Шырыня — да 27 км. Пакрытая лясамі з вярбы і вольхі, зараснікамі трысця і чаротам, шмат непраходных балотаў. /.../ У Малдаўскай ССР і Румыніі «балта» стала агульным пры азначэнні забалочаных поймаў і плаўняў любых рэк» /БСЭ, выд. 2-е, т. 5, с. 153/. Менавіта такімі «балтамі» і ўяўляюцца летувіскія берагі Балтыйскага мора, асабліва каля Куршскай затокі з дэльтай Нёмана /гл. Литва, *Куршский залив*/.

*Олтуш, Волта /Олта/, Авута, Дунай, Літкава, Віць, Балтыйскае* мора... Нехта ж прынёс гэтыя назвы з Румыніі на Беларусь! Хто? Улічваючы, што мясцовасць каля ўпадзення Олта ў Дунай звалася *Літвой*, іншых кандыдатаў на гэтую ролю, апрача летапіснай *літвы*, быць не можа.

Што ж выходзіць? Што жамойць — з Паноніі, аб чым сведчаць летувіска-венгерскія паралелі, а літва — з нізоўяў Олта. А падзяляе гэтыя рэгіёны, калі рухацца па Дунаі, недзе 700 кіламетраў — як ад паўднёвай мяжы Беларусі да паўночнай.

Зразумела, што ўмовы для складвання этнасаў і моў у гэтых рэгіёнах былі розныя. Напрыклад, ніхто не лічыць, што на поўдні Румыніі жылі ілірыйскія плямёны. Тут адчуваўся значны грэцкі ўплыў. Тут нашмат раней, чым у Паноніі, з'явіліся славяне /а можа, і ўвогуле ўтварыліся тут. Пісаў жа аўтар «Аповесці мінулых гадоў»: «Съли суть словъне по Дунаеви», адкуль і «разидошася по земли». На пачатку нашай эры на ніжнім Дунаі жылі *геты*, што лічацца продкамі славян/. Сюды пры сваім руху на захад не заходзілі венгры, яны адолелі Карпаты на Украіне /ИВ, с. 95/. Такім чынам, **у мове літвы венгерскага следу не магло быць**. І сапраўды. Як даведзена М. І. Ермаловічам, летапісная літва размяшчалася ў верхнім Панямонні. Цяпер гэта — сэрцавінная беларуская тэрыторыя, радзіма Коласа, калыска беларускай літаратурнай мовы. І калі б у мове літвы была венгерская лексіка, то хоць частка яе перайшла б у беларускую. Але, па назіраннях, у нашай мове практычна няма венгерскіх слоў, якіх не было б і ў польскай, г. зн. яны /такія, як *шэраг*/ хутчэй за ўсё прыйшлі да нас праз палякаў.

Ужо прыходзілася вышэй казаць, што балтазнаўства грунтуецца на нічым не абгрунтаваных дапушчэннях. Сярод такіх пастулатаў немалое месца займае і сцвярджэнне, быццам літва і жамойць — дзве часткі аднаго народа, з агульнай мовай.

Пераканаўча абвяргае гэтую «ісціну» П. Урбан у сваёй вялікай працы «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў» /Полацак. Гл. NN 1-6 за 1992 г./. Не буду пераказваць ягоныя доказы, — той, хто жадае, часопіс знойдзе. Сам жа я хацеў бы звярнуць увагу толькі на некалькі важных рэчаў.

У шматлікіх гістарычных звестках, дакументах літва і жамойць ніколі не падмяняюць адна адну: калі гаворыцца «літва», гэта не азначае адначасова «жамойць», калі гаворыцца «жамойць» — не азначае «літва». Гэтыя два словы раўнапраўныя, сэнс «жамойць» у «літва» не ўваходзіць. Узяць хаця б поўную назву нашага сярэдвечнага гаспадарства: Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Ці ж яднае яна літву і жамойць? Наадварот, падзяляе! Літва — адно, жамойць — другое. І так ва ўсіх крыніцах. Выдатны знаўца беларускіх летапісаў здзіўлена зазначае: «Летапісы... упарта падзяляюць Літву на ўласна Літву і Жамойць» /Н. Н. Улащик. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985, с. 58/. Але што значыць «на ўласна Літву»? Што, жамойць — таксама Літва? Але ж ці не лухтой выглядала б: Беларусь і Магілёўшчына?

З гісторыі добра відаць, што жамойць не надта прагла аб'яднання з Літвой, а калі ўрэшце пасля Грунвальда была далучана да ВКЛ, дык ужо ў 1418 годзе ўзняла паўстанне супраць Вітаўта /Литва, с. 257/. І гэта ніяк нельга назваць выпадковасцю. Мае рацыю П. Урбан, калі піша, што Вітаўт абыходзіўся з жамойцю, як з «разменнай манетай», гандлюючы ёю дзеля сваіх палітычных разлікаў /Полацак, 1992, N 4, с. 23/. Сапраўды, Вітаўт саступаў жамойць Ордэну ў 1384, 1389 гадах /БелСЭ, т. 3, с. 105/. У 1398 годзе ім было падпісана Салінскае пагадненне, згодна з якім Жамойць засталася за Ордэнам /Литва, с. 257/. Што пры гэтым ён не сіле саступаў, а менавіта вёў гандаль Жамойцю, сведчыць той факт, што пры Ворскле /1399/ супраць татараў у войску Вітаўта біліся кражакі /Литва, с. 152/, чым яўна плацілі за Жамойць. Ды каб толькі гэта! Польскі даследчык з Вільні Ян Цехановіч, каментуючы мой артыкул «Племя пяці родаў» /«ЛіМ», 1989, 18 жніўня/, дзе сярод іншага выказана думка, што літва і жамойць — розныя плямёны, піша: «Калі літва і жмудзь былі рознымі плямёнамі, адразу робіцца зразумелай нечалавечая жорсткасць літоўскага князя Вітаўта, які разам з нямецкімі наездцамі літаральна заліў Жмудзь крывёю падчас некалькіх набегаў пад канец XIV стагоддзя. Да аднапляменнікаў гэты палітык хутчэй не паставіўся б так бязлітасна, як тое апісваюць тагачасныя нямецкія, польскія і рускія хронікі».

Вядома таксама, што жамойць імкнулася да стварэння ўласнай дзяржавы. Пэўны час тая і была — у XIII стагоддзі, пад назвай «Вялікае Жамойцкае Княства» /Н. Н. Улащик. Введение..., с. 156/. А ў складзе ВКЛ жамойты карысталіся аўтаноміяй: пачынаючы з 1411 года, існавала Жамойцкае староства. Стараста меў правы ваяводы. Яго абірала сама жамойцкая шляхта, а вялікі князь толькі зацвярджаў. З пачатку 1440 гадоў Жамойцкае староства называлася яшчэ і Жамойцкім княствам /Литва, с. 257/. Зразумела, што калі б жамойць і літва былі адным народам, то на такое вылучэнне жамойці не было б прычын.

Што ж датычыць мовы жамойтаў, то гаспадарства ставілася да яе, мякка кажучы, абыякава. Першая кніга на ёй, як ужо было сказана, выйшла за мяжой — ва Усходняй Прусіі. Толькі ў 1595 годзе, г. зн. праз 48 /!/ гадоў пасля гэтага, была выдадзеная першая жамойцкая кніга ў ВКЛ. І ў далейшым да 1625 года тут выпусцілі толькі 4 кнігі па-жамойцку, у той час як на беларускай, польскай і лацінскай мовах — дзесяткі і сотні. Нават на нямецкай з 1605 да 1625 года з'явілася ў Вільні 6 кніг /А. Анушкин. На заре книгопечатания..., с. 13/. Пры гэтым трэба адзначыць, што ўсе жамойцкія кнігі былі рэлігійнымі, выдавала іх царква, і свецкія ўлады не мелі да гэтага дачынення. Такім быў «клопат» «летувіскага» гаспадарства аб развіцці «сваёй» мовы? А між іншым, XVI стагоддзе ў Еўропе — час фармавання дзяржаўных моў: так, французская была абвешчана афіцыйна дзяржаўнай у 1539 годзе. У ВКЛ жа ў якасці афіцыйных ужываліся беларуская і лацінская, потым і польская мовы, толькі не жамойцкая /сённяшняя летувіская/. Як бачым, Вялікае княства Літоўскае ставілася да жамойтаў **як да народа не ўладнага, а падуладнага**. Для даследчанага гісторыка гэта павінна быць абсалютна ясна. Таму не можа не здзіўляць, што такі знаўца айчыннай гісторыі, як Г. Сагановіч, называе летапісную літву *летувісамі*, зазначаючы пры гэтым: «Аўтар лічыць магчымым дапасаванне сучаснага саманазову жыхароў Рэспублікі Летува да іх старадаўніх продкаў». Не была, **не магла быць** летапісная літва продкамі сучасных летувісаў!

Чаму ж жамойты сталі «літоўцамі», летувісамі?

Думаецца, што вырашальную ролю ў гэтым адыграла саманазва «жямайчяй» з яе празрыстым сэнсам. Раз ёсць «ніжнія» ды яшчэ ёсць быццам і «верхнія» /аўкштайчяй/, значыць, павінен быць і нейкі этнонім, які яднае тых і другіх. А пасля знікнення летапіснай літвы, растварэння яе ў беларусах такі этнонім «вызваліўся», застаўся без носьбіта-гаспадара. Вось і ўзнікла думка, што ён адносіцца да жамойці.

«Літвой», дарэчы, жамойты спачатку сталі за межамі ВКЛ, ва Усходняй Прусіі. У ВКЛ літоўцамі, ліцвінамі зваліся якраз беларусы, жамойць жа заставалася жамойцю, як у вачах беларусаў і палякаў, так і саміх жамойтаў. Іх «літоўцамі» сталі зваць першымі немцы, што выдавалі на жамойцкай мове вялікую колькасць лютэранскай літаратуры. Дый не толькі. Яны яшчэ дачыніліся і да вывучэння жамойцкай мовы, этнаграфіі жамойтаў — ужываючы пры гэтым у адносінах да іх тэрмін «літоўцы». Навуковая нямецкая літаратура карысталася вялікім аўтарытэтам у Расеі: тут жа шмат служыла вучоных немцаў. Вось і прыйшло ад немцаў у расейскую навуку сцвярджэнне, што жамойць — гэта тое ж, што і літва, «ніжнія літоўцы».

Самі жамойты ўчэпіста трымаліся за сваю гістарычную назву аж да XX стагоддзя. Але пачалося жамойцкае адраджэнне, лідэрам якога здалося вельмі прывабным стаць «літоўцамі», нашчадкамі магутнай дзяржавы: гэта ж так падымала самасвядомасць занядбанага, вечна прыгнечанага народа!

Так узнікла і саспела тэрміналагічная блытаніна, з-за якой і сёння не адважваемся на поўны голас назваць Вялікае княства Літоўскае, створанае нашымі продкамі літвой, **нашым, беларускім** гаспадарствам.

І я асабіста думаю, што каб нарэшце рассекчы клубок гэтай блытаніны, мы павінны сённяшніх летувісаў у сваёй літаратуры, друку зваць *жамойтамі*, а краіну іх — *Жамойцю*, чым была б узноўленая гістарычная справядлівасць.

Якім жа было паходжанне сапраўднай літвы, якой магла быць ейная мова, чаму літва апынулася там, дзе бліснула і знікла, — пра ўсё гэта пагаворым іншым разам.

# ПАМЯЦІ СЯБРА

Чамусьці павялося так у нас, у людзей, што мы пачынаем па-сапраўднаму разумець, цаніць, любіць чалавека, калі яго ўжо не стане. Чаму мы такія скупыя на ласку пры жыцці?..

Андрэй Пятровіч Раеўскі быў не толькі таленавітым тэатральным рэжысёрам, але і ўвасабленнем сціпласці, інтэлігентнасці, чалавечай дабрыні. Яго рэпетыцыі былі не толькі ўрокамі высокага прафесійнага майстэрства, але і ўзорамі нейкай асаблівай чысціні, высакароднасці і ... несучаснага рыцарства. Ён ніводнага разу не ўзвысіў голасу, не пакрыўдзіў акцёра папрокам. Я сам гэта бачыў і чуў, прысутнічаючы на рэпетыцыях сваёй драмы «Тры дні і тры ночы», п'есы не вельмі ўдалай і таму занадта цяжкай і для рэжысёра і для акцёраў. І кожны раз ён знаходзіў для артыстаў-выканаўцаў трапнае, адзіна вернае, мудрае слова. Скажа, бывала, толькі адну фразу, а паўстае цэлы вобраз.

Андрэй Пятровіч прыйшоў у Магілёўскі абласны тэатр ужо сталым чалавекам, сталым мастаком. За плячамі былі і студыя тэатра МХАТ, і Вялікая Айчынная. У складзе творчай брыгады ён ездзіў з аднаго фронту на другі. Часта выступаў пад акампанемент бомбаў, снарадаў, мін. Было нямала выпадкаў, калі канцэрт даводзілася перапыняць, бо салдатам трэба было ісці ў атаку. Ён не мог расказваць пра гэта без пакуты. «... і вось пачынаем канцэрт зноў. Бачу, няма аднаго, другога, трэцяга твару, да якіх ужо прызнаёміўся. Не вярнуліся адтуль... Мне трэба выходзіць на сцэну, пачынаць маналог, а я не магу, сэрца крывёй абліваецца. Няўжо тым, хто цудам уцалеў, вярнуўся, патрэбна яшчэ нейкае мастацтва? Пачынаю і бачу: патрэбна. Тады я і зразумеў, якую вялікую сілу тоіць у сабе тэатр, калі чалавек забывае пра небяспеку, пра смерць. Падмануць даверлівасць такога гледача, дапусціць прафесійную неахайнасць — самы страшны грэх для нас, рэжысёраў і акцёраў. І калі ўсё ж гэта па нейкіх прычынах здараецца, нас трэба судзіць і караць, як за здраду».

І ён усё жыццё заставаўся верны гэтаму свайму высокаму прынцыпу — ні слова хлусні ні ў жыцці, ні на сцэне... Каб выжыць тэатру ў абласным горадзе, трэба ставіць шмат самых розных спектакляў. І Андрэй Пятровіч за дваццаць пяць гадоў паставіў у Магілёўскім тэатры амаль сто спектакляў па п'есах Шэкспіра, Мальера, Астроўскага, Чэхава, Горкага, Алёшына, Розава, Салынскага, Каламійца, беларускіх драматургаў. Спектаклі для яго былі найвышэйшым шчасцем, тэатр быў яго жыццём. І пайшоўшы на пенсію, не змог яго пакінуць, працаваў яшчэ дзесяць гадоў, «даслужыўшыся» да заслужанага артыста Беларусі.

І памёр ён праз сваю чалавечнасць: кепска стала жонцы, яго вернаму, надзейнаму сябру. Усхваляваўся, кінуўся дапамагчы і... памёр. Як жыў, так і памёр, думаючы не пра сябе, а пра іншых...

**Мікалай МАТУКОЎСКІ**



**Рэдакцыя часопіса «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела паэзіі Кастусю Цвірку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі смуткуюць у сувязі з раптоўнай канчынай саліста-вакаліста тэатра музычнай камедыі, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, члена СТД ЛАЗОЎСКАГА Юрыя Віктаравіча і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

*Знаёмячыся з той нешматлікай прэсай, якая з велізарным спазненнем даходзіць да беларускага асяродка Санкт-Пецярбурга, не толькі радуешся, што атрымаў вестку з Бацькаўшчыны, але і шчыра здзіўляешся, унікаючы ў тое, якія «баталіі» разгортваюцца вакол запланаванага на ліпень месяц Сходу беларусаў свету.*

ЛІСТ З САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА

# ЦІ НЕ ЧАС АДУМАЦЦА?

Здавалася б — усё ясна: сход даўно абвешчаны — чаго ж болей?! — і тыя, хто жыве за мяжой, мусяць памалу рыхтавацца да яго. І так яно, напэўна, і ёсць: суродзічы ці суайчыннікі, напэўна, рыхтуюцца да яго, жывуць прадчуваннем свята. Малое Свята — Сход беларусаў блізкага замежжа — адбылося ў снежні мінулага года, на чарзе — Вялікае Свята — беларускі «курултай», — і, спадзяюся, што большасць суайчыннікаў /ці беларусаў/ гэтак і лічаць.

І — здавалася б! — працуй, рабі ўсё, каб тое свята і сапраўды зрабілася Святам. Не толькі для прадстаўнікоў беларускай дыяспары, многія з якіх упершыню трапяць на зямлю сваіх бацькоў, але і для тых, хто ніколі яе не пакідаў, але каму баліць душа, што не ўсе беларусы яшчэ разам, не ўсе жывуць адной сям'ёю. Здавалася б, але...

Першай трывожнай весткай, якая даляцела да Санкт-Пецярбурга, з'явіўся артыкул сп.Лецкі «Як дзеці аднаго народа» /«Голас Радзімы», N 11, 18 сакавіка г.г./, дзе, не называючы канкрэтных імёнаў і ўстаноў, абмалёўваўся агульны стан адносін як да Сходу беларусаў блізкага замежжа, так і ўвогуле да беларускай дыяспары. Спачатку меркавалася, што артыкул старшыні Рады «Бацькаўшчына» — гэта звычайная занепакоенасць кіраўніка ЗБС аб тым, каб Сход беларусаў свету адбыўся як мага лепей, клопат чыста псіхалагічнага плана. Але...

Крыху раней — нібыта пярун гахнуў: **БНФ адмаўляецца прымаць удзел у Форуме беларусаў свету!** Не хоча падыгрываць камуністычным структурам, якія, дзякуючы намаганням Вярхоўнага Савета рэспублікі, аднавілі свае права займацца тым, чым яны займаліся на працягу 70 гадоў.

Наколькі разумнае такое рашэнне Сойма БНФ, лепей ведаць тым, хто яго прымаў. Але ці не нагадвае яно самыя звычайныя ўцёкі, калі, бывае, паб'юцца хлопцы, і нехта мусіць саступіць, бо хоць і ёсць жаданне давесці сваё, але даць належны адпор ужо няма чым, а гонар губляць не хочацца? Дарэчы, як расцэньваць тады такую сітуацыю: прымаць удзел у рабоце парламента, большасць якога — былыя камуністы, — гэта для БНФ «нармалёва», як цяпер модна казаць, а «запэцкаць» сябе ўдзелам у Форуме беларусаў свету — на гэта БНФ катэгарычна не згаджаецца? Ды — яму відней! Можа, ён мае на гэты конт нейкія свае звышстратэгічныя планы, разуменне якіх выходзіць за межы звычайнага чалавечага ўспрымання. Тады я схіляю галаву перад шаноўнымі стратэгамі з БНФ: хай іхняя праўда будзе за імі, а мая — нестратэгічная праўда — хай застаецца са мной.

Пабліскала маланка і аціхла. Пастрашыла трохі — і до! Але...

З той самай прэсы даведваемся, што ў Менску адно за адным — меней чым праз тыдзень — склікаюцца два пасяджэнні арганізацыйнага камітэта па правядзенні Першага з'езда беларусаў свету, і здзіўляемся, што здарылася: няўжо беларусы перарадзіліся і навучыліся працаваць хутка і аператыўна? І чым урэшце выклікана такая паспешлівасць і тэрміновасць? Клопатам, што не паспеюць нечага зрабіць да пачатку сходу? Зусім не! Тэрміновасць у іншым: перад камітэтам /ці мо не перад ім?/ паўстала гамлетаўскае пытанне: як назваць будучы сход — «з'ездам» або «форумам»? А хіба не ўсё роўна? Па прымаўцы: хоць гаршком назаві, а ў печ не саджай!

Мяркую, што для большасці тых, хто хацеў пабачыць Бацькаўшчыну, хто рыхтаваўся да Свята, напэўна, усё роўна. Абы тое свята адбылося!

А вось для тых, хто вынес на абмеркаванне аргкамітэта гэта пытанне, зусім не ўсё роўна! І — забягаючы трохі наперад — менавіта такая пастаноўка пытання і падштурхнула мяне да пераканання, што ... **СВЯТА — НЕ АДБУДЗЕЦЦА**! Адбудзецца ... **м е р а п р ы е м с т в а** ! Запланаванае нават і не «Бацькаўшчынай», а ...

Кім жа яно запланавана? Адказ вынікае сам сабой, калі зірнуць на тое, хто ўнёс прапановы наконт тэрміналогіі сходу /гл. «Голас Радзімы», N 12, 25 сакавіка, артыкул К.Шалястовіча/.

Напэўна, інфармацыю пра пасяджэнні аргкамітэта надрукавалі не толькі ў «Голасе Радзімы» /я спасылаюся на гэта выданне толькі таму, што яно — адзінае, якое больш-менш рэгулярна даходзіць да СПб/. Не буду пераказваць тое, чаму прапаноўвалі назваць сход «форумам», а не «з'ездам». Асмелюся толькі «перакласці» гэтыя прапановы на больш зразумелую ўсім мову: «форум» — гэта «гаварыльня». Тая самая, якую мы назіралі зусім нядаўна на Сходзе беларусаў блізкага замежжа. Пагаварылі, пагулялі ў добрых суседзяў, на тым і развіталіся.

Калі ж назваць сход «з'ездам», то сітуацыя рэзка мяняецца: з'езд мае права выпрацоўваць адпаведныя дакументы ці пастановы, з якімі давядзецца лічыцца, а «форум» — як «менш **абмежаваная** акцыя, якая дазваляе ажыццявіць **большую** колькасць захадаў нацыянальна-культурнага кшталту» /гл. арт. К.Шалястовіча/, — такога права пазбаўлены. Ён мае права толькі на **«захады»** /чытай: тую самую **«гаварыльню»**/, не болей!

Што ж лепей: «з'езд» ці «форум»? Гледзячы для каго. І калі ставіць пытанне менавіта так, то робіцца зразумелым, чаму ў парадак дня першага са згаданых пасяджэнняў было вынесена пытанне аб увядзенні ў склад камітэта новага старшыні ад урада. Вось мы з вамі і паставілі кропку. Правільней, яе паставілі тыя, хто ўносіў абедзве гэтыя прапановы.

Так і хочацца спытаць: хто ж гэтыя людзі, якім замінае Сход беларусаў свету? Спадзяюся, што на Беларусі даўно ведаюць, «хто ёсць хто», як любіў казаць славуты пачынальнік галоснасці. Але мяне цікавяць не столькі імёны, колькі тое, якімі ж вачыма будуць пазіраць усе гэтыя людзі ў вочы тым, хто прыедзе на сход ? Ці гэта марная справа — чакаць ад іх, што хоць на каліўца ім будзе сорамна за свае ранейшыя словы і ўчынкі?

І вось тут самі сабой узнікаюць два пытанні, якія патрабуюць асабіста ад мяне таксама тэрміновага і яснага адказу: як ехаць на гэты, умоўна кажучы, «форум»? І ці ехаць наогул? Нават у тым выпадку, калі будзе атрымана запрашэнне?

Згаджаючыся ехаць, я міжволі залічваю сябе ў шэраг тых, хто імкнецца звесці абуджэнне нацыі да самага звычайнага, хаця і разлічанага на пампезнасць мерапрыемства, і тут я вельмі добра разумею БНФ, хаця прычыны няўдзелу — калі я не паеду — у нас будуць розныя: я — адзінка, я адмоўлюся, але «форум» або «з'езд» усё роўна будзе праведзены, а калі адмаўляецца БНФ — гэта значыць адмаўляецца частка нацыі, адмаўляецца ад тых, хто ўскладае надзеі як на БНФ, так і на Адраджэнне. Але, паўтараю, гісторыя сама вызначыць, ці было разумным такое рашэнне з боку БНФ.

Адзінка — прыватная асоба — /а ў дадзеным выпадку я выказваюся менавіта як прыватная асоба: Рада БГКТ у СПб не прымала аніякага рашэння наконт таго, ехаць альбо адмаўляцца ад удзелу ў сходзе, што дазваляе мне выказвацца ад свайго імя/ — адзінка мае большы дыяпазон магчымасцяў, чым любы калектыўны розум, у тым ліку і БНФ, і мае болей правоў схіліцца ў той ці іншы бок: адмаўленне або прыняцця, удзелу або ігнаравання. Але каму будзе лепей ад няўдзелу Адзінкі? Якраз тым, хто хоча ператварыць з'езд у форум. І таму — я еду! Еду як Адзінка, якая мае патрэбу ў Еднасці, у Абуджэнні /пра Адраджэнне казаць яшчэ рана, бо гэта паняцце шырэйшае і больш ёмістае: яно патрабуе для свайго здзяйснення большых намаганняў, чым простае прызнанне таго ці іншага факта/. Еду як Адзінка, якая мае патрэбу ў сваёй Радзіме. Еду, каб сказаць, ці не пара адумацца, спадарства?

Ці не пара вызначыць тое галоўнае, што нам перашкаджае, — менавіта адсутнасць еднасці?

Першы Сход беларусаў блізкага замежжа паказаў тое, што нат блізкае замежжа — living рознае. Было дзіўна назіраць, як кожны з рэгіёнаў цягнуў у свой бок: у нас, маўляў, гэта дрэнна, а ў нас — гэта. Дайце нам тое, а нам — тое, і тады ўсё будзе добра. А хто будзе даваць? «Бацькаўшчына», якая мусіць шукаць спонсараў, каб правесці сход? Дзяржава, якая хоча ператварыць з'езд у форум?

Даваць павінны мы самі. Не сродкі — сродкаў у нас няма. Але ў нас ёсць набыткі: наш голас, наша сумленне, карацей, тое, што мы напрацавалі на працягу таго часу, пакуль былі адарваны ад Радзімы. І калі мы аддамо — ці горш будзе Беларусі? Беларусі — не! Горш будзе тым, хто не згодны прыняць усё, што мы маем і аддаём. Дарма, за так! Бо мы аддаём сваім, не чужынцам!

І не прымаць тое, што мы аддаём, хіба ж гэта прадбачлівая палітыка? Адвечнага нічога няма, тым больш адпаведных пасадаў і крэслаў. Адвечны толькі Рух. І ён паказвае нам, што час, калі можна было спакойна сядзець у крэслах і кіраваць гэтым Рухам, даўно прайшоў. З новымі рэаліямі нельга не лічыцца.

Хіба ж так робіцца палітыка? Палітыка толькі тады палітыка, калі яе не заўважаеш. А калі тэрмінова, адно за адным, склікаюцца два пасяджэнні, каб выправіць той стан, які не задавальняе ўлады, то гэта ўжо не палітыка, а штосьці прымусовае, што нагадвае той прынцып «кіравання», які вядомы нам не толькі з гісторый, але і з уласнага вопыту, калі «бацька» загадваў, а «дзеці» паслухмяна выконвалі. Але за апошні час і «дзеці» /і БНФ, і БСДГ, і іншыя, ды і дыяспара ў тым ліку/ незаўважна падраслі, ды і «бацькі» нібыта іншыя,а бачыце...

Хіба разумна хапацца за папругу, калі «дзеці» падаюць свой голас? Разумны «бацька» /урад, дзяржава/ выслухае кожнага, хто мае што сказаць, і ... падкажа, як лепей зрабіць тое, чаго дамагаюцца «дзеці». І праз тое займее большую — сапраўдную! — павагу і аўтарытэт, пра які не трэба будзе клапаціцца, бо толькі сапраўдны аўтарытэт той, пра які не клапоцішся.

Ці не пара нам адумацца, шаноўныя спадары? На парозе — Новы Век! Да яго — толькі драбнічка: сем нялёгкіх гадоў. Ці набудзем мы што за гэты час?

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

*Санкт-Пецярбург*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Тыя, што накіроўвалі масы, аддавалі перавагу пластмасам /чытай: пластычным масам/, адлітым у класы. Сябе важакі мас не прызнавалі за клас, хоць быў гэта клас наймацнейшы ў нас. «За грамадства без эксплуатацыі, — клікалі на чарговай маніфестацыі, — вядзіце нас у змаганні, майстры кіравання!» ... Хацеў бы, ды хіба аспрэчыш жыццё, ёсць масы, якім даспадобы ліццё.**

●

**Кіпеў бальшавіцкі гнеў, хоць ішло ўжо міма. На ўсякі выпадак Максіма схавалі ў засені дрэў. Задворкі ляжаць перад ім, газон сіратліва туліцца. «Кроч да мяне, Максім!» — кліча паэта вуліца.**

●

**Майстэрня скульптара — гісторыя дзяржавы... Міхоэлс тут, а побач з ім Цанава. Ляпіў абодвух ці не адвакат — няясна, хто ахвяра, а хто кат. Руплівы майстар вобразу пластычнага не заўважаў вакол сябе трагічнага, натхнёна гліну мяў каля станка, а нешта фармавала мастака.**

●

**Нашто нам сцяг? Каб знаць, куды дзьме вецер. Нашто нам вецер? Каб было з чым змагацца. Нашто нам змагацца? Каб гуртаваць свае шэрагі. Нашто нам гуртаваць свае шэрагі? Каб высока ўзняць сцяг. Нашто нам сцяг? Каб знаць, куды дзьме вецер...**

●

**Імідж /амаль па Дэйлу Карнэгі/: гаварыце павольна — каб выглядаць салідна, і ціха — каб прыслухоўваліся; сумнявайцеся — каб лічылі, што вы нешта ведаеце, і маўчыце — каб пачуць недасказанае; усміхайцеся — каб паказаць уласную перавагу, і гаварыце зняважліва пра сябе — каб праслыць сціплым; адно не паддаецца падробцы — уменне пісаць, але тут вас можа выручыць тэма.**

●

**Найдэмагагічнейшая з казак — інтэрнацыянальны абавязак. Пралягала лінія падману ад Гвадалахары да Афгана. Колькі пакаленняў у краіне аплаціла гэтую даніну. Хлопчыкі ў цынкавай труне... Звон пякельны па табе і мне...**

●

**Камунізм спаліў за сабой масты, нішто з сімвалаў не ацалела — ні стрэл «Аўроры» халасты, ні Леніна святое цела.**

●

**Кошка мацней, не іначай, бо гэта ж невыпадкова тыгры — сямейства кашачых, а не сямейства тыгровых. І львы, што пустыняй скачуць, таксама сямейства кашачых. Ты што — ката праганяеш, а знаеш, каго кранаеш?**

●

**Саліст жыве ў інтэрнаце на вельмі сціплую зарплату і ціха марыць пра мільён, што за мяжой заробіць ён. Як ты жаданы нам, спакой! Ён тыя грошы не патраціць, адразу выкупіць пакой у тэатральным інтэрнаце, а каб пад скон прытулак быў, падасца ў кааператыў. Ці вам не кажа пра грамадства штодзённы быт людзей мастацтва?**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Тыраж 15.000. Нумар падпісаны 13.05.1993 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12